АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА,
ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1993

ББК 82.3 Бел-6
Ж30



Рэдактар славеснай часткі тома
К. П. Кабашнікаў

Укладанне тэкстаў, уступны артыкул і каментарыі
Л. М. Салавей

Укладанне, сістэматызацыя
і расшыфроўка музычнага матэрыялу,
уступны артыкул, каментарыі і рэдагаванне І. Дз. Назінай

Рэцэнзенты:
кандыдат філалагічных навук А. В. Цітавец,
кандыдат філалагічных навук Р. І. Яраслаўцава

**Жаніцьба Цярэшкі** / Уклад. тэкстаў, уступ. арт. і камент. Л. М. Салавей; Уклад., сістэм. і расшыфроўка муз. матэрыялу, уступ. арт. і камент. І. Дз. Назінай.— Мн.:
Ж30 Навука і тэхніка, 1992.— 519. с.: нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць / АН Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).
ISBN 5-343-00675-2.
Женитьба Терешки.

Гэта работа з'яўляецца першай асобнай публікацыяй матэрыялаў старажытнай абрадавай гульні «Жаніцьба Цярэшкі», пашыранай у паўночных і цэнтральных раёнах Беларусі і не адзначанай у іншых славянскіх землях. Том уключае этнаграфічныя апісанні абрадавай гульні, тэксты песень, іх напевы і танцавальныя найгрышы.
Разлічана на этнографаў, фалькларыстаў, філолагаў, работнікаў культуры, усіх аматараў народнага мастацтва.

Ж $\frac{4702120105-118}{М 316(03)-93}$ 137—91

ББК 82.3 Бел-6

ISBN 5-343-00675-2

## «ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ» Ў БЕЛАРУСКАЙ ДУХОЎНАЙ СПАДЧЫНЕ

Сярод выдатных з'яў беларускай фальклорнай спадчыны асаблівае месца займае «Жаніцьба Цярэшкі». Гэта адна з найбольш цікавых нацыянальных форм каляднага абрадавага ігрышча моладзі, якая дасягнула шлюбнага ўзросту. Асноўнае дзеянне ігрышча — падбор шлюбных пар, жаніцьба маладых — мае тут умоўны, карнавальны, гульнёвы характар, уласцівы падобным абрадавым звычаям многіх еўрапейскіх народаў. Аднак распрацаванасць сцэнарыя «Жаніцьбы Цярэшкі» ў беларусаў, багацце песеннага, танцавальнага і музычнага кампанентаў, асаблівая ўзрушанасць і «прынцыповасць» удзельнікаў дзейства ў выбары пары паказваюць, што для шэрагу пакаленняў нашых продкаў гэтае ігрышча было нечым большым, чым проста святочнай забавай. За ім хаваецца, відаць, яшчэ язычніцкі і вельмі важны для народа абрад, які рэгуляваў фарміраванне новых сямейных гнёздаў. Істотна, што ўтварэнне шлюбных пар адбывалася па ўзаемнай схільнасці маладых людзей, адсюль і энтузіязм моладзі, і стойкая захаванасць гэтага абраду ў хрысціянізаваным грамадстве насуперак пэўнай насцярожанасці царквы аж да сярэдзіны нашага стагоддзя, калі урбанізацыя і гвалтоўная міграцыя насельніцтва (адток моладзі ў гарады) парушылі пераемнасць традыцый і разбурылі многія абрадавыя комплексы, якія не маглі раней знішчыць ні войны, ні стыхійныя беды, ні сацыяльна-эканамічныя змены ў жыцці народа.

Як і некаторыя іншыя жанры багатай фальклорнай спадчыны беларусаў, «Жаніцьба Цярэшкі» доўгі час заставалася ў цяні, не была дастаткова асэнсавана ва ўсіх аспектах і кампанентах, належным чынам ацэнена і ўведзена ў навуковы зваротак фалькларыстамі і этнографамі Беларусі. Больш таго, сам фактычны матэрыял не быў дастаткова выяўлены, спарадкаваны і сістэматызаваны, таму цяжка было выпрацаваць адэкватнае ўяўленне пра месца «Цярэшкі» ў фальклорным рэпертуары беларусаў. Пацвярджэннем сказанаму могуць служыць выданні «Этнаграфія Беларусі» і «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», якія змяшчаюць пра «Ця-

рэшку» вельмі сціплыя і няпоўныя звесткі. Складваецца ўражанне, што гэта нейкае пабочнае ўтварэнне, якое не мае значнай ролі ў гадавым абрадавым цыкле. І зусім цьмяна і невыразна праглядалася роля гэтага ігрышча ў быце народа. Аднак нічога дзіўнага тут няма, лёс іншых яркіх феноменаў беларускай народнай творчасці таксама доўгі час быў незайздросны ў сэнсе навуковага апісання і даследавання, і толькі ў працэсе падрыхтоўкі акадэмічнай серыі «Беларуская народная творчасць» стала бачна тэматычная, сюжэтная напоўненасць многіх жанраў, іх паэтычная адметнасць, пашыранасць на тэрыторыі Беларусі. Хоць гісторыя збірання матэрыялаў, якія адносяцца да «Жаніцьбы Цярэшкі», налічвае амаль паўтара стагоддзя, хоць да ігрышча праяўлялі навуковую цікавасць вядомыя народазнаўцы Беларусі дарэвалюцыйнага перыяду, а сучасныя даследчыкі гэту практыку прадоўжылі, усё ж многае ў гэтай з'яве недастаткова выяўлена і растлумачана.

Няма аднадушнасці ў дэфініцыі гэтай з'явы, вызначэнні яе жанравай спецыфікі, састаўных кампанентаў, паэтыкі песень і інш. Няма адказу і на пытанне пра паходжанне назвы ігрышча — «Жаніцьба Цярэшкі», і цэнтральнага персанажа — Цярэшкі, які паўстае з тэкстаў песень, але зусім не бачыцца ў самім дзеянні. Некаторыя даследчыкі лічаць «Жаніцьбу Цярэшкі» гульнёй (Е. Р. Раманаў, М. Я. Нікіфароўскі, С. П. Сахараў, Г. А. Барташэвіч, З. Я. Мажэйка, Н. С. Гілевіч), іншыя — гульнёй-танцам (А. Я. Багдановіч). Аднак такое пытанне не рашаецца, як вядома, большасцю галасоў, і варта прыглядзецца да спецыфікі «Цярэшкі», характэрных яе рысаў, якія дазваляюць паўней вызначыць семантыку з'явы, яе маштабнасць, вытокі. Адам Кіркор яшчэ ў 1858 г. у сваім «Этнаграфічным поглядзе на Віленскую губерню», даючы апісанне «Цярэшкі», называе яе танцам («пляска») і адносіць да народных забаў («увеселения»), а П. В. Шэйн, друкуючы апісанне «Жаніцьбы Цярэшкі», зробленае М. Я. Нікіфароўскім у 1884 г. у першым томе «Матэрыялаў...», змяшчае яго ў раздзеле «Калядныя ігрышчы і песні».

Найбольш пераканальным і прымальным нам здаецца азначэнне В. Я. Гусева, дадзенае ў кантэксце разгляду падобных святочных забаў славянскіх народаў. Ён піша: «Другую групу святочных забаў складаюць разнастайныя эратычныя ігрышчы і гульні, у якіх прысутнічае раслінная, зааморфная («Бык», «Яшчур») і вытворчая сімволіка (гульня ў «Каваля»), пераплятаюцца матывы кахання і смерці. Характэрнымі ўзорамі святочных ігрышчаў з'яўляюцца ўкраінская «Маланка» (засвоеная і суседнім неславянскім насельніцтвам; гл. Яцымір-

ский, 1914; Уварова, 1974), рускае складанае ігрышча, якое інсцэніруе вяселле (Шэйн, 1898, с. 325—331) і *беларускае ігрышча* тыпу *«Жаніцьба Цярэшкі»* ... (выдзелена мною.— *Л. С.*) (Шэйн, 1887, с. 99—105)»[1]. «Жаніцьба Цярэшкі» найбольш захавала тыя рысы, што парадняюць гэту з'яву з тым старажытным, язычніцкіх часоў ігрышчам, з якога маладыя зухаватыя жаніхі, нашы далёкія продкі, прыводзілі сабе жонак і якое неаднаразова ганьбілі і адмаўлялі хрысціянскія ідэолагі, знаходзячы ў гэтых так прывабных для маладой паствы забавах пагрозу ўсёй сістэме адносін у грамадстве, спакусу і гарэзію. Гэта і зразумела: у ігрышчы зліты шматлікія плыні, прывабныя для душы маладога чалавека — музыка, танец, спеў, гульня, прадстаўленне, магчымасць праявіць сябе ва ўсім гэтым, раўнапраўна ўдзельнічаць у забаве. Яно давала выключную магчымасць ад душы павесяліцца, пажартаваць, вылучыць з усіх свайго сардэчнага абранніка і выказаць сваю схільнасць да яго, урэшце, нават вырашыць свой жыццёвы лёс — знайсці спадарожніка на ўсё жыццё. Нездарма ігрышча ў Беларусі дажыло да пачатку нашага стагоддзя і паступова было заменена вечарынамі-танцамі. Аднак «Жаніцьба Цярэшкі» наладжвалася яшчэ ў 60-х гадах нашага стагоддзя ў раёнах свайго найбольшага пашырэння — Лепельскім, Докшыцкім, Полацкім, Шаркоўшчынскім і інш. Тут існуе адрозненне паміж «Цярэшкай», тэрыторыя якой абмежавана і блізка супадае з рассяленнем палачан, з рубяжамі Полацкай зямлі, і проста ігрышчам, якое бытавала скрозь і асаблівасці якога ў нас не даследаваны. Вядома, што яно існавала ў суседніх з «цярэшкаўскімі» раёнах проста пад назвай «ігрышча», наладжвалася таксама на Каляды, не мела спецыяльных песень і танцаў, не мела выбраных «бацькоў» і інш. Моладзь адной узроставай групы сама арганізоўвала забаву, хлопцы запрашалі музыканта, прыносілі трункі, а дзяўчаты разнастайныя закускі. Пары падбіраліся шляхам выцягвання «лёсаў» — скручаных паперак, на якіх былі запісаны імёны. Падзяліўшыся такім чынам, моладзь танцавала, а потым было застолле. Пары захоўваліся да канца забавы (Мядзельскі р. Мінскай вобл.).

Папулярнасць ігрышча ў беларусаў адзначалася народазнаўцамі мінулага стагоддзя. Так, у артыкуле «Калядныя святы ў Беларусі», змешчаным у газеце «Виленский вестник» за 1894 г., П. Дземідовіч пісаў: «Між іншым, адзначу тут адну буйную з'яву ў святочным жыцці беларуса — гэта «ігрышча».

[1] Гусев В. Е. Народные игры, драмы и театр // Этнография восточных славян. Очерки традиционной культуры. М., 1987. С. 451.

З прычыны вялікай колькасці святочных дзён «ігрышчы» такія частыя на Каляды, што, па-праўдзе, гэты час можна назваць перыядам «ігрышчаў». «Ігрышча», уласна, гэта вечар з танцамі». Ю. Гарбатоўскі ў артыкуле «Беларускія ігрышчы» адзначаў іх важную ролю ў жыцці моладзі, паказваў іх старажытную аснову. «Слова «ігрышча»,— пісаў даследчык,— гучыць нечым родным для нас, славян. Продкі нашы, па сведчанні летапісца Нестара, сыходзіліся на ігрышчы, што наладжваліся паміж сёламі, і «ўмыкалі» сабе за жонак дзяўчат, з якімі згаворваліся раней... Назіраючы, такім чынам, ігрышчы нашых дзён, мы бясспрэчна бачым у іх рэшткі старажытнаславянскага жыцця. Святочныя вечары і ночы, асабліва зімовыя, гадавыя святы, як, напрыклад, Каляды, Новы год, Масляніца, Вадохрышча, Радаўніца, Мікольшчына, праводзяцца вясковай моладдзю на ігрышчах...» (Смоленский Вестник. 1893. 5 мая). У апісаннях выяўляецца асноўная функцыя ігрышча — падбор маладых пар для будучых сапраўдных шлюбаў. Захаваліся прыказкі, якія паказваюць неаднолькавасць адносін да ігрышчаў людзей старэйшага пакалення і моладзі. «Выбірай жонку не на йгрышчы, а на іржышчы»,— казалі людзі сталыя, мудрыя. «Абы ўмела та́нчыць, а работку на́ўчыць»,— адгаворваліся юныя аптымісты. І адны і другія мелі сваю рацыю. Гэтыя выслоўі сведчаць, што наогул ігрышча было ўсё ж якраз тым месцам, дзе падбіраліся шлюбныя пары, завязваліся сімпатыі, схільнасці. У «Жаніцьбе Цярэшкі» функцыя падбору пар мела яшчэ большае значэнне. Пасля «Цярэшкі» часта жаніліся, што называецца, па-сапраўднаму, і некаторыя нашы інфарматары гаварылі, што ўдзельнічалі ў «Цярэшцы» толькі адзін раз, бо ў той жа год выходзілі замуж за сваіх хлопцаў, з якімі былі на «Цярэшцы».

Перш чым разглядаць, як адбывалася «Жаніцьба Цярэшкі», якія яна ўключала этапы, кампаненты, якія мела варыянты, спынімся на самой назве «Цярэшка». «Цярэшка» вядома як імя чалавека [2], прозвішча, назва вёсак [3]. І антрапонімы і тапонімы канцэнтруюцца найбольш у мясцовасцях, дзе бытавала і аднаіменнае ігрышча. Так, вёскі Цярэшкі вядомы ў асноўным у Віцебскай (Валынецкі с/с Верхнядзвінскага р., Слабадскі с/с Лепельскага р., Германавіцкі с/с Шаркоўшчынскага р.) [4]

---

[2] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнограф. сб. Имп. Рус. географ. об-ва. СПб., 1858. Вып. 3. С. 182—183. Імяніны Цярэшкі, згодна з уніяцкім календаром, адзначаліся 26 сакавіка новага стылю. Гл. Беларускі каляндар на 1914 год. Вільня, 1914. С. 11.

[3] Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977.

[4] Там жа.

і прылягаючай частцы Мінскай абласцей (Касцяневіцкі с/с Вілейскага р.)[5]. Акрамя таго, в. Цярэшка знаходзіцца ў Бабруйскім раёне Магілёўскай вобласці і в. Цярэшкавічы — у Гомельскім раёне Гомельскай вобласці. Прозвішча Церашковіч вядома з пісьмовых крыніц сярэдзіны XV ст.[6] Усё гэта сведчыць аб укаранёнасці «Цярэшкі» ў Беларусі, аб старажытнасці яго вытокаў.

Мілагучнасць гэтай назвы для слыху беларуса, нейкая асаблівая яе паэтычнасць і роднасць не засталіся незаўважанымі беларускай літаратурай. Славуты беларускі пісьменнік Васіль Быкаў назваў героя сваёй ранняй аповесці «Альпійская балада» Іванам Цярэшкам родам з вёскі Цярэшкі, што каля двух блакітных азёр на Беларусі. Гэта, на наш погляд, удала знойдзены сімвал роднай пісьменніку Віцебшчыны, наогул усёй Паўночнай Беларусі — эпіцэнтра нашай духоўнай самабытнасці.

Для разумення вобраза Цярэшкі шмат даюць беларускія казкі. Так, картатэка ІМЭФ АН РБ дае звесткі пра запісы казак, якія, згодна з міжнародным паказальнікам сюжэтаў, адносяцца да № 327 С, F (пра хлопчыка і ведзьму), у якіх хлопчык носіць імя Цярэшачка. Цікава, што якраз запісы казак з Цярэшкам паходзяць не толькі з раёнаў бытавання «Жаніцьбы Цярэшкі», але і з мясцін, вельмі аддаленых ад гэтага рэгіёна. Хлопчык Цярэшачка выступае ў казцы, запісанай у в. Вітахна Докшыцкага раёна былой Полацкай вобласці ў 1950-я гады ад вельмі старога чалавека (1884 г. н.). «Терешечка» дзейнічае ў казцы, запісанай у Курскай губерні, пра што сведчыць тэкст пад № 112 з вядомага збору А. Афанасьева. Вось гэты эпізод: «Благое жыццё было старому са старою! Век яны пражылі, а дзяцей не нажылі; замалада яшчэ перабіваліся сяк-так; састарэлі абое, напіцца падаць няма каму, і тужаць, і плачуць. Вось зрабілі яны калодачку, загарнулі яе ў пялюшку, паклалі ў калысачку, сталі люляць ды прыкалыхваць — і замест калодачкі стаў расці ў пялюшачках сынок Цярэшачка, сапраўдная ягадка»[7]. У казцы з гэтым сюжэтам, запісанай пад Туравам, драўляны хлопчык мае імя Цялежка[8],

---

[5] Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981.
[6] Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1968. Т. 1. С. 261.
[7] Народные русские сказки А. Н. Афанасьева: В 3 т. М., 1984. Т. 1. С. 146.
[8] Беларускі казачны эпас / Склад. У. В. Анічэнка. Мн., 1976. С. 19—21.

пад Мазыром — Цялежык [9], у Лоеўскім раёне — Цяльпешык [10] і інш.

Гэтыя імёны можна лічыць прамымі супадзеннямі, якія паходзяць з аднаго кораня, але невыпадковымі нам здаюцца таксама імёны Ліпнічак, Ліпунюшка, Піліпка ў гэтым сюжэце, якія проста сведчаць пра драўніну (ліпу), з якой зроблены быў той цельпучок, што стаў такім цудоўным хлопчыкам. Дарэчы, ліпа і зараз найбольш прыдатны матэрыял для разьбярства, ім карыстаюцца як народныя разьбяры, так і прафесійныя мастакі.

У каментарыях да казак тыпу АТ 327 С, F (№ 109) Л. Г. Бараг і М. У. Новікаў пішуць: «Цельпушок (альбо Цярэшачка, Цялесік, Лутонюшка, Ліпунюшка) усходнеславянскіх казак нагадвае стаўшую жывой драўляную фігурку хлопчыка ў заходнеславянскіх і іншых заходніх варыянтах сюжэта пра хлопчыка і ведзьму. Песенныя звароты маці да Іванькі-Цельпушка маюць паралелі ў беларускіх і ўкраінскіх варыянтах». (Народные русские сказки А. Н. Афанасьева. Т. 1. С. 464.)

Такім чынам, у казках адбілася ўяўленне, вядомае яшчэ з міфалогіі старажытных грэкаў, што скульптура, чалавечая фігура, зробленая майстрам, ажывае (Пігмаліён і Галатэя). Уласна, для ўсяго перыяду язычніцтва характэрна пакланенне кумірам, выробленым рукамі чалавека. На наш погляд, казачнае тлумачэнне з'яўлення Цярэшкі цалкам падыходзіць і для гульні: Цярэшка — гэта драўляная фігурка, якая пры пэўных умовах ажывае. А якая функцыя Цярэшкі, чаму ў яго гонар названа такое багатае і цікавае ігрышча? Можна меркаваць, што наш Цярэшка ў язычніцкія часы, як і адпаведныя персанажы ў балцкай міфалогіі [11], быў альбо ахоўнікам маладой сям'і, альбо памагатым маладым людзям у каханні. Ва ўсякім разе ў песнях-цярэшках вельмі часта сустракаецца зварот да Цярэшкі: «Цярэшка, Цярэшухна, мой мілы пацешухна» (задаволенасць парай), «Цярэшка, бяда, бяда, далі мне старога дзяда»; альбо: «Цярэшка цярэх-цярэх, мой дзедзька з арэх, з арэх» (незадаволенасць «шлюбам»). Шматлікія песні пачыналіся проста зваротам да Цярэшкі: «Цярэшка, Цярэшачка, убітая сцежачка, бягу я сцежачкай трушком...», у яго пыталіся пра падарункі-сімвалы (шпілечкі, іголачкі, напарстачкі, стужачкі, падвязачкі, а найперш залатыя пярсцёначкі

---

[9] АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 169, л. 1—3, № 1. Зап. І. І. Крук у 1978 г. у в. Махнавічы Мазырскага р. Гомельскай вобл.

[10] Зап. І. І. Крук у 1980 г.

[11] Мифы народов мира. М., 1987. Т. 1. С. 156.

для вянчання: «Цярэшка чаху, чаху, што ў цябе ў мяху, у мяху?»). Існуе шмат тэкстаў, дзе гаворыцца, што Цярэшку трэба жаніць, бо «Цярэшка валочыцца», што яму «жаніцца ня хочацца» альбо «жаніцца хочацца», што «Цярэшка жанілася, ды з печы звалілася, галава разбілася» ці «на крошкі разбілася». Тут у Цярэшкі нават невыразна вызначаны род: то «ён валачыўся», то «звалілася, разбілася». Аднак разбіцца на крошкі ўсё ж можа Цярэшка тады, калі гэта толькі якаясьці фігурка, а не жывы чалавек.

Цікавым, на наш погляд, з'яўляецца група твораў, дзе Цярэшку «бяда стала», што ў яго жонка няверная.

Цярэшка жанілася,
Пад лаўку звалілася.
Цярэшку біда стала —
З кім яго жана спала?
Ці ў полі пад ліпкаю
З маладым Піліпкаю,
Ці ў полі пад рэшкаю,
З маладым Цярэшкаю?

*(Зап. В. М. Каламыцава)*

Папрок Цярэшкавай жонцы ўяўны, гэта папрок-апраўданне, папрок-пахвала, калі ўлічыць, што Цярэшка і Піліпка адно і тое ж, як у тым казачным сюжэце. Яшчэ часам сустракаюцца іншыя імёны, напрыклад Ягорка, але гэта імя, як Піліпка з ліпай, можа звязвацца з яварам, таксама асаблівым фальклорным дрэвам. Цярэшка, як здаецца, найбольш верагодна мае сваё паходжанне ў дрэве — фігурка бажка, апекуна маладых. Па многіх прычынах яго канкрэтная выява, відаць, ужо даўнапрадаўна не рабілася: па-першае і галоўнае, хрысціянства такое не ўхваліла б, па-другое, яго функцыі маглі мець спецыфічнае адценне, і маладыя людзі маглі выказваць яму пашану скрытна, бянтэжачыся старэйшых, па-трэцяе, прысутнасць бажка магла быць непатрэбнай, дастаткова было якога-небудзь яго атрыбута, пра які з цягам часу забыліся.

Пэўным аргументам да сказанага можа служыць тапанімічнае паданне пра вёску Цярэшкі, што зараз знаходзіцца ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці, прыведзенае Адамам Кіркорам у яго працы «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (Этнограф. сб., 1858. Вып. 3. С. 181—183). У паданні намаляваны вобраз заснавальніка вёскі Цярэшкі, чалавека нетутэйшага, з чужой вымовай, чалавека незвычайна мудрага, умелага, добразычлівага, таямнічага, адзінокага жыхара пушчы, чалавека, які ведаў час сваёй смерці і паміраў у самотнасці

так, як памiралi, згодна з беларускiмi вераваннямi, чарадзеi i варажбiты. Цi не з'яўляецца гэта цьмяным успамiнам пра iснаванне ў даўнасцi прыхiльнiкаў культу Цярэшкi цi захавальнiкаў гэтага культу, якiя адсунуты былi хрысцiянствам на ўзбочча жыцця, у лясныя нетры. Можа, такi жрэц-Цярэшка з'яўляўся потым на iгрышча, што адбывалася ў гонар яго боства? У песнях-цярэшках праглядаецца нейкi момант накшталт прыходу старога дзеда: «Цярэшка каху, каху», «Цярэшка чаху, чаху», «Цярэшка ваху, ваху» i iнш. Нездарма ж «Цярэшка» пачыналася заўсёды позна, пад поўнач, калi, згодна з вераваннямi беларусаў-хрысцiян, разгульвае па свеце ўсялякая нячыстая сiла, ваўкалакi, ведзьмы, здані, чэрцi, i толькi як запяе певень i абвесцiць надыход дня, яны знiкаюць. Так i «Цярэшку» жанiлi з поўначы да ранiцы, а ранкам разыходзiлiся дамоў i збiралiся на працяг яе зноў толькi пад вечар.

Спробу высвятлення этымалогii тэрмiна «цярэшка» i семантыкi iгрышча «Жанiцьба Цярэшкi» зрабiла Г. А. Барташэвiч. У асноўным яе меркаванне грунтуецца на слоўнiку I. I. Насовiча. «Церах, па I. I. Насовiчу,— пiша даследчыца,— гэта i iмя ад хрышчэння — Цярэнцi, i «толкушка» (таўкач), у чым, безумоўна, можна бачыць рысы фалiчнага культу. I гульня тады азначае жанiцьбу таўкача накшталт жанiцьбы комiна»[12]. На жаль, цалкам прыняць гэтае меркаванне немагчыма, бо на той жа старонцы слоўнiка Насовiча даецца i слова «цярэшка» («церешка») у значэннi «матылёк». У слоўнiку П. А. Растаргуева таксама «тэрэшка», «тэрэхаўка» азначае матылька. Праўда, хоць апошняе не вельмi прасвятляе складанае пытанне этымалогii тэрмiна, ўсё ж iгнараваць такi цiкавы моўны факт нельга. Здавалася б, што агульнага апрач iмя ў драўлянай лялечкi з казкi i матылька? Аднак агульнае ёсць. Матылёк «засынае» на зiму, робiцца нежывым, а потым ажывае вясной пад цёплымi праменямi сонца. Драўляны нежывы Цярэшка ў казцы таксама робiцца жывым пад уздзеяннем цеплынi i ласкi людзей. Паколькi «Жанiцьба Цярэшкi» адбываецца на Каляды, якраз у той паваротны момант, калi спыняецца змяншэнне дня, знiжэнне сонца i пачынаецца яго адваротны ход на ажыўленне прыроды з зiмовага сну, то ў iм можна бачыць i знак павароту прыроды да жыцця, i сляды магiчнага садзейнiчання жыццестваральнаму працэсу. Трэба заўважыць, што ў раёнах найбольшай распаўсюджанасцi «Цярэшка» — гэта асноўнае каляднае абрадавае дзеянне, што ўзмацняе значнасць усiх звязаных з iм вобразаў i матываў.

---

[12] Барташэвiч Г. А.// Весцi АН БССР. Сер. грамад. навук. Мн., 1988. С. 86.

Пацвярджэннем таму, што Цярэшка ў значэнні матылька выступае тут не выпадкова, а звязваецца з архаічнымі ўяўленнямі нашых продкаў, могуць служыць заўвагі вядомага рускага вучонага А. М. Афанасьева пра народныя ўвасабленні душы чалавека: «... пасля скону чалавека душа яго пачынала новае жыццё; акрамя натуральнага нараджэння, калі чалавек з'яўляецца на свет з жывою душою, гэта апошняя ў таямнічую хвіліну смерці як бы зноў, у другі раз, нараджалася для другога жыцця — замагільнага. Пакінуўшы матэрыяльную абалонку, яна пераўвасаблялася ў новую форму; з ёй, на думку назіральнага, але па-дзяцінаму неразвітога язычніка, павінна была адбывацца тая ж метамарфоза, якая назіраецца ў жывой прыродзе. Фантазія карысталася двума нагляднымі параўнаннямі: а) раз народжаны вусень (чарвяк), паміраючы, уваскрасае зноў у выглядзе легкакрылага матылька («мотылька») альбо іншага крылатага насякомага; б) птушка, народжаная першапачаткова ў форме яйка, потым як бы нараджалася паўторна, вылупляючыся з яго птушанём. І птушка, і матылёк, і наогул крылатыя насякомыя, што ўтвараюцца з лічынак (муха, цвыркун, пчала і інш.), далі свае вобразы для ўвасаблення душы чалавека» (А. Н. Афанасьев. Древо жизни. М., 1983. С. 358). Гэтыя назіранні вучонага супадаюць са сведчаннямі беларускіх этнографаў. Напярэдадні Каляд, калі запрашалі «дзядоў» (памерлых продкаў) куццю есці, то адчынялі дзверы і пільна сачылі за якім-небудзь рухам у іх — клубамі пару ў паветры, начным матыльком, што раптам улятаў у хату, і інш., і тады радаваліся, што душа нейкага продка прыляцела да іх на свята. Жаніцьба Цярэшкі адбывалася назаўтра, так што і па часе, і па сэнсавай напоўненасці вобраза, што даў назву гэтаму ігрышчу, яна звязваецца з ушанаваннем душаў продкаў, культ якіх быў вельмі ўстойлівы на Беларусі.

Адзначаны даследчыкамі эратызм ігрышчаў моладзі нельга перабольшваць, ва ўсякім разе сабраны фактычны матэрыял паказвае, што для ўдзельнікаў «Жаніцьбы Цярэшкі» не існавала асобых правіл паводзін, не зніманіся тыя забароны, якія былі прыняты звычаёвым правам. Вольныя жарты і песні з эратычнай сімволікай дапускаліся «бацькамі», а не моладдзю, падобна да таго, як гэта практыкавалася сватамі на сапраўдным вяселлі, аднак акцэнт усё ж клаўся на знаёмства маладых, узаемную іх ацэнку, адкрыццё адно аднаго. Ды і дзеячы хрысціянскай царквы, ганячы язычніцкія звычаі народа, не бачылі ў іх нейкай асаблівай распусты, акрамя музыкі, танцаў, сумеснага ўдзелу ў забавах хлопцаў і дзяўчат і адцягнення ўвагі ад малітвы ў храме. Верагодна, не нізкі

маральны ўзровень народных абрадаў турбаваў хрысціянскіх пастыраў, а вялікае іх укараненне ў народнай свядомасці, цяга да іх новых пакаленняў моладзі, што стварала небяспечную ідэалагічную канкурэнцыю. Вядомы рускі даследчык Я. В. Анічкаў сабраў багаты матэрыял, дзе асуджаліся піры і ігрышчы. Разам з тым вучоны паказвае на падставе тых жа хрысціянскіх павучанняў, што ігрышчы народ надзвычай любіў, нішто не перашкаджала яму — ні надвор'е, ні занятасць, ні стомленасць — пайсці на ігрышча, паслухаць музыкаў, патанцаваць. У той жа час для наведвання царквы вышукваліся і знаходзіліся адгаворкі і «перашкоды»: «...аще плясци или гудци или ин хто ігрец позоветь на игрище или на какое зборище идольское, то вси тамо текут радуяся (а в веки мучимы будуть) и весь день предстоят позорьствующе тамо. А Богу апостолы и пророки веща..., а к нам..., а мы позеваю... и чешемся и потягаемся, дремлем и речем: дождь или студено, или лестно ино, да все то си спону творим. А на позорищех ни покрову сущю, ни затищью, но многажды дождю и ветром дышющю или выялици, то всё приемлем, радуюся, позоры деяна пагубу душам, а в церкви покрову сущю і заветрию дивну и не хотять прити на поученье, ленятся...»[13]

Як было не абурацца прававернаму хрысціяніну з гэтай дзіўнай упартасці народа, які пагарджаў цудоўным камфортам царквы, выгоднай зацішнасцю яе («заветрию дивну») і з прагнасцю ўдзельнічаў у відовішчах нават пад дажджом, на ўсіх вятрах, на сцюжы, стоячы часта цэлы дзень. Я. В. Анічкаў адзначаў, што звароты і павучанні айцоў царквы адрасаваліся найперш арыстакратам, знаці, бо народ моцна трымаўся звычаяў продкаў яшчэ доўгі час, і змяніць гэтыя звычаі царква працяглы час не мела сілы і добра разумела гэта. Да таго ж хрысціянізацыя, падтрыманая ў вярхах грамадства, не закранула народ і не адначасова прыйшла ў розныя землі ўсходніх славян, што адзначаў яшчэ Ф. І. Буслаеў: «Знішчэнне язычніцтва ў старажытнай Русі можна вызначыць не столькі стагоддзямі, колькі *мясцовасцямі* (выдзелена мною.— *Л. С.*). У Кіеўскай вобласці, напрыклад, ужо ў XII ст. панавала хрысціянства, у той час як паўночна-ўсходняя Русь была занурана ў язычніцтва»[14].

Відавочна, што хрысціянізацыю нашых продкаў, найперш насельніцтва Полацкага княства, нельга параўноўваць з адпаведным працэсам ў кіеўскіх землях, што іншы раз робіцца

---

[13] Аничков Е. В. Язычество и Древняя Русь. СПб., 1914. С. 190—191.
[14] Там жа. С. 169.

даследчыкамі. Гісторыя Беларусі мела свае адметнасці, што адбілася ў фарміраванні сістэмы жанраў нашага фальклору— гэтага бяздоннага сховішча язычніцтва, яго вобразаў, тэм, асаблівай паэтыкі, урэшце захаванасці цэльнасці яго этычных і эстэтычных нормаў. Складваецца ўражанне, што ў выніку дзеяння розных абставін хрысціянізацыя ў нашым краі адбывалася інакш, чым у Кіеве, што яна ішла больш павольна, укаранялася больш лагодна, памяркоўна і значна пазней. Бо чым растлумачыць, што старажытныя ігрышчы ў нас захаваліся да другой паловы XX ст., прычым не ў адасобленых выпадках, а ў комплексе са шматлікімі іншымі праявамі былога язычніцтва. У саміх фальклорных тэкстах зберагліся ўспаміны пра розныя дзействы дахрысціянскага перыяду, якія выкараняліся царквой нароўні з ігрышчамі. Гістарычнымі рэліктамі былі абрадавыя піры. Іх рытуальная сутнасць таксама захоўвалася і часткова ўсведамлялася ўдзельнікамі.

Істотна, што ў нашым фальклоры, і ў прыватнасці ў цярэшках, захаваўся і старажытны тэрмін — «пір»: «Я ў піру была, не ўпівалася, // Я дамоў ішла, не валялася»; «А ні з ім у пір пайсці, // А ні з ім дома быці: // У пір пайсці — сварыціся, // Дома быці — пабіціся». З гэтых прыкладаў відаць, што язычніцкая практыка абрадавых піроў працягвалася, што ў іх удзельнічалі як мужчыны, так і жанчыны. Анічкаў адзначаў, што, згодна з павучаннямі, хрысціянству асабліва ненавісны былі «пляшущие жены». «Пляшущая бо жена невеста сатанина нарицается и любовница диаволя, супруга бесова; не токмо сама сведена будет на дно адово, но и тии, иже с любовию позорують и всластях разжигаются на ню похожию, прельщающе святые мужи плясанием, яко же дщи Иродиада. Пляшущая бо жена многим мужем жена есть...»[15]

Аднак гнеўныя выказванні хрысціянскіх аскетаў не знаходзілі поўнага разумення ў народа, тым больш што ў гэтых абвінавачваннях перабольшана «пагібельнасць» ігрышчаў і піроў, якія адбываліся не стыхійна, а ў адпаведнасці з пэўнымі правіламі і ўстаноўкамі, іншая справа, што народ меў сваё ўяўленне пра тое, што добра, а што блага і што прыгожа, а што не.

Глыбей зразумець такую складаную з'яву, як «Жаніцьба Цярэшкі», дапамагае супастаўленне яе з падобнымі абрадавымі формамі ў культуры еўрапейскіх народаў, грунтоўна даследаванымі вучонымі. Так, С. А. Токараў пісаў: «Амаль ва ўсіх народных святах, ва ўсіх памятных днях сельска-

---

[15] Аничков Е. В. Язычество и Древняя Русь. С. 193.

гаспадарчага года звяртае на сябе ўвагу прысутнасць звычаяў, якія так ці інакш датычацца ўзаемаадносін полаў (мы іх умоўна называем эратычнымі): гэта любоўная магія і блізкія да яе па мэце варожбы, гульні моладзі з адценнем флірту, гульнёвае саперніцтва і барацьба полаў, фалістычныя звычаі і гульні, абрадавы травестызм, рытуальная імітацыя сватаўства і вяселля (якая ў некаторых выпадках пераходзіць у рэальнае вяселле), магічнае ўздзеянне Эраса на ўрадлівасць палёў (двухбаковая сувязь урадлівасці зямлі і жаночай фертыльнасці), элементы культу бостваў плоднасці»[16].

Сапраўды, многія рысы каляндарных свят, нагаданыя ў гэтым выказванні, уласцівыя і беларускай «Цярэшцы»: тут прысутнічаюць элементы флірту, гульнёвыя дзеянні (лаўленне кожным хлопцам сваёй дзяўчыны і кожнай дзяўчынай свайго хлопца), спаборніцтва полаў (выхваленне ў песнях дзяўчыны, хлопца, своеасаблівыя песенныя дыялогі), рытуальная імітацыя вянчання, якая часам становіцца рэальнасцю (бо «цярэшкаўскія» пары потым жэняцца), рытуальнае застолле як ахвяраванне плёну зямлі для забеспячэння яе ўрадлівасці і, як нам здаецца, ушанаванне сцёртага бегам часу ці спецыяльна некалі схаванага ад нядобразычліўцаў боства з невыразнымі функцыямі свата-жаніха. Хацелася б услед за С. А. Токаравым сказаць, што эратызм, які праяўляецца ў гэтым ігрышчы, можна назваць гэтым тэрмінам толькі ўмоўна, паколькі вышэйназваныя аспекты звязваліся падборам маладых пар. Нам вельмі імпануе таксама ацэнка С. А. Токаравым падобных звычаяў, вызначэнне іх ролі ў жыцці сярэдневяковай абшчыны. Ён пісаў: «...у эпоху сярэдневяковага абшчыннага быту, калі і складвалася ўся сістэма каляндарных звычаяў, сфера шлюбна-палавых адносін ані не лічылася прыватнай справай зацікаўленых асоб; гэта сфера закранала самыя жыццёвыя інтарэсы сельскай абшчыны, перш за ўсё яе дэмаграфічныя, г. зн. рэпрадукцыйныя, інтарэсы. Плоднасць жанчын, мнагадзетнасць спрадвечна разглядаліся як дабрадзейства і як боскае блаславенне; бяздзетнасць жа, бясшлюбнасць — як няшчасце, як боская кара. Больш таго, нежаданне альбо няўменне ўступіць у шлюб рашуча асуджалася абшчынай. Такія погляды, распаўсюджаныя ў эпоху абшчыннага ладу, захаваліся ў рэштках да нашых дзён. Яны вельмі рэльефна праявіліся ў каляндарнай абраднасці, прыняўшы

[16] Токарев С. А. Эротические обычаи // Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Исторические корни и развитие обычаев. М., 1983. С. 98.

ў пераважнай большасці жартоўную форму, але за жартамі хаваўся жыццёва важны сэнс звычая»[17].

Апошняе пацвярджаецца даследчыкамі народнага побыту Беларусі. Так, здавалася б, у XIX—XX стст. скрозь панаваў агульнапрыняты вясельны абрад са сватаннем, дзявочым вечарам, бласлаўленнем, дарэннем, вянчаннем, перазовамі і інш. Аднак ёсць сведчанні, што паралельна існавалі і іншыя старажытныя формы шлюбу ў той жа Віцебскай губерні, дзе так распаўсюджана была «Жаніцьба Цярэшкі». «У Беларусі,— пісаў М. М. Нікольскі,— у многіх паветах былой Віцебскай губ. яшчэ ў 70—80-х гадах XIX ст. на масленічных кірмашах выкраданне («увод») дзяўчат-нявест было звычайнай з'явай (Ковалевский. Соч. С. 93). Асобныя выпадкі выкрадання дзяўчат на масленіцы засведчаны там жа і пазней, у 900-х гадах, як у самім Віцебску (але толькі ў стараверскіх сем'ях), так і ў вёсках Пляханы і Скураты цяпер Мехаўскага раёна Віцебскай вобласці (Скураты зараз існуюць у Докшыцкім, Шаркоўшчынскім і Пастаўскім раёнах.— *Л. С.*), дзе выкраданні дзяўчат адбываліся «з ігрышча» без ведама бацькоў абодвух бакоў»[18]. З гэтага можна меркаваць, што і «Жаніцьба Цярэшкі» з клапатлівым падборам пар была не толькі забавай (хоць і праходзіла ў плоскасці гульнёвасці, гумару), але і сур'ёзным момантам у жыцці маладых людзей.

Апісанні «Жаніцьбы Цярэшкі» недастаткова дакладныя і падрабязныя, бо толькі ў рэдкіх выпадках зроблены відавочцамі, якія прысутнічалі на гэтым ігрышчы. Да таго ж збіральнікам-фалькларыстам вядома, як цяжка паспець апісаць, зафіксаваць зменлівы малюнак дзеянняў на сапраўдным вяселлі, тым больш цяжка гэта было зрабіць на «Цярэшцы» ў цеснаце, шуме, пры недастатковым асвятленні, без сучасных тэхнічных сродкаў запісу. У апісаннях амаль цалкам прапускаецца вельмі важны падрыхтоўчы этап, калі, рыхтуючыся ў душы да «Цярэшкі», больш актыўныя дзяўчаты і хлопцы знаходзяць спосаб пацішку паведаміць мяркуемым «бацькам» аб пажаданым партнёры ці, наадварот, зусім непрыймальным. «Бацькі» потым улічваюць пачуцці маладых пры падборы пар.

Такім чынам, падрыхтоўчы этап да «Цярэшкі» застаецца не бачным для недасведчанага назіральніка, аднак інфарма-

---

[17] Токарев С. А. Эротические обычаи. С. 101.

[18] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Мн., 1956. С. 53.

тары паведамляюць, што апошнія тыдні перад Калядамі моладзь жыла ў вялікім напружанні і ўпотай вяла сваю работу, каб забяспечыць сябе партнёрам, не толькі сімпатычным, але і прэстыжным, «роўнага гонару», аб чым шмат пяецца ў песнях у час самой «Цярэшкі».

Наступным этапам падрыхтоўкі да «Цярэшкі» з'яўляюцца танцы, калі моладзь, сабраўшыся разам у прыдатнай для агульнай забавы хаце (а раней у карчме), танцуе ўвесь вечар, не выяўляючы намеру «жаніць Цярэшку». Толькі пад поўнач, па загаду ці напамінку старэйшых аб'яўляецца ўсім, што будзе «Цярэшка».

Першым актам уласна «Жаніцьбы Цярэшкі» з'яўляецца выбар «маткі» і «бацькі», іх «скручванне» ў танцы. Часам «бацькоў» чым-небудзь выдзялялі: надзявалі «матцы» доўгую спадніцу, завязвалі хустку, «бацьку» прычаплялі бараду, вусы. Аднак гэта было неабавязкова.

Наступны этап «Цярэшкі» — падбор пар. Параіўшыся з «бацькам», «маці» брала хлопца, а «бацька» дзяўчыну (альбо наадварот). Пратанцаваўшы з імі, яны ў танцы ж злучалі маладых, якія з гэтага моманту станавіліся «дзедам» і «бабай».

«Пажэненыя» маладыя не проста танцавалі паміж сабой; узяўшыся намітусь пад рукі, яны «перакручваліся» млынком на месцы пад музыку «Цярэшкі», «Лявоніхі» ці нават полькі, г. зн. «скручваліся», як скручваецца, звіваецца з дзвюх столак нітка ці вяроўка, каб быць трывалай, моцнай. У гэтым бачыцца магія «скручвання» маладых людзей у адну сям'ю, трывалую сямейную пару.

Падбор пар — гэта кульмінацыйны этап ігрышча, вельмі клапатлівы і адказны для «бацькоў» і вельмі істотны для «дзяцей»: ад удалага выбару пары залежаў настрой не толькі на гэты вечар, але і на ўвесь год, больш таго, успаміны пра «Жаніцьбу Цярэшкі», радасць ці прыкрасць з нагоды гэтай падзеі многія праносілі праз усё жыццё. Калі ж пары падабраны, расстаўлены, лёс маладых вырашаны — напружанне спадае. Цяпер пачынаецца самы вясёлы, насычаны песнямі, гумарам этап пералоўлівання маладых. Кожная пара двойчы выступае на першы план, калі «дзядулька» ловіць сваю «бабульку» і наадварот. Тут адкрываюцца неабмежаваныя магчымасці выявіць свае здольнасці, свой настрой, адносіны да партнёра, сваё адчуванне гумару, уменне зграбна рухацца, спрытна злавіць партнёра. Гэтыя якасці цаніліся, стваралі маладым добрую славу, заваёўвалі прыхільнасць сяброў. Нягледзячы на тое што песні-цярэшкі ад імя маладых удзельнікаў

часам спявалі прысутныя тут жанчыны, з саміх песень відаць, што ўменне спяваць, выказацца праз песню неабходна было ўсім маладым удзельнікам, а нясмеласць ці невалоданне фальклорнай традыцыяй адзначалася як недахоп, як пэўная загана і дзяўчыны, і хлопца:

Дам я бабцы дуката,
Каб наняла адваката...

Тое ж гаварылася і хлопцу, калі яму «памагалі» ў спеведыялогу:

Мой дзядулька языка ні маіць,
Адвыката наймаіць.
Адвыкат набрэшыцца,
Дзядулька пацешыцца.

Пасля таго як двойчы пералавіліся ўсе пары, праспяваліся ўсе цярэшкі, іграецца на заключэнне агульная полька. Калі шмат моладзі, шмат пар (30—40), а «Цярэшка» пачыналася звычайна позна, апоўначы, то ўвесь гэты працэс цягнецца да раніцы. Моладзь дамаўляецца аб часе наступнага збору і ідзе адпачываць. Днём збіраюцца на пір, прыносяць напіткі, закуску, зносяць у хату сталы, засцілаюць іх і садзяцца парамі. «Бацькі» сочаць за парадкам, кіруюць застоллем, віншуюць, весяляць «маладых». За сталом спяваюць любыя песні, але ў кожнай мясцовасці былі свае любімыя, якія заўсёды спяваліся пры такой нагодзе. На жаль, яны амаль што не ўлічаны, не выяўлены, паколькі ўвагу збіральнікаў цалкам паглынала цікавасць да асаблівага песеннага жанру — цярэшак, песень, створаных толькі для «Жаніцьбы Цярэшкі», непарыўна звязаных з гэтым ігрышчам. Яны выконваліся толькі пры цярэшкавай дзеі, а на самых ускраінах цярэшкавага арэала, дзе ўжо «Цярэшку» не «жанілі», занатаваны выпадкі ведання асобных песень-цярэшак, адарваных ад самога ігрышча. Аднак там яны жывуць па-за абрадам, як асколкі нечага вялікага цэлага, як і іншыя некарэнныя, запазычаныя, прынесеныя звонку творы. З цэнтра цярэшкавай традыцыі, з гістарычнай Полаччыны, ішло пранікненне яе ў блізкія раёны, але мясцовая традыцыя часам дапускала толькі засваенне цікавай назвы і пад ёй культывавала адметныя ад «Цярэшкі» формы. Так, Наталля Пятровіч у 1986 г. запісала ў в. Старое Янчына Барысаўскага раёна апавяданне пра ігрышча «Жаніцьба Цярэшкі», якое называлі таксама «гуляць у бліны» і якое адбывалася на Каляды і ўвесь «мясавік» аж да «масленкі». Моладзь, хлопцы

і дзяўчаты, стаялі ў крузе, а ў цэнтры хлопец, спяваючы адпаведныя песні, выбіраў «жонку», «цешчу», «цесця», ставіў побач з сабой, потым адпаведна адпраўляў «цешчу» з «цесцем», а дзяўчыну пакідаў, пара лічылася пажэненай. Пасля таго як усе пажэняцца, адбываліся танцы. Як і на «Цярэшцы» сапраўднай, тут прысутнічалі гледачы — дарослыя, старыя і малыя, але застолле пачыналі яшчэ да танцаў, а пасля «жаніцьбаў» яго працягвалі. Гэты варыянт каляднага ігрышча адрозніваецца ад «Цярэшкі» тым, што на ім не спявалася ні адной цярэшкі, не гучалі цярэшкаўскія мелодыі ў інструментальным выкананні, не было «бацькі» і «маткі», падбор пар адбываўся ў карагодзе, не было характэрнага «скручвання» пад музыку («Цярэшку», «Лявоніху», польку) і пералоўлівання «дзядулькі» з «бабулькай».

Падобны ўспамін пра «Жаніцьбу Цярэшкі», але яшчэ больш лаканічны, занатаваны ў в. Міхалішкі Астравецкага раёна: «Дзяўчаты станавіліся ў круг, а хлопец адзін — у сярэдзіне круга. Дзеўкі ходзяць вакол і пяюць:

Цярэшка, Цярэшанька,
Дзе твая пацешанька?

(далей словы спявачка забылася)

Хлопец выбірае сабе дзеўку і выходзіць з круга. На яго месца з'яўляецца іншы хлопец». (АІМЭФ, ф. 8, воп. 33, сш. 2, л. 31. Зап. у 1970 г. Г. А. Барташэвіч.)

Спрадвечнымі раёнамі пашырэння «Цярэшкі» трэба лічыць сучасныя Полацкі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Ушацкі, Лепельскі, Мёрскі, Шаркоўшчынскі, Пастаўскі раёны Віцебскай вобласці. Недастаткова поўна сабраны звесткі адносна яе бытавання ў Браслаўскім, Верхнядзвінскім, Бешанковіцкім раёнах, хоць тут яна магла існаваць у класічнай сваёй форме. Барысаўскі, Лагойскі, Вілейскі, Мядзельскі раёны Мінскай вобласці — гэта ўжо ўскраіна арэала «Цярэшкі», тут яна заўважаецца толькі на сумежжы з раёнамі Віцебскай вобласці ўжо у размытых формах. Нават і на тэрыторыі ўстойлівай цярэшкавай традыцыі заўважаецца безліч варыянтаў гэтага ігрышча, аднак зменлівасць тут ідзе ў напрамку ад паўнаты, разгорнутасці да скарачэння, спрашчэння, выдалення пэўных кампанентаў. Напрыклад, «Цярэшку» ігралі, але не спявалі, дзяліліся на пары, танцавалі і наладжвалі застолле. У гэтым спрашчэнні некаторая частка моладзі нават бачыла як бы асучасніванне ігрышча, палягчэнне яго для ўдзельнікаў, паколькі «Цярэшка» з пералоўліваннем і спяваннем была занадта сур'ёзным выпра-

баваннем для тых, хто ўжо недастаткова валодаў песенным рэпертуарам. Адным словам, пэўныя змены ў сцэнарый «Цярэшкі» ўносіліся абавязкова, асобныя дэталі забываліся, трацілі свой сімвалічны сэнс. Так, у песнях-цярэшках у зваротах да Цярэшкі часта стаіць пытанне, што ён прынёс дзяўчатам. Адказы сведчаць, што гэта былі розныя жаночыя дробязі: іголкі, напарсткі, шпількі, стужкі, пярсцёнкі (атрыбуты жаночай працы — шыцця, вышывання) ці прадметы для заручэння, вянчання. У апісаннях «Цярэшкі», нават зробленых у мінулым стагоддзі, не ўпамінаецца пра падарункі для дзяўчат, ёсць толькі заўвагі пра частаванне іх цукеркамі ці якім пітвом, калі ігрышча было ў карчме. Аднак у апавяданні пра «Цярэшку» Хрысціны Акуленка, беларускі з Омскай вобласці, 1916 г. н., гаворыцца пра абмен падарункамі паміж хлопцамі і дзяўчатамі: хлопцы прыносілі пярсцёнкі, прыколкі, шпількі і інш., а дзяўчаты шылі і вышывалі ім кісеты. Такім чынам, пэўныя элементы, згубленыя дома, захоўваюцца перасяленцамі на чужыне, дзе яны як бы кансервуюцца. Гэты працэс агульнапрызнаны для фальклору.

Паколькі для «Цярэшкі» характэрна шлюбная накіраванасць, для расквечвання дзеяння браліся элементы з сапраўднага вяселля. Так, у Мёрскім раёне, калі перадцярэшкавыя танцы адбываліся ў клубе, а «жаніць Цярэшку» ішлі ў загадзя дамоўленую хату, то «маці», як на сапраўдным вяселлі, пераймала моладзь на ганку ў вывернутым поўсцю наверх кажуху з чаркай і хлебам. «Маладыя» загадзя рыхтавалі «бацькам» падарункі (маці — хустку, бацьку — шапку ці што іншае) і ўручалі ім у час застолля, што таксама з сапраўднага вяселля. У в. Саламір'е Полацкага раёна, пасля таго як «пераражаніліся» ўсе пары, кожная заказвала сабе асобны танец — польку, вальца, «Лявоніху», «Нарэчаньку», факстрот, кракавяк і інш. (як на вяселлі заказваюць сабе «марш»), а пасля застолля танец заказваў «бацька-сват». Як на сапраўдным даўнім вяселлі прыходзілі глядзець на сватоў, калі ўсе сядзелі за сталом, так і на «Цярэшцы», калі пачыналася застолле, «на хаце» было шмат людзей, глядзелі на моладзь, як яна сябе паводзіць, жартуе, спявае. «Маладыя» ў сваю чаргу па вясельнаму звычаю клікалі да стала сваіх суседзяў, сваякоў, цётак, хросных матак, падносілі ім чаркі гарэлкі, частавалі прысмакамі, якія тыя прымалі, выказвалі розныя пажаданні, памагалі спяваць, спявалі за маладых. У некаторых мясцінах пары «маладых» рассаджвалі «бацькі», вялі за стол. «Маці» называла хлопца «зяцем», «бацька» дзеўку — «нявесткай». На ўсіх «Цярэшках» «маці» з «бацькам» выказвалі «дзецям» пажаданні, павучалі, як

ладзіць жыццё-быццё. Тут ім быў прыдатны вопыт віншаванняў і звычэнняў, прыдбаны на сапраўдных вяселлях. Выразнасць, дасціпнасць, хараство гэтых выслоўяў у многім залежаць ад настрою, знаходлівасці і здольнасці бацькоў. Пэўнага сталага набору віншавальных прамоў не занатавана. Можна толькі меркаваць па ўспамінах удзельнікаў «Цярэшкі», што на кожным этапе ігрышча было вельмі весела і час ляцеў надзвычай хутка. Спецыяльных застольных песень не існавала, спявалі розныя — любімыя, модныя ў той час ці адпаведныя настрою і тэме вечара. Сярод тых, што спяваліся за сталом у «Цярэшцы», дакладна зафіксаваны калядная («Ішла свіння па ляду»), бяседныя («Цёмныя тучкі сышліся ў кучкі, зараначкі — розна», «Ой, чуць, маці, чуць») і папулярная ў перадваенныя гады самадзейная «Пристройся, дзяўчынка-нябожа» (фальклярызаваны тэкст Янкі Купалы).

Наогул усе песні-цярэшкі звязаны з пэўнымі этапамі ігрышча. Яны, як і на сапраўдным вяселлі, гавораць пра тое, што адбываецца ў гэты момант, выяўляюць пачуцці ўдзельнікаў дзейства. Па функцыянальна-тэматычнаму прынцыпу ўвесь песенны матэрыял «Цярэшкі» раскладваецца на некалькі раздзелаў і падраздзелаў:

I. Песні пры падборы пар:

1. Агульныя песні-цярэшкі, якія змяшчаюць тлумачэнне дзеянняў і настрояў ўдзельнікаў:

1.1. Песні «маці», якія яна выконвае пры падбіранні пар;

1.2. Прыпеўкі да «Лявоніхі», якія спяваюць пад час «перакручвання» пар.

II. Песні-цярэшкі, калі «пажэненыя» ловяць адзін аднаго:

1. Песні хлопца-«дзядулькі», калі ён ловіць сваю «бабульку»:

1.1. Захопленасць «бабулькай», выказванне рашучасці злавіць яе, намаўленне не ўцякаць;

1.2. Падсмейванне «бабулькі»;

1.3. Дыялогі-спрэчкі «дзядулькі» з «бабулькай».

2. Песні дзяўчыны-«бабулькі», калі яна ўцякае ад «дзеда».

3. Песні дзяўчыны-«бабулькі», калі яна ловіць свайго «дзядульку»:

3.1. Заклапочанасць «бабулькі» ўдзелам у «Цярэшцы», выказванне рашучасці злавіць «дзеда»;

3.2. Намаўленне «дзядулькі» здацца, не ўцякаць;

3.3. Задаволенасць шлюбам, узвелічэнне «дзядулькі», пахвалы яму;

3.4. Незадаволенасць шлюбам, падсмейванне «дзядулькі», наруганне яму.

III. Песні, што спяваліся за сталом.

Вылучаючы асобныя раздзелы песень-цярэшак, трэба мець на ўвазе тую акалічнасць, што ў ходзе ігрышча яны былі часта перамешаны, паколькі кожная пара, кожная спявачка (бо пераважная большасць цярэшак — гэта песні дзяўчат, хлопцы ж значна саступалі ім ў дасціпнасці і творчай фантазіі) выказвалі свае настроі. Таму ўслед за «бабулькай», якая «выпеівала» любасць да свайго «дзядулькі», выступала на першы план другая, якая мела падставу для незадавальнення, была больш крытычна настроена альбо хацела павесяліцца за кошт свайго «жаніха». Таму песні, разнесеныя па розных раздзелах, у сапраўднасці часта пераміжоўваліся.

У жартах трэба было ведаць меру, захоўваць тактоўнасць, добразычлівасць. Парушэнне этычных нормаў каралася даволі сурова: дзяўчыну пазбаўлялі права ўдзелу ў забавах і танцах моладзі на доўгі час, прычым адразу ж пры ўсіх людзях яе выводзілі «пад ручкі» з хаты. Толькі пасля пэўнага тэрміну наступала прабачэнне і дзяўчыну запрашалі зноў на танцы, пасылаючы да яе на дом ганца-падлетка. Інфарматары расказвалі нам, як дзяўчыну вывелі з «Цярэшкі» за тое, што яна пасмяялася з хлопца, які крыху недачуваў, праспяваўшы:

Здаецца і гром ня быў,
Майго дзеда пярун аглушыў.

Гэты звычай пакарання дзяўчат за залішне востры язык ці адмаўленне танцаваць з якім-небудзь хлопцам (абраза!) быў пашыраны на Беларусі. Адзначаны народазнаўцамі ў XIX ст., ён існаваў да нядаўняга часу.

Наогул цярэшкі напоўнены цеплынёй, добразычлівасцю, узаемным любаваннем, пахваламі. Яны маглі б здацца занадта перасалоджанымі, калі б не падаваліся ў гумарыстычным ключы, калі б за патокам пахвал не адчувалася гарэзлівая ўсмешка спявачкі. Натуральна, ні адна дзяўчына «ўсур'ёз» не асмелілася б выказваць столькі пяшчоты і захаплення свайму выбранцу. Гумар, гульнёвая ўмоўнасць дазваляюць значныя перабольшанні, нормай становіцца менавіта такое выяўленне сваіх пачуццяў і адносін. Выклікае здзіўленне, колькі незвычайнай вынаходлівасці праяўлялі дзяўчаты, каб пахваліць свайго «дзядульку», калі ён быў ім «пад мыслі». Аднак гэта зусім не азначае, што ўсе тыя дзявочыя песенныя кампліменты хлопцу выказваліся ад сябе, сваіх пачуццяў. Часта бывала, што дзяўчына ўмела ўвайсці ў вобраз, праявіць сваю здольнасць да фантазіі, валоданне фальклорным рэпертуарам, прыёмамі

імправізацыі, і тады яе спеў быў і дасціпны, і прыгожы. Так, здольныя плакальшчыцы маглі, не вельмі смуткуючы, так загаласіць па нябожчыку, так прыгожа і кранальна сказаць пра здавалася б, простыя і звычайныя рэчы, што ніхто не мог застацца абыякавым.

Як жа хвалілі хлопцаў-«дзядулек»? Тут існавала шмат спосабаў. Па-першае, выказвалася падзяка «бацькам» за добрага «дзеда»:

Дзякуй табе, татачка,
Дзякуй табе, мамачка,
За вашы добрыя дары,
Што добрага дзеда далі,
Дзядульку лагоднага,
Як летца пагоднага.

Выказвалася таксама захапленне яго прыгажосцю, маладосцю, багаццем, працавітасцю, паходжаннем з добрай сям'і, асабістым «высокім гонарам» і інш. Альбо гаварылася, што гэты «дзядулька» любы, і гэтым было сказана ўсё:

На небе звёздачкі йгралі,
Любага мне дзеда далі,
Іграйце, звёздачкі, да дня,
Над майго лепшага німа!

Любы «дзядулька» параўноўваўся з касмічнымі і іншымі прыроднымі сімваламі прыгажосці. Тут любімыя васількі, мята, ружа, вінаград і іншае памагалі ляпіць вобраз каханага хлопца:

Я думала сонца ўсходзіць,
Аж там мой дзядулька ходзіць,
Я ж думала ліпа цвіціць,
Аж там той дзядулька сядзіць.

Пра любага «дзядульку» гаварылася, што ён і прыгожы знешне, і прыемны ў размове, што ён добрых паводзін:

У каморы на ложы
Сядзіць дзядулька прыгожы,
Яго вочкі, як ў павы,
Добрай чэсці, добрай славы,
І броўцы чарненькія,
І слоўцы міленькія.

Каб падкрэсліць незвычайную любасць да «дзядулькі», успаміналіся саперніцы дзяўчыны, якія «б'юцца» за хлопца, выказваліся намаўленні жыць у каханні і згодзе:

А вунь мой дзядулька ідзець,
У руках цвяточак нясець,
З цвяточка любуецца,
Із другой цалуецца.

Выказвалася «дзядульку» такая адданасць, што і яго заганы не адштурхоўвалі дзяўчыну:

Як пайду я ж вечарком,
Ляжыць дзядулька пад тынком.
Тыночак навюсенькі,
Дзядулька п'янюсенькі...
Я ж яму ручку падала
І ў Цярэшку прывяла.

У цярэшках заўважаюцца прыёмы ўзвелічэння адрасата песні, падобныя да адпаведных прыёмаў валачобных ці калядных песень, што спяваліся хлопцу, дзяўчыне. У велічальных абрадавых песнях вобразы будуюцца больш манументальна, эпічна разгорнута, у цярэшках лаканізм і непрыхаваны гумар не даюць асабліва будаваць ілюзій. Тым не менш і багаты знешні выгляд малойца, і яго маёмасць падаюцца вельмі падобна да названых вышэй каляндарных песень, што зусім натуральна:

Мой дзядулька далёкі
Маіць зямлі тры валокі
І дзесяціну лесу,
І пуд золата весу.
Я золата пераважу,
Дзядульку не зняважу,
Я золата пералічу,
Дзядульку падвялічу.

У валачобных песнях, адрасаваных паненцы, спевакі, дзякуючы за дары, таксама гаварылі, што «золата пералічуць і паненку падвялічуць» і да т. п.

Гэтае выданне змяшчае песень, адрасаваных хлопцу, непараўнальна больш, чым песень, звернутых да дзяўчыны. Гэта не азначае, што дзяўчат-«бабулек» не было за што хваліць альбо

яны не ўзбуджалі творчую фантазію хлопцаў. Справа ў тым, што маладыя хлопцы-«дзядулькі», відаць, у гэтым жанры адчувалі сябе няўпэўнена ў параўнанні з дзяўчатамі, якія з дапамогай «маці» і прысутных жанчын маглі выявіць у песні кожны паварот дзеяння. У нас амаль усе жанры песень — гэта сфера жаночага выканання. Выдатныя ўзоры беларускага песеннага фальклору — валачобныя і калядныя песні — выконваліся мужчынамі, прытым спецыяльна арганізаванымі групамі, дзе адзін чалавек быў добра падрыхтаваным, з'яўляўся носьбітам традыцыі — пачынальнікам, астатнія маглі быць больш-менш старыннымі падхватнікамі. У «Цярэшцы» патрэбна была самастойнасць кожнага, патрэбна было імгненна рэагаваць песняй на розныя выпады «бабулькі», і зразумела, што не кожны мог выканаць гэту ролю. Да таго ж усе запісы зроблены фалькларыстамі ад жанчын, якія, вядома, больш ведалі тыя песні, што спявалі самі ці іх сяброўкі. Таму аказалася, што песень-цярэшак, прызначаных «бабулькам», сабрана значна менш. Тэматычна дадзены раздзел менш багаты, і гэта адлюстроўвае натуральны стан рэчаў. Тыя адносна нешматлікія творы, у якіх «дзядулька» хваліць «бабульку», намаўляючы яе не ўцякаць, паказваюць, што хлопцы таксама ўмелі трапна выказаць свае найлепшыя пачуцці:

Ах, мая бабулічка,
Вішанька й налітая,
З гэтай жа Цярэшачкі
Будзіш незабытая.

Вобраз дзяўчыны выяўляецца агульнафальклорнымі прыёмамі: дзяўчына «тонкая, высокая», «белая, румяная, хораша прыбраная» і інш.:

Ві́сака арол ляцеў,
Далі мне, каго я хацеў,
Тонкую, высокую,
Крэпка недалёкую.

Дзяўчына параўноўваецца з зорачкай на небе, дзеля яе хлопец гатовы ў бяду трапіць. Ён дакляруе сабе яе злавіць, украсці, затрымаць хоць цаной дарагога яму коніка:

На небе зорачка ясна,
У суседа дзевачка красна.
Хуць жа я ў бяду ўпаду —
Суседа дзяўчыну ўкраду!

Ласкавымі зваротамі хлопец намаўляе дзяўчыну не ўцякаць, называе яе зязюлечкай, заранкай, царыцай, што не перашкаджае крыху пакпіць з «бабулькі», калі тая праявіла сябе лянівай ці няўмелай:

Бабулька, царыца мая,
Каротка спадніца твая,
На печы ўсё ляжала,
На спадніцу не наткала.

Вельмі дасціпнымі выходзяць жартоўныя дыялогі-спрэчкі, у якіх узаемна «выкрываецца» няўмельства ці лянота «бабулькі» і «дзядулькі» пры выкананні спецыфічных для жанчын і мужчын прац (прадзенне, ткацтва — для «бабулькі», арба — для «дзядулькі»). Гэтыя песенныя ўзаемныя прыцінкі не крыўдзілі моладзь, бо ўсё рабілася больш для смеху. У такой жартаўлівай форме праводзілася думка аб тым, што гонар чалавека, яго слава і значнасць — у добрым выкананні сваіх абавязкаў, што, безумоўна, выхоўвала моладзь.

Выхаваўчае значэнне «Цярэшкі» вельмі вялікае: тут вучыліся таварыскасці, засвойвалі прыёмы вядзення жартаўлівага дыялогу, адвучаліся ад юнацкай рэзкасці, нястрыманасці, можна сказаць, праходзілі школу добрых манер. Не дзіва, што многія вясковыя жыхары, асабліва жанчыны, былі прызнанымі майстрамі канверсацыі, прыгожа, далікатна, з годнасцю і добразычлівасцю маглі весці размову нават з чужым чалавекам, выпадковым спадарожнікам, госцем. Адным словам, агульнапрызнаныя рысы беларускага характару — гэта не толькі дзеянне нейкіх прыродных фактараў, але і вынік традыцыйнага выхавання, якое з дзяцінства, а найбольш з ранняга юнацтва, прывучала ўважліва ўглядацца ў чалавека, дакладна бачыць яго індывідуальныя рысы, але заўсёды непрыкметна падкрэсліць добрае, прывабнае. У цярэшках гэта адчуваецца асабліва выразна.

Узнікае пытанне аб жанравай адметнасці цярэшак: што яны сабой уяўляюць — прыпеўкі да танца, «доўгія» песні ці нешта іншае? Адказаць на гэта пытанне не проста. З аднаго боку, цярэшак-«караделек» (чатыры радкі) спяваецца даволі многа, у нашым выданні іх каля 40%. Нездарма інфарматары на пытанне, ці прыпеўкі гэта, іншы раз прызнаюць, што так, прыпеўкі, «кароценькія ж яны». Аднак не ўсе такія кароткія: 10- і больш радковых налічваецца амаль 17%, а 6- — 8-мі радковых — 43,5%. Асобныя ўзоры налічваюць больш 30 радкоў.

Відаць, цярэшка мае права на сваё асобнае месца ў сістэме

песенных жанраў. У ёй праяўляецца прызначанасць да выкакання ў руху («ходзім і пяём»); яна злучае рысы жартоўных і велічальных вясельных песень; яна ў большай ступені, чым песні іншых жанраў, імправізацыйная. На наш погляд, цярэшка — песня, блізкая адначасова і да вясельных і да «скакух». Аднак яна ўяўляе сабой не пэўную суму запазычаных рысаў, а цэльную мастацкую з'яву. Усе яе асаблівасці склаліся ў ёй самой, незалежна, у працэсе фарміравання і развіцця самога аднайменнага ігрышча. Ва ўсякім разе ў народзе «цярэшка» — гэта тэрмін, які абазначае жанр песень, такі ж самастойны, як валачобныя, купальскія, жніўныя ці іншыя песні.

Некалькі заўваг трэба зрабіць пра асаблівасці вывучэння «Жаніцьбы Цярэшкі» і збірання песень-цярэшак. Апошнія, як ні дзіўна, пры ўсім сваім непаўторным харастве нячаста траплялі ў сшытак збіральніка. Нават пры разгорнутых апісаннях «Жаніцьбы Цярэшкі» іх запісвалі ў мінімальнай колькасці і толькі як ілюстрацыю да пэўных этапаў ігрышча. Пра песні гаварылася надзвычай сціпла, што ледзь не стала традыцыяй, працягнутай у беларускай фалькларыстыцы аж да нашага часу. Першай замалёўкай «Цярэшкі», відаць, трэба лічыць адпаведнае месца ў этнаграфічнай працы Адама Кіркора [19], апублікаванай у пачатку другой паловы XIX ст., дзе змешчаны таксама 5 цікавых тэкстаў песень-цярэшак. Праўда, у ёй няма дакладных звестак пра месца запісу, апроч таго, што гэта была Віленская губерня. Можна меркаваць, што першае апісанне «Цярэшкі» паходзіць з Вілейскага павета, бо змешчаны праз восем гадоў у польскім часопісе «Клосы» артыкул М. Камінскага «Танцы вілейскага люду» [20] з'яўляецца перакладам на польскую мову таго, што было апублікавана Кіркорам на рускай мове. Спасылкі на крыніцу ў «Клосах» не зроблена; магчыма, што была нейкая трэцяя, агульная крыніца. Апісанне лаканічнае, але змястоўнае, па ім можна ўявіць, як адбывалася ўсё гэта ігрышча. Цікава, што занатаваны там доўгія цярэшкі з рэфрэнам, што сустракаецца вельмі рэдка. Пра даўнасць запісу гаворыць заўвага аб музыцы на «Цярэшцы»: адзначаецца, што іграла скрыпка альбо дудамацянка. Як вядома, дуда была хутка выцеснена іншымі музычнымі інструментамі, у прыватнасці гармонікам. Аднак у тэкстах цярэшак захаваўся таксама ўспамін пра дудара, які водзіць карагод дзевак. Таму можна з упэўненасцю сцвярджаць, што раней без дудара, які лічыўся ледзь не чараўніком, «Цярэшка» не абыходзілася.

[19] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию. С. 168—170.
[20] Kamiński M. Táńce ludu wilejskiego // Kłosy. 1866. T. 3. N 67. S. 138—179.

Каштоўны этнаграфічны матэрыял пра «Жаніцьбу Цярэшкі» сабраў у Полацкім павеце вядомы беларускі фалькларыст і этнограф М. Я. Нікіфароўскі. Яго апісанне разам з наткай настаўніка П. В. Шалковіча з в. Латыгалічы Барысаўскага павета Мінскай губерні змешчана ў першым томе «Матэрыялаў...», выдадзеных П. В. Шэйнам [21].

Не абмінуў увагай «Цярэшку» таксама А. Я. Багдановіч. Характэрна, што этнограф лічыў яе старажытнай гульнёй, у якой «...адбіліся перажыткі старажытных шлюбных адносін і звычаяў, якія мелі, верагодна, сувязь са святкаваннем Каляд, з культам таго боства, у гонар якога адбывалася святкаванне» [22].

Праца А. Я. Багдановіча сустрэла ў свой час даволі вострую крытыку. Так, У. М. Перэтц, выказваючы даследніку папрокі за недастатковае веданне назапашанага на той перыяд беларускага этнаграфічнага матэрыялу, асобна падкрэсліваў недаацэненае ім значэнне «Жаніцьбы Цярэшкі», «якая ўяўляе сабой вялікую цікавасць для этнографа і сацыёлага» [23].

У самым канцы XIX ст. з'явілася таксама публікацыя Адольфа Чэрнага «Беларускія песні з Дзісенскага павета Віленскай губерні». Змешчана тут некалькі цярэшак, якія аднесены да раздзелу «Песні пры гульнях», «Цярэшка» [24]. Наступным па часе грунтоўным напамінкам пра «Жаніцьбу Цярэшкі» была змешчаная ў сёмым выпуску «Беларускага зборніка» Е. Р. Раманава этнаграфічная нататка пра гэта ігрышча і песні з Дзісенскага павета. Песні-цярэшкі пададзены з нотамі. Е. Р. Раманаў лічыў, што «...Цярэшка — архаічная гульня беларусаў, якая ўяўляе сабой водгук тых ігрышчаў дрыгавічоў, северян і радзімічаў, якія апісаны Нестарам...» [25]. Трэба, аднак, заўважыць, што «Цярэшка» захавалася толькі на Полаччыне, на землях жа, адзначаных летапісцам, панавалі іншыя ігрышчы, «Цярэшкі» там не занатавана. Даволі багатую нізку цярэшак (21 тэкст) мы знаходзім таксама ў восьмым выпуску «Беларускага зборніка» Е. Р. Раманава [26]. Запісы

---

[21] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края // Бытовая и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях. СПб., 1887. Т. 1. Ч. 1. С. 99—105.

[22] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнографический очерк. Гродно, 1985. С. 89—93.

[23] Киевская старина. 1985. Т. 51. С. 32.

[24] Cerný A. Pieśni bialoruskie z powiatu Dsiseńskiego gubernii Wilenskiej // ZWAK. 1895. T. 18. S. 192—224.

[25] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильна, 1910. Вып. 7. С. 41—42.

[26] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильна, 1912. Вып. 8. С. 123—125.

паходзяць з адной вёскі і ад адной спявачкі. Адчуваецца, што спявачка выдатна ведала ўсю «Цярэшку», таму гэта падборка атрымалася цікавай і змястоўнай.

У пачатку нашага стагоддзя сустракаліся таксама асобныя публікацыі пра «Цярэшку» на старонках газет. Так, нататка А. Пшчолкі [27] перадавала ўражанні журналіста, прысутнага на «Цярэшцы», які хоць і з паблажлівай усмешкай, але даволі выразна адлюстраваў гэта ігрышча і змясціў некалькі песень. Адзначаны даволі цікавыя дэталі: перад «Цярэшкай», як заўсёды, былі скокі, у цеснаце танцавалі кадрыль у 8 пар. Не ўсім хлопцам хапіла дзяўчат, іх называлі «адстаўнымі».

Значную колькасць запісаў цярэшак змясціў у сваіх выданнях Р. Р. Шырма [28]. Песні дадзены з нотамі, аднак яны не суаднесены з абрадавым дзеяннем, у якое гэтыя песні ўпляталіся і без якога яны не вельмі зразумелыя.

Найбольшая колькасць цярэшак змешчана ў выданні, складзеным Н. С. Гілевічам па матэрыялах студэнцкіх фальклорных экспедыцый [29]. З густам і добрым разуменнем адабрана для зборніка больш за семдзесят дасканалых у мастацкіх адносінах твораў. Адзначаны месцы і час запісаў. Гэтыя «пашпартныя» звесткі паказваюць, што пры збіранні не было акцэнтацыі ўвагі на творах гэтага жанру, яны ішлі ў агульнай масе запісаў. Таму не выяўлены канкрэтныя мясціны, дзе асабліва багата цярэшак; не выкарыстаны належна тыя таленавітыя спявачкі, якія памятаюць усё, што звязана з «Жаніцьбай Цярэшкі». І, зразумела, спецыфіка выдання не патрабавала размеркавання гэтых песень у нейкай паслядоўнасці, функцыяльнай прызначанасці.

Том БНТ «Зімовыя песні» [30] з'явіўся праз год пасля вышэйназванага выдання. У раздзеле «Калядныя карагоды і гульні» змешчана дзевяць тэкстаў цярэшак, прычым пяць з іх прыходзіць з сучасных запісаў і чатыры — са зборніка Раманава. Каштоўнасць сучасных запісаў перш за ўсё ў тым, што яны пададзены з нотамі.

Ва ўступным артыкуле З. Я. Мажэйка «Напевы зімовых песень» сцісла дадзена ацэнка месца «Жаніцьбы Цярэшкі»

---

[27] Пщёлко А. Письма из деревни. Терешка // Витебские губ. ведомости. 1908. № 6.

[28] Беларускія народныя песні: У 4 т. / Запіс Р. Шырмы. Мн., 1962. Т. 3. С. 284—289.

[29] Песні народных свят і абрадаў / Укл. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1974. С. 36—51.

[30] Зімовыя песні: Калядкі і шчадроўкі // Укл., сістэмат., уступны арт. і камент. А. І. Гурскага. Укл., сістэмат. характарыстыка і рэд. напеваў З. Я. Мажэйка. Мн., 1975. С. 468—470.

ў калядным фальклорным рэпертуары Паўночнай Беларусі, аднак у складзе тэкставай часткі тома «Цярэшка» «патанула» як малазначная з'ява сярод іншых матэрыялаў. Па сутнасці ж яна з'яўляецца ўпрыгожаннем нашай фальклорнай спадчыны, яе характэрнай адметнасцю, а не дробнай лакальнай гульнёй, як можа здаецца чытачам тома «Зімовыя песні».

У выданні песень, сабраных З. Я. Мажэйка [31] у раёнах Паўночнай Беларусі (а выдадзены яны з нотамі), цярэшкі таксама не абмінуты ўвагай, дадзена характарыстыка іх напеваў.

У 1983 г. у часопісе «Slavia Orientalis» быў апублікаваны артыкул прафесара Францішка Сяліцкага «Гульні і забавы вясковых дзяцей і моладзі на Вілейшчыне ў міжваенныя гады»[32], дзе пэўнае месца адведзена апісанню «Жаніцьбы Цярэшкі» ў в. Габітацыя (Даўгінаўскі с/с Вілейскага р.) і адзначаецца, што ў в. Мікуліна гэтага ж сельсавета «Цярэшкі» не было. Змешчаны тры тэксты цярэшак, зроблены адпаведны каментарый. Прыведзены сведчанне Казіміра Машыньскага пра «Жаніцьбу Цярэшкі» («Цярэшку жаніць») у ваколіцах Вільні і назіранні Казіміры Завістовіч, з якіх вынікае, што тут «Цярэшка» зводзілася да размеркавання пар выбранымі «бацькамі», агульнага застолля і вясёлай гулянкі на цэлы вечар.

Цікавы факт увагі да нацыянальнай фальклорнай спадчыны, у прыватнасці да «Цярэшкі», уяўляе сабой выкарыстанне матываў цярэшкавай забавы і народных песень-цярэшак у творчасці Уладзіслава Галубка [33]. Яго «Ліпавічок» (п'еса ў адной дзеі) цалкам пабудаваны на матэрыяле «Цярэшкі», прытым з добрым веданнем цярэшак і ўсведамленнем тоеснасці Ліпавічка і Цярэшкі. Выкарыстаныя песні — гэта пачутыя ў народзе творы, зусім не падпраўленыя, не скажоныя, па нашаму меркаванню, аўтэнтычныя. Усё ж уключэнне іх у мастацкі твор можа навесці на думку аб аўтарстве драматурга, таму яны не ўзяты ў наша выданне.

Неабходна адзначыць таксама артыкул Г. А. Барташэвіч «Матывы шлюбу ў зімовай абраднасці і паэзіі», у якім значнае месца адведзена «Жаніцьбе Цярэшкі» [34].

Хоць беларускія этнографы і фалькларысты да апошняга часу не задаваліся мэтай выявіць увесь песенны і этнаграфічны

---

[31] Мажэйка З. Я. Песні Беларускага Паазер'я. Мн., 1981. С. 34.

[32] Sielicki F. / Slavia Orientalis. 1983. N 4. S. 427.

[33] Галубок Уладзіслаў. Творы (драматургія, паэзія, проза, публіцыстыка). Мн., 1983. С. 398.

[34] Барташэвіч Г. А. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 4. С. 82—88.

матэрыял па «Цярэшцы» і да апошніх год не было планавага збірання цярэшак, так ці інакш яны траплялі ў запісы, у экспедыцыйныя зборы. Таму архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі дае найбольшую колькасць цярэшак, як тэкстаў, так і фоназапісаў (магнітаграм). Выкарыстоўваецца ў томе часткова і архіўны матэрыял Беларускага дзяржаўнага універсітэта, аднак ён патрабуе пільнай увагі і праверкі на сапраўднасць. Назапашваюцца тэксты цярэшак у Віцебскім педагагічным інстытуце ў студэнцкіх запісах фальклору. Дзякуючы дапамозе кандыдата філалагічных навук А. С. Емельянава частка гэтых матэрыялаў (каля 100 тэкстаў) выкарыстана пры складанні тома. Аўтарам гэтых радкоў ажыццёўлены дзве спецыяльныя экспедыцыі па выяўленню і збору матэрыялаў да «Цярэшкі»: у Докшыцкі (1987), Шаркоўшчынскі і Мёрскі раёны (1988) сумесна з І. Дз. Назінай. На жаль, шчыльнасць абследавання раёнаў распаўсюджання «Цярэшкі» не аднолькавая. Спадзяёмся, што цікавасць да фальклору, да народных вытокаў нацыянальнай культуры, якая абудзілася зараз сярод беларускай моладзі, падтрымае і цярэшкавую традыцыю, дасць ёй новае жыццё, пашырыць арэал яе бытавання і папоўніць фальклорныя калекцыі новымі запісамі.

У працы над томам «Жаніцьба Цярэшкі» аўтару дапамагалі В. Гурманчук (складанне асабовага і геаграфічнага паказальнікаў) і І. Кісялёва (друкаванне тэкстаў). Выказваю ім шчырую падзяку.

*Л. Салавей*

## «ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ» ЯК СУКУПНАСЦЬ МАСТАЦКІХ КАМПАНЕНТАЎ; ІХ ХАРАКТАРЫСТЫКА

Традыцыйнае калядна-абрадавае дзейства «Жаніцьба Цярэшкі», у якім атрымалі своеасаблівае, жартаўліва-гульнявое праламленне некаторыя найбольш важныя матывы сапраўднага вяселля, вылучаецца, як і апошняе, шчодрасцю і шматколернасцю свайго мастацкага афармлення. Дасягаецца гэта выкарыстаннем розных па сваёй прыродзе і выразным магчымасцям мастацкіх кампанентаў — музычна-песеннага і інструментальнага, маторна-харэаграфічнага, вусна-паэтычнага і драматычнага. Усе яны — кожны паасобку ці ў разнастайных спалучэннях-узаемадзеяннях — садзейнічаюць раскрыццю «вясельнай ідэі» маладзёжнай гульні, стварэнню

атмасферы ўсёахопнай весялосці і гарэзлівасці, узнікненню неспадзяваных камічных эфектаў. Так, у в. Усая Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці гульня пачыналася наступным дыялогам «дзеючых асоб»: хлопец падводзіў дзяўчыну да «бацькі» і казаў: «Тата, хачу жаніцца». Той жа, апрануты «дзедам» — сівым, гарбатым, з доўгай барадой, быццам не дачуўшы, пытаў: «Чаго? Тапіцца?»—«Не, жаніцца.»—«Чаго? Давіцца?»—«Не, не, жаніцца.» Такім чынам, па словах інфарматаркі, выдумлялі, пакуль хапала рыфмы[1].

Разам з тым і вобразна-выразная, і драматургічная роля названых кампанентаў у «Жаніцьбе Цярэшкі» зусім не раўназначная, не раўнаважкая. Вядучае становішча сярод іх займае, бясспрэчна, музычны кампанент у дзвюх яго разнавіднасцях — песеннай і інструментальнай. З іх жа толькі песня дзякуючы наяўнасці паэтычнага тэксту канкрэтызуе абрадавы сэнс і вобразны змест тэатралізаванага дзейства, удакладняе ход яго драматургічнага развіцця.

У песеннай творчасці беларусаў цярэшкі (альбо, як іх яшчэ называюць, «цярэшкаўскія», «цярэжынскія», «цярэшкавы» песні) — з'ява незвычайная, поліжанравая па сваёй прыродзе. Самі «пяюллі» («пяюнні») вызначаюць іх то як песні, прычым песні «асобенныя, толькі для «Цярэшкі», то як прыпеўкі, то як танец.

Усе песні-цярэшкі падзяляюцца народнымі спявачкамі на «доўгія, у якіх куплеты ідуць ланцужком адзін за адным», і «кароткія». Апошнія выконваюцца больш за ўсё пры пералоўліванні і адрасуюцца дзяўчыне або хлопцу, г. зн. «кагосьці з іх прыспеўваюць». Акрамя таго, характэрныя для «кароценькіх» цярэшак афарыстычнасць выказвання і сцісласць формы (большасць з іх — чатырохрадкоўі), жартаўлівасць агульнага тону, выкананне пад музыку і абавязковая сувязь з рухам мімаволі нараджаюць у спевакоў асацыятыўныя паралелі з танцавальнай прыпеўкай. І нарэшце, паколькі ў шмат якіх мясцовасцях «маладых скручвалі цярэшкай», такім чынам сімвалічна замацоўваючы іх шлюб, а ў песнях пры выкананні іх у хуткім тэмпе і з інструментальным суправаджэннем ярка выяўляецца танцавальны пачатак, то зразумела, чаму цярэшку лічаць яшчэ і танцам. Танцавальную мелодыю пад назвай «Цярэшка», запісаную, верагодна, на Полаччыне, апублікавалі ў пачатку XX ст. А. Грыневіч і А. Зязуля[2]:

---

[1] Зап. у 1989 г. у Мінску ад тэатразнаўцы Л. М. Рыжковай.

[2] Biełaruskije pieśni z notami / Sabrali A. Hryniewič i A. Ziaziuła Pieciarburh, 1912. С. 11. № 44.



Пра «Цярэшку» як танец гаварылі нам і спявачкі з в. Мураўшчына, г. п. Ветрына Полацкага раёна Віцебскай вобласці. Пра «нейкі танец «Цярэшку» успаміналі і старыя музыканты з вёсак Суднікі, Іжа Вілейскага раёна Мінскай вобласці.

І сапраўды, у залежнасці ад таго, у які момант гульні і пры якіх абставінах выконваліся цярэшкі, у іх пры нязменным захаванні адзінства ўласна песеннага і танцавальна-маторнага пачаткаў той ці іншы выступаў на першы план, вызначаючы пэўны «жанравы наклон».

Цярэшкі, якія «пранізвалі гульню наскрозь», звычайна прымяркоўваліся да розных яе этапаў: выбару «маці» і «бацькі» і іх злучэння; падбору пар, калі «матка» і «бацька» зводзілі «маладых»; іх пачарговага пералоўлівання, якое закончвалася рытуальным «скручваннем» у танцы. Іменна тут драматургічнае развіццё абрадавай гульні дасягала сваёй кульмінацыі, бо дзяўчына і хлопец станавіліся ўжо «бабулькай» і «дзядулькай».

Па месцы і прызначэнню ў гульні спевакі асобна вылучаюць першую песню, называючы яе «зачынальнай» («пачынальнай»)[3]:

♪=152

1.Ця- рэш- ка ка- ху, ка- ху,

што ў тва- ім мя- ху, ў мя- ху?

♪=166

— Шпі- леч- кі, і- го- лач- кі,

[3] АІМЭФ, ф. 20, воп. 71, ст. 10. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1971 г. у в. Закор'е Браслаўскага р. Віцебскай вобл. ад М. І. Лаўрыновіч, 1918 г. н.

♪=168

раз- ны- я пяр- сцё- нач- кі.

♪=172

2.Мой жа ты дзя- ду- ліч- ка,

я ж тва- я ба- бу- ліч- ка,

я ж ця- бе ла- віць бу- ду,

♪=174

зла- віў- шы, лю- біць бу- ду.

Адзначым, што ў розных мясцовасцях у функцыі «зачынальнай» выступаюць і іншыя песні: «Будзім мы Цярэшку жаніць» (№ 77), «А стаптаў татулька боты» (№ 80), «Цярэшка валочыцца» (№ 39). Тут дарэчы прыгадаць развітую на ўсходзе і ў некаторых цэнтральных раёнах Віцебшчыны традыцыю пачынаць вяселле строга вызначанай «зачынальнай» песняй. У сувязі з гэтым Т. Б. Варфаламеева, якая спецыяльна вывучала песенны рытуал паўночнабеларускага вяселля, прыйшла да высновы, што «тыповая сітуацыя, якая складаецца на кожным вяселлі..., атрымлівае тыпавое асэнсаванне ў форме песні, за якой замацоўваецца функцыя «зачынальнай»[4].

З другім этапам дзеяння «Жаніцьбы Цярэшкі»— калі «матка» і «бацька» падбіраюць пары — звязаны песні, у якіх кожны з «бацькоў» (але пераважна «маці») выказвае заклапочанасць з нагоды цяжкасці і адказнасці даручанай справы[5]:

♪=144

1.Бо- жа мой, га- лоў- ка ба- ліць:

---

[4] Варфоломеева Т. Б. Северобелорусская свадьба: Обряд, песенномелодические типы. Мн., 1988. С. 14.

[5] Мажэйка З. Я. Песні беларускага Паазер'я. Мн., 1981. С. 33. № 2.

як жа мне дзе_ так па_ жа_ ніць,

а я_ ку_ ю ра_ ду браць,

дзе_ та_ чкам па_ ра_ дак даць.

2.Бу_ дзім мы пі_ ва ва_ рыць,

бу_ дзім мы сы_ ноў жа_ ніць,

бу_ дзім мы га_ рэ_ лач_ ку гнаць,

бу_ дзім мы да_ чок ад_ да_ ваць.

3.Шу_ рач_ ка – сы_ ну_ ліч_ ка,

На_ дзі_ чка – да_ чу_ ша_ чка,

ай, роў_ на_ я па_ ра_ чка,

ім га_ рэ_ лкі ча_ рач_ ка.

Згодна з этнаграфічнымі апісаннямі канца XIX ст., у некаторых мясцовасцях паміж «маці» і дзяўчатамі разгортваўся песенны дыялог:

Цярэшка валочыцца,
Бо жаніцца хочыцца:
Ен туды-сюды зірнець,
Гдзе мілу сваю падзець.
Валочыцца, выглядае,
Хто к яму любось мае.

Дзяўчаты на гэта адказвалі:

Цярэшка, Цярэшачка,
К маёй хаце сцежачка,
Бітая, таптаная —
Я ў мамкі каханая.

Прайшоўшы разы тры-чатыры ўперад і назад, сваццяя выхоплівала адну з дзяўчат і аддавала яе хлопцу. Пара пачынала скакаць пад спевы хора:

Цярэшка хадзіў, блукаў,
Ен жаны шукаў, шукаў,
Каб была прыгожая,
Хоць куды дык гожая...[6]

Варта прыгадаць, што дыялог, як песенны, так і паэтычны — форма выказвання наогул вельмі характэрная для народных тэатралізаваных гульняў.

У час пералоўлівання, наступнага этапа гульнявога дзеяння, спявалі цярэшкі, якія прызначаліся асабіста дзеўцы ці хлопцу, а часам і асобнай пары. Паколькі кожнаму «імкнуліся падабраць сваё», то гэтыя смехатлівыя па тону песні вылучаліся з усяго цярэшкавага песеннага масіву асаблівай разнастайнасцю зместу, трапнасцю назіранняў, вынаходлівасцю і гарэзлівасцю думкі. Так, напрыклад, нялюбага хлопца дзяўчына незласліва высмейвала:

Мой дзедзька ніўдаліца,
Дзе ня йдзець — паваліцца.
Здаецца і гром ня быў,
Майго дзеда пярун аглушыў.

Хлопцу невялікага росту дзяўчына «паграджала»:

Ой, божа, вяліка біда,
Далі мне малога дзіда.
Малы дзед, ня топ нагой,
Не лягу я спаць з табой!

---

[6] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнографический очерк. Гродно, 1985. С. 186.

Зразумела, што хлопцы імкнуліся адказаць належным чынам, то хвалячы дзяўчыну, якая падабалася, то ганячы, калі яна была непанараўная:

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць — ня йдзець.
— А мой жа дзядулічка,
Я твая бабулічка.

Дзед бабу вяроўкай сячэць,
Чаму ж іна бліноў не пячэць?
— Ай, дзедзька, ня хочыцца
Каля печы варочыцца.

Любай дзяўчыне спявалі [7]:

♪=176

Смач- на- я ры- бач- ка шчуч- ка,
бе- ла- я ў ба- буль- кі руч- ка,
смач- на- я ры- бач- ка ка- рась,
па- ца- луй, ба- буль- ка, хоць раз!

Часам насмешлівыя песенна-маналагічныя выказванні дзяўчыны і хлопца перарасталі ў гарэзлівую «сварку»-дыялог [8]:

♪=194

Пай- ду я ў ка- мо- ру гля- дзець,

---

[7] АІМЭФ, ф. 20, воп. 76, ст. 64. Зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Варонічы Полацкага р. Віцебскай вобл. ад В. П. Бяляўскай, 1915 г. н.

[8] АІМЭФ, ф. 2, воп. 12, спр. 89. Зап. І. Дз. Назіна ў 1989 г. у в. Мураўшчына Полацкага р. Віцебскай вобл. ад В. М. Каўнуркі, 1928 г. н.; АІМЭФ, ф. 20, воп. 87, ст. 28. Зап. А. М. Райкова ў 1987 г. у в. Дзедзіна Докшыцкага р. Віцебскай вобл. ад В. С. Калягі, 1926 г. н.







Цярэшкі, што выконвалі пры пералоўліванні пар, па свайму гумарыстычнаму зместу і лаканізму формы вельмі нагадваюць сапраўдныя вясельныя песні «як хваляць» і «як ганяць», адрасаваныя часцей за ўсё свату і дружкам.

На апошнім этапе «Жаніцьбы Цярэшкі», гэтай кампазіцыйна разгорнутай гульні, пад час рытуальнага застолля спявалі самыя разнастайныя, «усякія песні»— бяседныя, застольныя, лірычныя, танцавальныя, прыпеўкі (№ 147—154). У выбары іх, як добра сказала адна са спявачак, кіраваліся адным: «Спявалі тое, што любілі». Песні чаргаваліся звычайна з жартаўлівымі пажаданнямі «маладым», благаславеннямі і павучаннямі, з вясёлымі дыялогамі паміж удзельнікамі гульні і тымі, хто прыйшоў паглядзець на сваіх сыноў і дачушак, дапамагчы весці «вяселле» і спяваць.

У рэальнай абрадава-гульнявой рэчаіснасці песенны кампанент функцыяніраваў толькі ў непарыўнай сувязі з маторна-харэаграфічным, што паўплывала на фарміраванне музычна-

стылявых асаблівасцей цярэшак, вызначыла характар і манеру іх выканальніцкага інтанавання. Таму неабходна высветліць ролю і месца маторна-харэаграфічнага кампанента, выявіць найбольш тыпічныя формы руху ў іх сувязі з песняй.

У «Жаніцьбе Цярэшкі» маторны кампанент існуе ў самых розных праявах: тут і хадзьба — рытмічна арганізаваны шаг, павольны ці хуткі бег, прытанцоўванне, перакружванне спачатку ў адзін, а потым у другі бок і, нарэшце, танец. Пераканаўчым пацвярджэннем гучыць расказ А. А. Падабыцька з в. Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці, якая сама бывала «маткай»: «На «Цярэшцы» многа рухаюцца — і ходзяць, пеючы, і бегаюць, ловячы адзін аднаго, і перакружваюцца, і танцуюць. Так, калі «бацька» браў дзеўку, а «маці» хлопца, то ішлі ў танец. Пратанцаваўшы, «злучаюць» (г. зн. жэняць.— *І. Н.*) «бацьку» з «маткай». Калі злучаюць «бацькоў» і «дзяцей», іграюць «Лявоніху» — яна злучальная. Яе іграюць без слоў. Як «бацькоў» пажэнім, тады я, «матка», іду ўжо кругом і пяю:

Падпеччы куры сакочуць,
Нашы мальцы жаніцца хочуць.
Мальчыкі, жаніціся,
За дзевак бярыціся.
Вы, дзеўкі, гуляйце цяпер,
Як нету маленькіх дзяцей.

Хаджу, пяю, ■ тады, як ловяць, уцікаюць. А як уловіць хлопец дзяўчыну, так падыгрываюць вясёлую польку. Польку ва ўсю хату танцавалі. А як пераловяцца ўсе пары, тады ўжо польку сыграюць, патанцуюць усе і за стол ідуць».

Таксама і ў мінулым, па назіраннях А. Кіркора, у Віленскай губерні «маць-сваццЯ» брала за руку аднаго з хлопцаў і праходзіла з ім уздоўж рада дзяўчат, прытанцоўваючы і падпяваючы:

Цярэшка валочыцца,
Яму жаніцца хочыцца.
Валочыцца, выглядаіць,
Каго-та ён паймаіць?

Потым «маць-сваццЯ» выбірала адну з дзяўчат і аддавала яе хлопцу. Створаная такім чынам першая пара ішла плясаць пад напеў «мацеры-сваццІ», затым спынялася і за ёй выстройваліся парамі ўсе астатнія «пажэненыя». Пасля таго як шарэнга выстройвалася, пары рассоўваліся і ў праходзе пратанцоўвала першая пара. Калі ж яна даходзіла да канца рада, то хлопец раптам кідаў дзяўчыну і хаваўся ад яе, а яна

яго даганяла. Усё гэта адбывалася пад песню, у якой дзяўчына прасіла хлопца:

Не ўцікай, мой дзедзічка,
Не ўцікай, лябедзічка!

Скокі ўнутры рада паўтараліся, але з той розніцай, што ад хлопцаў уцякалі дзяўчаты[9].

Але як бы ні адрозніваліся мясцовыя варыянты самога абрадавага дзеяння «Жаніцьбы Цярэшкі», ва ўсіх іх найбольш драматургічна значныя моманты гульні звязаны са злучэннем «бацькоў» і «маладых», пасля чаго толькі «жаніцьба» лічылася ажыццёўленай. У розных мясцовасцях «скручванне» («акручванне») адбывалася пад розную музыку.

У некаторых вёсках (Каралёва Мёрскага, Мураўшчына і Варонічы Полацкага, Баброва Лагойскага раёнаў) «усю гульню гучалі скрозь адны цярэшкі». У г. п. Ветрына Полацкага раёна, напрыклад, «маці» і «бацька», а потым дзяўчына і хлопец для таго, каб узяць «шлюб», перакружваліся пад цярэшку, якую спявалі жанчыны і адначасова ігралі музыканты. Пры гэтым тыя, што злучаліся, браліся «намітусь», пад ручку, пад паху, дзяўчына, сагнуўшы локаць правай рукі, хлопец — таксама правай, і кружыліся спачатку ў адзін бок, а затым — у другі. Думаецца, што традыцыя «скручвання цярэшкай» з'яўляецца гістарычна найбольш даўняй, магчыма нават першапачатковай. Цікава, што ў асобных вёсках Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці і Валожынскага Мінскай вобласці захоўваецца звычай «затанцоўвання» сапраўднага вяселля бацькамі маладых, якія, узяўшыся пад пашкі, кружыліся ў розныя бакі пад абрадавую танцавальную песню.

Нямала дзе «злучальнай» была «Лявоніха». Так, у в. Іст Мёрскага раёна «...маладыя перакручваліся пад «Лявоніху», шчапіўшы рукі ў лакцях, павярнуўшыся тварам адзін да аднаго, пры перамене руху ў другі бок пляскалі ў далоні, а ў канцы цалаваліся. Перакручваліся няшмат разоў, бяжком у адзін бок, пасля ў другі».

У в. Велеўшчына Лепельскага раёна, па даных Г. А. Барташэвіч, «...выбраную пару выводзяць у круг і «скручваюць» іх «Лявоніхай», пасля чаго ідзе так званы «Мосцік» ... «Лявоніху» «скручваюць» не толькі асобныя пары, калі іх жэняць, але і ўсе разам злучаныя пары з «маткай» і «бацькам». «Матка» перакручваецца па чарзе з кожным і потым з «бацька-

---

[9] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнограф. сб. Имп. Рус. географ. об-ва. СПб., 1858. Вып. 3. С. 168.

кам», які застаецца ў сярэдзіне круга. «Мосцік» утвараюць пары, узяўшыся за рукі, пад імі павінна прайсці кожная пара, даганяючы адзін аднаго»[10]. Даследчыца мяркуе, што «магчыма праходжанне пад «варотамі» (паднятыя ўгору і сашчэпленыя рукі) як заключны этап у «жаніцьбе» злучаных «маткаю» і «бацькам» пар з'яўляецца толькі эстэтычнай, мастацкай вольнасцю, але ж вядома, якое важнае значэнне надавалася падобнаму праходжанню пад прыроднымі варотамі (звязанымі галінкамі дрэў) у абрадзе траецкага кумлення дзяўчат. Гэта — замацаванне саюзу, замацаванне сяброўства паміж дзяўчатамі. Ці не такая ж неабходнасць у падобнай танцавальнай фігуры і ў «Жаніцьбе Цярэшкі»?[11] «Мосцік» быў абавязковым элементам «Цярэшкі» і ў в. Варонічы Полацкага раёна, прычым гулялі ў яго, таксама співаючы цярэшкі.

Згодна з разгорнутым апісаннем «Жаніцьбы Цярэшкі» з Дзісенскага павета Віленскай губерні (зараз Полацкі р. Віцебскай вобл.), зробленым Е. Р. Раманавым у пачатку XX ст., «матка» і «бацька», «матка» з дзяўчынай, а «бацька» з хлопцам і дзяўчына з хлопцам кружыліся, прыпяваючы «Крутуху»:

Ты мой дзед, ты мой дзед,
А я твая бабка,
Шануй мяне, цалуй мяне,
Каб я была гладка![12]

Па ўспамінах спявачак з Полацкага раёна, «Крутуху», падобна да «Цярэшкі» і «Лявоніхі», танцавалі таксама ўзяўшыся «намітусь» і кружачыся то ў адзін, то ў другі бок.

У многіх вёсках абрадавае значэнне набыла полька, якая лічылася першым танцам наогул. Так, у вёсках Скураты і Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна «калі «маладых» зводзілі, то гарманіст іграў «Цярэшку», а калі яны перакручваліся, то польку. Хлопцы ж, асабліва як падпіўшы, як дадуць у запяткі і як падпяюць прыпеўкі!» Як трапна заўважыла адна са спявачак, «калі хлопец зловіць дзеўку ці наадварот, так гэта адзначаюць вясёлай полькай».

Але пад якую б музыку не перакручваліся — пад «Цярэшку», «Лявоніху», «Крутуху» або польку, заўсёдыназіраецца ўзгодненасць музыкі (песеннай, інструментальнай ці песенна-інструментальнай) з рухам у яго самых розных формах, суаднесенасць і ўзаемападпарадкаванасць іх рытмічна-

---

[10] Барташэвіч Г. А. Матывы шлюбу ў зімовай абраднасці і паэзіі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. Мн., 1988. № 4. С. 85.

[11] Там жа. С. 85.

[12] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильна, 1910. Вып. 7. С. 42.

структурных адзінак. Яшчэ Е. Р. Раманаў звярнуў увагу на тое, што «калі ловяць адзін аднаго, то танцуюць у такт песні (выдзелена мной.— *І. Н.*), акрамя таго, плешчуць пад такт жа ў далоні»[13].

Назіранні за тым, як былыя ўдзельнікі гульні перакружваюцца пад цярэшкаўскую песню, паказалі, што працягласць і будова музычнай і танцавальнай структурнай адзінак цалкам вызначаецца «цярэшкаўскай» рытмаформулай, а сінхранізацыя рытмаў спеву і руху абумоўлена іх сінкрэтычнай сувяззю:

рытмаформула напеву - 6/8

бег з прытопам у канцы - 6/8

(Пасля прытопа адбываецца перахоп рук — ён прыходзіцца на апошнюю восьмую рытмаформулы, пасля чаго пачынаецца рух у процілеглы бок.)

Сінхранізацыя рытмаформул песні і руху назіраецца і пры перакручванні пад «Лявоніху»:

рытмаформула прыпеўкі - 2/4

бег з прытопам у канцы - 2/4

Асаблівую цікавасць выклікаюць тыя мясцовыя варыянты калядна-абрадавай гульні, дзе «Цярэшка», пад якую ідзе пераловўліванне пар, раптоўна пераходзіць у «Лявоніху», пад якую яны перакручваюцца. Пры гэтым бесперапыннасць і логіка развіцця паэтычнага тэксту не парушаюцца:

Цярэшка — святое дзела,
Далі мне старога дзеда:
Ня ўмеець Цярэшку жаніць,
Ня ўмеець бабульку лавіць.
Не ўцікай, дзядулічка,
Не ўцікай, зязюлічка,
Хоць жа я павалюся,
За дзядком паганюся,
А хоць жа я ножку зламлю,
Я ж сабе дзядульку злаўлю...

І далей у канцы песні:

---

[13] Романов Е. Р. Белорусский сборник. С. 42.

Кацілася калясо з клеці,
Ой, жывіце харашо, дзеці [14].

Перад намі рэдкая, але далёка не адзіная магчымасць [15] бачыць, як у нетрах абрадавай формы выспявала спецыфіка танцавальнага жанру, як нараджаўся разам з музыкай вельмі архаічны па сваёй лексіцы і структуры абрадавы танец.

Найбольш ранні запіс цярэшкавай мелодыі быў зроблены ў канцы XIX ст. чэшскім славістам А. Чэрны і прыведзены ў яго працы «Беларускія песні з Дзісенскага павета Віленскай губерні» [16]. Пазней, ужо ў XX ст., адзінакавыя ўзоры гэтых песень занатавалі польскі кампазітар і педагог Т. Шалігоўскі [17], беларускі фальклярыст і кампазітар М. М. Чуркін [18], этнограф С. П. Сахараў [19], фальклярысты-музыказнаўцы Р. Р. Шырма [20] і З. Я. Мажэйка [21]. Запісы цярэшак, сабраныя разам і дапоўненыя новымі (усяго пятнаццаць), склалі спецыяльны раздзел у музычнай частцы тома «Зімовыя песні: Калядкі і шчадроўкі» [22]. Выявіўшы жанравы састаў зімовых песень і ўласцівую ім унутраную дыферэнцыяцыю, З. Я. Мажэйка ўпершыню вылучыла цярэшкі як асобны калядна-іграві тып абрадавых напеваў, пашыраны ў цэнтральных і заходніх раёнах Паазер'я, вызначыла іх устойлівыя музычныя і паэтычныя прыкметы. «Да іх ліку,— піша даследчыца,— належыць сямі-, васьміскладовая структура верша, якой у напеве адпавядае рытмаформула з роўных рытмічных працягласцей з зацягнутым гукам на пятым і апошнім складзе (пры сяміскладовай структуры верша) або толькі на апошнім (пры васьміскладовай):




[14] Зімовыя песні: Калядкі і шчадроўкі. Мн., 1975. С. 582.

[15] Аналагічныя ўзоры зафіксаваны намі ў каляднай гульні «Каза», вясельным абрадзе Паўднёвай Беларусі.

[16] Černy A. Pieśni białoruskie z powiatu Dziśieńskiego gubernii Wileńskiej // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. Kraków, 1895. Т. 18.

[17] Seligoński T. Katalog białoruskich peseń. Б-ка АН БССР імя Я. Коласа, аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў, фр. 8.

[18] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 7. С. 42. № 47; Чуркин Н. Беларускія народныя песні і танцы. Мн., 1949. С. 75. № 145.

[19] Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1944. Вып. 2. С. 424. № 5.

[20] Беларускія народныя песні / Зап. Р. Р. Шырма. Т. 3. С. 286—289. № 188—190; Ширма Г. Двести белорусских народных песен. М., 1958. С. 71—73. № 50.

[21] Мажэйка З. Я. Песні беларускага Паазер'я. С. 33—39. № 2—5.

[22] Зімовыя песні. С. 576—585. № 136—151.




Па даных Мажэйка, «...для «Цярэшкі» ў роўнай меры характэрны напевы квінтавыя і «двух'ярусныя» (з танічным устоем пасярэдзіне), напевы больш шырокага дыяпазону (септымавага, актаўнага) з супастаўленнем фраз, сказаў або больш разгорнутых частак у парадку пытання — адказу. Як правіла, усе гэтыя напевы мажорнага накланення. Але час ад часу сярод іх трапляюцца і напевы мінорныя, якія тонка адцяняюць характар гумарыстычнага змяшчэння «важных» вясельных слаўленняў «Жаніцьбы Цярэшкі»... Гульнёвы тып напеву «Цярэшкі» канцэнтруе вакол сябе значную колькасць песень, прымеркаваных да каляд і маючых у сваёй аснове па-рознаму вар'іруемую «цярэшкаўскую» рытмаформулу» [23].

І другая даследчыца беларускіх каляндарна-абрадавых песень Л. С. Мухарынская таксама вылучыла ў якасці тыпалагічна-вызначальнай прыкметы напеваў цярэшак іх складовамузычную форму. Яна пісала: «Напевы «Цярэшкі» памятаюць да гэтых часоў нават там, дзе ў гэту гульню даўно не гуляюць. Параўноўваючы розныя яе напевы (як правіла, запісаныя на поўначы Беларусі, у мясцовасцях, дзе не калядавалі пад вокнамі), мы знаходзім заканамернасць, характэрную і для розных груп калядных: у фарміраванні падабенства гэтых напеваў першасную ролю адыгрывае рытмічнае падабенства, а ў некаторых выпадках нават тоеснасць. Характар гэтага рытмічнага малюнка можа быць часткова растлумачаны змяншальным суфіксам пры паўтарэнні імені «Цярэшанька». Можна дапусціць, што гэта рытмічная форма, якая вырасла з інтанацыі ласкавага звяртання па імені, была потым перанесена на ўсе іншыя выпадкі, падпарадкаваўшы сабе варыянты напеваў» [24].



Новыя палявыя матэрыялы — этнаграфічныя апісанні «Жаніцьбы Цярэшкі», запісы абрадавых песень і найгрышаў, сабраныя ў 1970—80-я гады этнамузыколагамі і фалькларыстамі-філолагамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі

---

[23] Мажэйка З. Я. Напевы зімовых песень (сучасны стан; тыпы калядных напеваў і раёны іх пашырэння) // Зімовыя песні. С. 48.

[24] Мухаринская Л. С. Белорусская народная песня: Историческое развитие. Мн., 1977. С. 77.

і фальклору АН БССР, і таксама Мінскага дзяржаўнага педінстытута імя А. М. Горкага і Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, дазволілі паставіць новыя пытанні, якія тычацца мелодыка-стылявой спецыфікі песенных і інструментальных версій цярэшак, прынцыпаў будовы меластрафы, разнастайнасці кампазіцыйных структур, форм і характару выканальніцкага ўвасаблення, ролі і месца ў гульні музычна-інструментальнага кампанента.

Аналіз цярэшкавых напеваў паказаў, што найменшай лагічна завершанай структурна-семантычнай адзінкай іх з'яўляецца ладава-меладычная фраза з устойлівай тыпалагічна-вызначальнай рытмаформулай у аснове. Сінтаксічныя межы музычнай фразы і нарматыўнага сямі-, васьміскладовага паэтычнага радка, як правіла, супадаюць; заканчэнне фразы асноўнай ладавай апорай нярэдка яшчэ дадаткова падкрэсліваецца дынамічным акцэнтам і паўзай.

Намі вылучана некалькі тыпавых ладава-меладычных фраз, якія вядомы народным спевакам паўсюдна, на ўсёй тэрыторыі пашырэння «Жаніцьбы Цярэшкі», і выкарыстоўваюцца імі ў якасці «будаўнічага матэрыялу» пры стварэнні цярэшкавых напеваў. Па асаблівасцях ладава-меладычнай арганізацыі ўсе асноватворныя фразы магчыма падзяліць на дзве ўзаемазвязаныя групы. Да першай належаць:

Ця_рэш_ ка ста_ ра – ста_ ра

Ця_ рэш_ка, Ця_ рэ_ шух_ на

Ця_ рэш_ ка, Ця_ рэ_ шынь_ ка

Ах, ты мой дзя_ ду_ ліч_ ка

Зразумела, што ў жывой фальклорнай практыцы прыведзеныя фразы існуюць толькі ў мностве канкрэтных, часам ярка індывідуалізаваных меладычных варыянтаў і выканальніцкіх версій.

Меладычны рух гэтых фраз разгортваецца ў межах се-

кунды, тэрцыі, мажорнага, радзей мінорнага тэтрахорда або пентахорда з ніжнім апорным тонам, які нярэдка апяваецца субсекундай. Нягледзячы на розніцу ў ладавай аснове, усе фразы маюць шмат агульнага. Для іх характэрны пластычнасць і паступеннасць меладычнага развіцця, агульны сыходны рух у спалучэнні з плаўнай хвалепадобнасцю, настойлівае апяванне-вярчэнне вакол галоўнага, «стрыжнёвага» апорнага тону, блізкасць гукавышынных контураў. Выяўляюцца яны праз суадносіны найбольш канструктыўна важных меладычных гукаў-апор — зачыннага, кульмінацыйнага (ён заўсёды знаходзіцца на пятым зацягнутым складзе і падкрэсліваецца асноўным націскам вершаванага радка) і заключнага. Так, варыянты меладычнай фразы з секундавай ладавай асновай грунтуюцца на суадносінах 2—2—1 (№ 71 В); з тэрцавай — 3—3—1 (№ 54 В, 56 А, 57 А, 58 А, 121 А), 3—1—1 (№ 59 А, 105 А), 2 (1) — 3—1 (№ 1, 118 В); з тэтрахордавай — 4—4—1 (№ 34, 37 $А_1$, 42 $А_1$, 43 А), 4—1—1 (№ 8, 9, 11, 13, 14), 4—3—1 (№ 6, 7, 10, 44 $А_1$, 49 А, 70 А), 3—4—1 (№ 17); з пентахордавай — 5—1—1 (№ 45 $А_1$, 46 $А_1$, 75 В), 3—3—1 (№ 52 А, 62 В, 72 В, 81 А, 82 А, 84 А), 5—4—1 (№ 47 В).

Вельмі часта ў фразах з тэрцавай і тэтрахордавай ладавай асновай субсекунда замяшчаецца субквартай, у выніку чаго меладычны рух набывае больш размашысты дынамічны характар, але суадносіны асноўных меладычных апор пры гэтым не змяняюцца (№ 18—26). Таму невыпадкова выкарыстанне ў адным напеве дзвюх узаемазамяняльных версій адной фразы (№ 23).

Другая група ўключае дзве асноватворныя меладычныя фразы:




Ладава-меладычнай асновай першай з іх з'яўляецца тэтрахорд, другой — пентахорд. Меладычныя лініі абедзвюх фраз разгортваюцца плаўна ад субквартавага гуку ва ўзыходзячым напрамку, але суадносіны іх асноўных апорных тонаў розныя: першай — V—1—1 (№ 64 В, 66 В, 93 В, 100 В, 119 В), другой — V—2—1 (№ 66 В, 109 В, 114 В, 121 В).

Усе асноватворныя цярэшкавы меладычныя фразы, будучы тыпалагічна роднаснымі па вобразна-эмацыянальнаму і семантычнаму зместу, рытмічнай складова-музычнай арганізацыі, структурна-кампазіцыйнай функцыі, разам з тым у рамках кожнай групы паказваюць несумненную мелодыка-інтанацыйную блізкасць. Адсюль назіраемая ў многіх песенных напевах пластычнасць і гнуткасць пераходаў-пераліваў адной меладычнай фразы ў другую, успрыняцце іх як варыянтных меладычных утварэнняў.

У залежнасці ад таго, які прынцып пануе пры фарміраванні напеву — паўторнасці адной фразы або спалучэння яе з другімі (адной, дзвюма), атрымліваюцца структурна разнастайныя кампазіцыі. Тым самым пацвярджаецца прынцыпова важны вывад З. Я. Мажэйка аб тым, што «меладычнае развіццё песеннага мастацтва Паазер'я цалкам ідзе ў гарызантальным напрамку, які праявіўся перш за ўсё ў гібкасці рытмікі, а таксама ў разнастайнасці і вялікай рухомасці кампазіцыйных структур паўночнабеларускай песні»[25].

Правядзенне прынцыпа паўторнасці дае незалежна ад формы паэтычнай страфы аднарадковыя напевы $AA_1A_2A_3$... (№ 1—30). У тым выпадку калі пры выкарыстанні адной меладычнай фразы першае яе правядзенне завяршаецца квінтавым гукам, а другое — танічным, узнікае форма $AA_1$ пры двухрадковай, $AA_1 AA_1$ пры чатырохрадковай і $AA_1 AA_1 AA_1$ пры шасцірадковай страфе паэтычнага верша (№ 33—46). Вынікам спалучэння-супастаўлення дзвюх тыпавых меладычных фраз па прынцыпу «пытанне — адказ» з'яўляюцца музычныя формы AB, AA BB, AB AB, AABA, AB AB AB, AA BA BA, AA BB AA, AA BB AB, узоры якіх дадзены ў падраздзеле «Абрадавыя песні». Выкарыстанне трох меладычных фраз дае структуры AABC пры чатырохрадковай і AA BC BC, AB CC AC пры шасцірадковай паэтычнай страфе. Нярэдка куплеты адной і той жа песні маюць розную музычную форму, што таксама сведчыць аб характэрнай для цярэшак рухомасці кампазіцыйных структур.

У час гульні цярэшкі пілялі «матка», «бацька» (калі ўмеў), дзяўчаты і хлопцы або ад іх імя хор жанчын, якія прыходзілі паглядзець на сваіх дзяцей. Пры неабходнасці старэйшыя, як і «матка», дапамагалі маладым весці парадак гульні і піяць адпаведныя моманту песні.

Згодна з мясцовай традыцыяй цярэшкі выконваліся сола (так было прынята, напрыклад, у в. Мураўшчына

[25] Мажэйка З. Я. Песні беларускага Паазер'я. С. 6.

Полацкага раёна), хорам жанчын ці пачаргова сола і хорам (дыялагічная форма спеваў). У некаторых вёсках іх спявалі абавязкова пад музыку, апошнім часам найболей пад гармонік.

У выкананні цярэшак сола выразна праяўляюцца дзве тэндэнцыі — скорагаворкава-іграваяя, імпульсіўная, дынамічная, якая адпавядае руху ў хуткім тэмпе (пры пералоўліванні, напрыклад), і больш распеўная, лірызаваная ў час павольнай хадзьбы (пры падборы пар). Нездарма самі спявачкі адрозніваюць «спевы ходзячы» ад «спеваў бяжком».

У спявачак-«артыстак» з добрым адчуваннем гумарыстычна-ігравой стыхіі напевы цярэшак атрымліваюць індывідуалізаваную трактоўку, што выяўляецца ў розных «нечаканасцях» — свавольнай акцэнтуацыі, ускладненні рытмікі за кошт драблення і вынаходлівага спалучэння розных рытмаячэек, нечаканых ладава-інтанацыйных зваротах (напрыклад, паяўленне трытонавага хода ў спявачак з Лепельскага раёна і септымавага з Мёрскага), паступовым або ступеньчатым паскарэнні тэмпу, выкарыстанні фаршлагаў і глісанда.

Хорам цярэшкі выконваюцца ў гетэрафонным стылі, у якім увагу прыцягваюць секундавыя сугуччы, секундавыя



Дудар Х. Цiхановіч. В. Домжарыцы Докшыцкага р. Віцебскай вобл. (Прывалаў Н. Народныя музычныя інструменты Беларусі. Мн., 1928. С. 17. Мал. 15)

ланцужкі і нават секундавыя гронкі (спалучэнне дзвюх секунд па вертыкалі). Гэтая асаблівасць харавога выканання знаходзіць сваё адлюстраванне і ў скрыпічных, цымбальных версіях цярэшкавых напеваў.

«Па закону» (г. зн. па традыцыі.— *І. Н.*) абавязковымі ўдзельнікамі «Жаніцьбы Цярэшкі» былі «музуканты». Паколькі яшчэ параўнальна нядаўна, у першай палове XX ст., сярод моладзі было нямала інструменталістаў, то яны самі, без запрашэння прыходзілі на ігрышча і ігралі для сваіх вяскоўцаў бясплатна.

У этнаграфічных апісаннях другой паловы XIX ст. з музычных інструментаў, што гучалі на каляднай гульне, звычайна ўпамінаюцца дуда і скрыпка. Так, А. Кіркор адзначаў: «Жаніцьба Цярэшкі» — пляска гэта ці спевы суправаджаюцца, калі ёсць магчымасць, скрыпкай або дудой-муцянкай» [26]. Пра скрыпача або дудара, якія садзяцца на ступ, упамінае М. Дзмітрыеў [27].



Скрыпач М. Таран. В. Будачы Докшыцкага р. Віцебскай вобл.

---

[26] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию. С. 286.
[27] Дмитриев М. А. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869. С. 24—25.

Іх назіранні знаходзяць пацвярджэнне і ў саміх цярэшкавых песнях:

На гары дудар ходзіць,
Карагод дзяўчат водзіць...

Або —

Чую скрыпка іграіць,
А дзядулька ні пускаіць...

Там, дзе ў адной вёсцы было некалькі музыкантаў, ігралі на «Цярэшцы» ансамблі:

Як я замуж хацела,
Сем разоў з печы зляцела.
Як мяне замуж аддавалі,
Чатыры скрыпачкі йгралі.
Пятая дуда раўла,
Мяне з памяці звяла.
Шостыя цымбалы білі,
На розам навадзілі.

Сабраныя намі экспедыцыйныя матэрыялы дазваляюць меркаваць не толькі аб музычных інструментах, але і аб тым, калі, у якія моманты «Цярэшкі» і што канкрэтна ігралі музыканты. Іх пастаяннымі спадарожнікамі былі часцей за ўсё



Два скрыпачы і цымбаліст (Прывалаў Н. Народныя музычныя інструменты Беларусі. С. 28. Мал. 23)

скрыпка, гармонік, баян, радзей цымбалы (дуда ўжо выйшла з ужытку), якія пры спрыяльных умовах утваралі ансамблі розных саставаў. Сярод іх — скрыпка з цымбаламі, дзве скрыпкі, скрыпка з гармонікам, гармонік з бубнам, скрыпка з гармонікам, цымбаламі і турэцкім барабанам, скрыпка з гармонікам, цымбаламі, балалайкай і бубнам.

У розных вёсках існавалі свае «правілы» выкарыстання інструментальнай музыкі ў час гульні. У адных, як у в. Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна, музыкант пачынаў іграць толькі тады, калі дзяўчыну і хлопца «звадзілі» ў пару, а потым «злучалі». Па ўспамінах А. А. Падабыцька, «...цярэшкі пяюць не пад музыку. Ходзім, пяём, а тады ўжо ловяць... А як уловіць, так ужо музыкант падыгрывае. А як пераловяцца, тады польку сыграюць і за стол садзяцца». У в. Скураты таго ж раёна, са слоў Н. З. Таболы, «на «Цярэшцы» ігралі скрыпка, цымбалы і гармонік або толькі гармонік, прычым пад яго піялі цярэшкі, ■ таксама звадзілі і перакручвалі маладых». Таксама «скрозь усю гульню» ігралі музыканты у в. Варонічы Полацкага раёна, дзе разам з пяюллямі выконвалі цярэшкі, пад якія лавіліся, перакручваліся і гулялі «Мосцік».

Такім чынам, скл аліся дзве традыцыі выканання цярэшкавых песень — без музыкі і пад музыку. У апошнім выпадку гавораць, што музыкант падыгрывае спевакам, што ён іграе ў тон песні, вызначаючы тым самым яе ролю як меладычнай і рытмічна-структурнай крыніцы найгрышу. Разам з тым у інструментальнай версіі, згодна прыведзеным у томе ўзорам (№ 127—141), песенна-меладычная аснова зазнае ў іх даволі істотныя змены. Ступень і глыбіня іх залежаць ад розных фактараў — выразна-тэхнічных магчымасцей музычных інструментаў, на якіх інтануюцца песенныя мелодыі; сольнага ці ансамблевага (уласна інструментальнага, вакальна-інструментальнага) іх выканання; мастацкіх установак і асабістых эстэтычных уяўленняў музыкантаў, якія складваліся пад непасрэдным уздзеяннем мясцовай песенна-інструментальна-харэаграфічнай культуры.

Пры інструменталізацыі песенных напеваў увогуле можна вылучыць дзве тэндэнцыі. Адна з іх звязана з імкненнем музыканта «ісці ўслед за песняй», перадаць яе як мага бліжэй да мясцовага песеннага варыянта [28]:

---

[28] АІМЭФ, ф. 2, воп. 12, спр. 89. Зап. І. Дз. Назіна і Л. М. Салавей у 1989 г. у в. Іст Мёрскага р. Віцебскай вобл. ад Н. А. Палуевай, 1926 г. н., Н. С. Ізавітка, 1913 г. н., А. А. Цітовай, 1932 г. н., З. Ф. Людзскай, 1927 г. н., і баяніста В. С. Глебкі, 1925 г. н.

што ў ця_ бе ў мя_ ху, ў мя_ ху?

— І шпі_ ліч_ кі, йго_ лач_ кі,

за_ ла_ ты пяр_ сцё_ нач_ кі.

З прыведзенага прыкладу відаць, што спачатку баяніст выконвае песенную мелодыю са сціплым баса-акордавым акампанементам. Затое як толькі пачынае спяваць жаночы хор, акампанемент «адкідваецца», і вось ужо інструментальная мелодыя зліваецца з вакальна-песеннай, амаль паўтараючы апошнюю. Тая ж «песенная манера» выкладання мелодыі характэрна для ансамбля скрыпка—цымбалы (№ 138).

Другая тэндэнцыя, звязаная з актыўнай інструменталізацыяй песеннай мелодыі, найбольш яскрава праяўляецца ў скры-

пічных найгрышах. Выкананне цярэшкавых мелодый сола, а іменна такія фоназапісы пераважаюць у нашым матэрыяле, дае найбольшыя магчымасці для раскрыцця творчых здольнасцей выканаўцы. У многіх скрыпічных найгрышах песенная мелодыя пры захаванні сваёй інтанацыйна-меладычнай, рытмаформульнай і кампазіцыйнай асновы разам з тым набывае тыпова інструментальны характар, аздабляецца арнаментыкай (фаршлагі, мардэнты), па-асабліваму фразіруецца, што дасягаецца чаргаваннем звязаных кароткіх і раздзельных, часам маркіраваных штрыхоў. Больш рухомай становіцца ладавая структура з тыповай для яе пераменнасцю, «пераафарбоўкай» асобных ступеняў гукарада. Значныя змены закранаюць рытмічны малюнак песеннай мелодыі, які адрозніваецца большай складанасцю і разнастайнасцю ў сувязі з паяўленнем рытмаячэек рознай будовы, іх вынаходлівым спалучэннем, а таксама «ігрой» акцэнтаў. Дынамізацыі найгрышаў, прыкметнай пераваэе ў іх маторнага пачатку над песенным садзейнічае нярэдка і няўхільнае паскарэнне тэмпу падобна да таго, як гэта адбываецца ў танцавальных найгрышах.

Фактура скрыпічных версій у адрозненне ад гамафоннагарманічнай баяннай іншая — бурдонна-паліфанічная, якая складаецца з мелодыі і аднаго-двух бурдонаў, што выконваюцца на адкрытых струнах. Цікава, што падзел партый у ансамблі з дзвюх скрыпак грунтуецца на тым жа прынцыпе (№ 139).

Пасля агульнага застолля, як і напачатку ігрышча («вечарынкі»), музыканты ігралі «ўсялякія танцы»: напрыклад, у в. Порплішча Докшыцкага раёна — полькі, «Галёп» (полька, але галёпам), «Вангерку», «Каробушку», «Зялёную рошчу» з песнямі (мясцовая назва «Тустэпа»), «Падыспан», «Кракавяк», валец, кадрылю; у в. Брычаны таго ж раёна, акрамя вышэй названых,— мазурку, сваю кадрылю (2-е калена называлася «Ланцуг», 3-е — «Падво,'», 4-е — «Фігур»), польку-мазурку (яе мясцовая назва — «Трасуха»); у в. Варонічы Полацкага раёна, пасядзеўшы за сталом, гулялі таксама любыя танцы: вальсы (яны былі доўгія, на 12 кален), «Ва саду лі», «Месяц», «Юрачку», «Таўкачыкі», «Гапак расейскі», «Барыню» і інш. Узоры некаторых гэтых танцавальных найгрышаў прыведзены ў падраздзеле «Абрадава прымеркаваныя песні і найгрышы» (№ 155—164).

Нягледзячы на сваю вобразна-эмацыянальную змястоўнасць, грамадскую значнасць і яркую мастацкасць, «Жаніцьба Цярэшкі» ў наш час амаль што выйшла з ужытку. Садзейнічалі гэтаму моцныя сацыяльна-эканамічныя, дэмаграфічныя і куль-

турныя зрухі, якія істотна падарвалі асновы традыцыйнага жыцця беларускай вёскі. Толькі ў паасобных вёсках Полацкага, Ушацкага, Лепельскага раёнаў калі-нікалі «жэняць Цярэшку», прытым, як у в. Саламір'е Полацкага раёна, не толькі маладыя, але і сталыя людзі (для забавы, успамінаючы маладосць). У асноўным жа гэта некалі вельмі папулярная калядна-абрадавая маладзёжная гульня з яе песнямі, музыкай і танцамі захоўваецца ў памяці старых жыхароў заходніх раёнаў Віцебскай вобласці (на тэрыторыі гістарычнай Полаччыны) і некаторых раёнаў Мінскай вобласці (гл. карту бытавання «Цярэшкі»). Асобныя звесткі пра «Цярэшку» паходзяць з Астравецкага і Навагрудскага раёнаў Гродзенскай вобласці. Бліжэй да граніц «цярэшкаўскага арэала» назіраецца «размыванне», «рассейванне» абрадавага дзейства. Так, на поўначы і ўсходзе Мядзельшчыны абрад ніхто не памятае, а вось песні хто-ніхто і праспявае. На мяжы Лепельскага і Бешанковіцкага раёнаў з абраду «выпадаюць» най-




Тэрыторыя пашырэння «Цярэшкі»

больш драматургічна істотныя фрагменты. Так, у в. Промыслы «маладыя» не лавіліся, а адразу садзіліся за «вясельны» стол. Цікава, што ў Барысаўскім раёне Мінскай вобласці назва «Цярэшка» замацавана за карагодам, у якім пад песню «Розачка мая» разыгрывалася сватанне дзяўчыны, выбар хлопцам свата, свацці, цесця, цешчы. У тым жа раёне Т. Б. Варфаламеевай запісана цярэшка, у якой пры захаванні тэматыкі абрадавай песні і далучэння да яе «Лявоніхі» адбываецца трансфармацыя тыпалагічна-вызначальнай рытмаформулы (ад яе застаецца вельмі характэрная фігура ♪ ♩) і ўзмацненне трохдольнай «вальсавай» пульсацыі[29]:

♪≈ 200

6+6/8

А ў ліп_ ні_ч(ы)_ку ка_ ля_ дач_ кі,

а ў ліп_ ні_ч(ы)_ку пры_ на_ дач_ кі.

Пры_ на_ дач_ ка — то Ра_ іч_ ка,

пры_ на_ дзі_ ла йна Мі_ шач_ ку,

сы_ ры ў мас_ лі су_ шу_ чы

і Мі_ ша_ч(ы)_ку но_ сю_ чы.

---

[29] АІМЭФ, ф. 2, воп. 13, спр. 77. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1977 г. у в. Люцец Барысаўскага р. Мінскай вобл. ад М. Р. Жыжы, 1920 г. н.

I тады:




У тэатралізаванай «Жаніцьбе Цярэшкі» па-свойму адбіўся багаты свет традыцыйнай гульнявой культуры беларусаў, культуры, якая на сённяшні дзень застаецца малавядомай. Далейшае яе вывучэнне ва ўсёй паўнаце і шматмернасці зместу, разнастайнасці форм і праяў павінна стаць праграмай для будучых фалькларыстычных даследаванняў.

*І. Дз. НАЗІНА*

## *УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ*

Пры натаванні фоназапісаў акрамя агульназначных выкарыстаны спецыфічныя для фальклорнага песеннага і інструментальнага матэрыялу абазначэнні.

У песнях дадзены толькі тыя ключавыя знакі, якія сустракаюцца ў мелодыі на ўзроўні яе дыяпазону. У найгрышах ключавыя знакі расстаўлены на агульнапрынятым узроўні і ў агульнапрынятай паслядоўнасці.

У танцавальных найгрышах тактавыя рысы маюць агульнапрынятае значэнне.

Павышэнне гуку меншае за паўтон і аналагічнае паніжэнне адзначаны ↑ і ↓ .

Глісанда ў песенных напевах абазначана ⟍ у зыходзячым і ⟋ ва ўзыходзячым кірунках; глісанда ў найгрышах адпаведна ⟍ і ⟋ .

Гучанне актавай ніжэй адзначана ключавым знакам 𝄟

Нязначнае зацягванне гуку і адпаведнае яго ўкарачэнне абазначана ∧ і ∪ .

## ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ

Забавы заключаюцца ў большым, чым звычайна, ужыванні ежы і піцця, г. зн. віна, іншы раз піва, у скоках і песнях. Найбольш вядомы тут танок («пляска») называецца «Ж а - н і ц ь б а  Ц я р э ш к і» (выдзелена аўтарам.— *Л. С.*). Ён заключаецца ў наступным: юнакі становяцца на адным баку, а дзяўчаты і замужнія і нават старыя [жанчыны] — на другім. З асяроддзя жанчын выбіраюць адну, больш увішную, і называюць яе сваццяй-маткаю. Яна выбірае аднаго з мужчын, бярэ яго за руку і праходзіць з ім па ўсёй лініі, выкручваючыся і прытанцоўваючы ў такт наступнай песні, якую яна сама пяе:

Цярэшка валочыцца,
Яму жаніцца хочыцца,
Валочыцца, выглядаіць,
Каго-то ён паймаіць?

На гэта дзяўчаты адказваюць хорам:

Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожычка
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.

Гэткім манерам праходзяць каля жанчын некалькі разоў, а потым маці-сваццця выбірае адну дзяўчыну і аддае яе кавалеру. Пара гэта ідзе танцаваць пад напеў маці-сваццi:

Цярэшка валачыўся
Да ўжо ж ён ажаніўся,
А ўзяў дзеўку прыгожую,
Хоць куды, дык гожую.

На гэта адказвае хор дзяўчат:

Цярэшка, бяда стала:
З кім твая жана спала?
Ой, пад гаем зіляненькім
Ці ня з казаком маладзенькім?
Ой, гожая, прыгожая,
Зрабіла нягожае!

Маці-сваццця абараняе выбраную дзяўчыну, спяваючы:

Ці спала, ці ня спала,
Толькі тая слава стала.

Яна з казаком гукала,
Пра дарожыньку пытала,
Пра дарожыньку, пра сцежку,
Як знайсці свайго Цярэшку.

У гэты час пара, якая танцуе, спыняецца ля пачатку рада мужчын і жанчын, утварыўшы такім чынам першую пару, а між тым маці-свацця, прытопваючы, выбірае другога мужчыну і так паступае з ім, як і з першым. Абрад гэты адбываецца да таго часу, пакуль яна ўсіх не паражэніць із двух радоў (шарэнгаў) мужчын і жанчын, што стаяць насупраць адзін аднаго, утворыць пары. Тады пары гэтыя крыху рассоўваюцца, утварыўшы невялікі праход, па якому пратанцоўвае першая пара. Дайшоўшы да канца шарэнгі, мужчына раптам кідае дзяўчыну і хаваецца ад яе, а яна яго шукае. Лоўкімі прыёмамі ў час гэтых ганітваў моладзь стараецца выказаць сваё ўмельства. Такім чынам паводзіць сябе кожная пара. Усё гэта адбываецца пад наступны спеў:

Ой, пайду я па гародзе,
Па дзявоцкім карагодзе,
Рыбачку лапаючы,
Мілага шукаючы.

Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

Я вымаю кашулічку
Да свайму дзядулічку,
Тонкую, таненькую,
Бялінку бяленькую!

Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

Ой, з рубковым рукаўком,
Назавуць цябе панком,
Ой, з чарвоным каўнерчыкам,
Назавуць цябе жаўнерчыкам.

Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

Пайду ж я ў жоначак пытаці,
Як гэту кашульку да й праці,
Як гэту кашульку да й праці,
Як яе да й у валічках качаці.

Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

Потым тое ж робіцца з дзяўчатамі, якія, кожная па чарзе, уцякаюць, а хлопцы іх даганяюць. Пры гэтым пяюць:

Дзевачкі-пралесачкі,
Ня йдзіця па арэшачкі,
Ой, ня ідзіця вы самі,
Спаткаіціся з ваўкамі.

Ня ўцякайце ж, дзевачкі,
Ня ўцякайце ж, пташачкі!

Або вы заблудзіце
І арэшкі пагубіце,
Або вас што спужаіць —
Ня куждая да й сэрца маіць!

Ня ўцякайце ж, дзевачкі,
Ня ўцякайце ж, пташачкі!

Дзевачкі шаху, шаху,
Што ў вашым мяху, мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.

Ня ўцякайце ж, дзевачкі,
Ня ўцякайце ж, пташачкі!

Іголачкі на хустачкі,
Шпілечкі на ўстужачкі,
А пярсцёначкі к вяселійку
У тую, што будзіць, нядзеліньку.

Ня ўцякайце ж, дзевачкі,
Ня ўцякайце ж, пташачкі!

А пажджыце, ня ўцякайце,
Сваю ручку да й нам дайце,
Сваю ручку да й нам дайце,
Добрым слоўкам павітайце!

Ня ўцякайце ж, дзевачкі,
Ня ўцякайце ж, пташачкі!

Танок гэты і спяванне суправаджаюцца, калі ёсць магчымасць, скрыпкай ці дудой-мацянкай.

*Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнографический сборник. СПб., 1858. Вып. 3. С. 168—170.*

## ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ

Пад гэтай назвай вядома даволі распаўсюджаная ў Полацкім, Лепельскім і Дрысенскім паветах Віцебскай губерні гульня хлопцаў і дзяўчат, якая прыкладна ўяўляе вяселле некалькіх пар.

Прыступаючы да апісання гэтай гульні, не магу не выказаць свайго шкадавання аб тым, што асабіста мне не давозілася яе бачыць; мне пра яе толькі расказвалі ідавочцы, але расказвалі стрымана, са значнымі недагаворкамі. Больш падрабязныя звесткі пра гэту гульню я сабраў у сяле Махірове (Полацкага п.).

Як больш выдатная, нібы свяшчэнная, гульня гэта выконваецца даволі рэдка і выключна зімой, у дні гадавых свят, як, напрыклад, Каляды, Новы год і ў загавенне перад Вялікім пастом і абавязкова на заключэнне ігрышч, пасля працяглых скокаў. Месцам жа гульні звычайна і выключна бывае карчма, паколькі таму, што тут няма недахопу ў моладзі, пастолькі і яшчэ болей таму, што па нясціпламу характару гэтай гульні ні адзін сямейны дом не згадзіўся б дапусціць яе ў сябе, таму што большасць сялян грэбуе ёю.

Хоць моладзь, што сабралася на ігрышча, яшчэ за некалькі дзён перад тым трывожна, з вялікай зацікаўленасцю чакае гэтай гульні, распытваючы з цікаўнасцю адзін аднаго: «Ці будуць Цярэшку жаніць?», аднак «жаніцьба» гэта састаўляецца не інакш, як па пачыну карчмара — цяпер яўрэя, а ў былыя гады шляхціца, які, па народнаму паведамленню, прапіў карчму і заклаў яе жыду каля часу вызвалення сялян. Калі ігрышча ў самым разгары, карчмар, які даўно з нецярплівасцюназіраў за надаеўшымі яму скокамі моладзі, раптам ускрыквае: «Што гэта ўсё скокі да скокі! Валей бы Цярэшку жанілі» і тут жа прынімаецца іншы раз спыняць іграннe музыкі, які занадта разахвоціўся. Калі пад уплывам такіх паўнасмешлівых, унушальных слоў альбо па натуральнаму свайму ходу ігрышча набліжаецца да канца, карчмар, карыстаючыся падыходзячым момантам, пачынае падганяць загадзя намечаных жанатага мужчыну і жанчыну заняцца арганізацыяй задуманага «вяселля». І адразу па карчме праносіцца шумны гул: «Будуць Цярэшку жаніць! Будуць Цярэшку жаніць!» Пачуўшы гэтыя словы, сталыя людзі адразу ж выходзяць у асобныя памяшканні карчмы, прадстаўляючы хату ў распараджэнне моладзі, якою з гэтай мінуты пачынаюць кіраваць выбраныя карчмаром «бацька з маткэй». Сноўдаючыся паміж маладымі людзьмі, яны падмаўляюць іх выбіраць сабе скарэй

«жонку» альбо «мужыка» па свайму нораву, стараючыся ў гэтым выпадку дзейнічаць больш на хлопцаў, так як дзяўчаты часта адмаўляюцца ўдзельнічаць у складанні пар, заяўляючы пры гэтым аб пажаданні застацца тут толькі ў якасці глядачак гульні.

Калі моладзь дастаткова ўжо падрыхтавана да складання пар і гульня можа пачацца, «бацька з маткэй» садзяцца на кутняе месца (у красны вугал). Пары складаюцца такім чынам: кожны з хлопцаў альбо захоплівае сілай намечаную ім дзяўчыну, альбо падыходзіць да яе з ветлівасцю і надзяе ёй на галаву сваю шапку. Калі дзяўчына згодна прыняць удзел у гульні і быць у пары менавіта з ім, то яна і застанецца ў шапцы, і ў такім выглядзе пара выходзіць да «бацькі з маткэй», атрымліваюць ад іх блаславенне і садзяцца за стол па ўказанні бацькоў. У адваротным жа выпадку дзяўчына скідвае надзетую ёй шапку і ўцякае ад хлопца. Пры настойлівасці апошняга дзяўчыну ўсё ж такі ў рэшце рэшт пасадзяць у пары сілай, прычым справа не абыходзіцца без валтузні, піску, сваркі. Але калі ўжо дзяўчыну завялі і пасадзілі за стол побач з настойлівым хлопцам, то яна ўжо не смее ўцякаць адсюль да канца гульні: яна жонка выбраўшага яе хлопца.

Кожную пасаджаную за стол пару «бацька з маткэй» бласлаўляюць прыблізна такімі словамі: «Дай Бог вам шчасця ў нінасця, харошую долю ў волю, уцечкі на печкі, дзеткі ў клеткі». Але як на «бацьку з маткэй» нападзе ўжо асабліва моцны жарт, то да звычайнага блаславення яны прыбаўляюць іншай пары і наступнае: «Біражы, зяцёк, нашу дачушку, йна ў нас адна — ні бідна, ты ж цяпер узяў іе і спі з дачкой». Пасля такога роду бласлаўлення, пакуль пара засядзе на вызначанае ёй за сталом месца, музыкі пяюць адну з наступных песень:

На гарэ курэй многа,
Пітушка ніводнага.
Вы ж, куркі, не сакачыця,
Галоўкі не клапачыця,
Есь у мяне рэшата пер'я,
Куплю вам пітушка-пеўня.
Калі жыў я буду — скрыпку дабуду,
Дачушку каханую век ні забуду.

Цярошка, Цярошанька!
Чараз бор дарожанька
Бітая, таптаная,
Я ў маткі каханая.

Цярошка, Цярошанька!

Цярошку біда стала,
З кім яго жана спала?
У полі пад ліпкаю
З маладым Піліпкаю.

Ні ўцікай, мой кот шэрай!
Пашыю кажух белый,
Ні ўцякай, шарусенькій,
Пашыю бялюсенькій.

Ні ўцікай, мой дзедзінька,
Ні ўцікай, лябедзінька!
Пасядзі ны пячы ў кутку,
Я ж табе штонікі вытку.
З чырвоным каўнерчыкам —
Назавуць жаўнерчыкам.

Мяне запэўнівалі, што пры жаніцьбе Цярэшкі больш ніякіх песень не пяюць, а калі сям-там чуюцца падчас іншыя, то на іх трэба глядзець як на экспромт з боку расхадзіўшайся фантазіі музыканта. [Тут маецца зноска, заўвага Шэйна: «Наступныя варыянты паказваюць аднак, што гэта выказванне не мае дастатковай асновы ў дачыненні да іншых мясцовасцяў, не названых у апісанні пана Нікіфароўскага».] Такія песні тут жа забываюцца, прападаючы бясследна, не дажываючы нават да новай «Жаніцьбы Цярэшкі». Сам матыў у іх вельмі аднастайны, адзін агульны для ўсіх і не ўяўляе сабой нічога годнага заўвагі.

У вяселлі Цярэшкі звычайна ўдзельнічае пар да дзесяці і больш маладых людзей, і чым іх болей, тым больш значнай лічыцца заслуга «бацькі з маткэй». За сваю працу і зручную знаходлівасць яны атрымліваюць ад карчмара кап. па 20 і бутэльку гарэлкі, а іншы раз і больш. На зарobленыя грошы яны ўзаемна частуюць адзін аднаго, тут жа распіваецца і атрыманая гарэлка. Што ж да сабраных за сталом пар, то яны частуюцца кожная паасобку і на рахунак хлопца: гарэлкай, пернікам, півам і — ліманадам, ужо паспеўшым чамусьці прытуліцца ў сучаснай карчме. У даўнейшыя часы частаванне абмяжоўвалася толькі гарэлкай і зрэдку толькі — пернікамі.

У абавязкі «бацькі з маткэй» уваходзіць — усімі мажлівымі сродкамі ўзвесяляць сабраную за стол моладзь і абудзіць у хлопцаў спаборніцтва на конт пачастунку сваіх «ж о н а к». Хлопцы з свайго боку стараюцца пераўзыйсці адзін аднаго ў гэтых адносінах, і часта гульня канчаецца шумным разгулам, які даходзіў да разнузданасці: абдымкам, пацалункам, жартам усялякім няма канца. Гульня заканчваецца позна, далёка за поўнач. Калі якой-небудзь з дзяўчат даводзіцца

вяртацца дамоў без знаёмых таварышаў і суседак, то новы муж абавязан праводзіць сваю жонку дадому. Зразумела, што дзякуючы вясельнаму хмяльку, жартам, пастаноўцы ўсёй справы на вясельную глебу і многім іншым падыходзячым умовам маладыя людзі іншы раз «падаюць». І сапраўды: ні адна «Жаніцьба Цярэшкі» не абыходзіцца без такога рода ахвяр, якім хутка даводзіцца расплачвацца за сваю памылку горкімі слязьмі, пакутамі і спозненым каяннем. Сумленны хлопец у такім выпадку спяшаецца выканаць маральны абавязак у адносінах пакрыўджанай ім дзяўчыны і пакрыць яе ганьбу сапраўднай жаніцьбай, але часцей за ўсё справа перадаецца на ласку бога: пратэст супраць крыўдзіцеля не мае тут звычайнай сілы па сэнсу гульні. Хоць рэдка, але бывае і так, што цнатлівыя хлопец і дзяўчына, што сышліся пры гульні ў мужа і жонку зусім выпадкова, потым робяцца такімі на самой справе праз царкоўнае вянчанне. Ва ўсякім разе назва мужа і жонкі паміж удзельнікамі гульні — хлопцам і дзяўчынай — захоўваецца надоўга, нават і тады, калі маладыя людзі ўступаюць у сапраўдныя, хоць і розныя шлюбы.

Годна ўвагі, што маладыя людзі, асабліва дзяўчаты, якія адмаўляюцца ад удзелу ў гульні, падвяргаюцца ганенням карчмара. Мне апавядалі, што ў Махірове (Полацкі п.) на працягу 6 тыдняў карчмар не ўпускаў да сябе ў карчму адной дзяўчыны пасля таго, як аднойчы яна рэзка адмовілася ад удзелу ў «Жаніцьбе Цярэшкі». Трэба аддаць справядлівасць той дзяўчыне, яна цярпліва перанесла сваё выгнанне і неаднаразовую ганьбу, таму што карчмар меў пахабства публічна выводзіць, а дакладней, выпіхаць яе з карчмы, калі яна непрыкметна ўваходзіла туды з натоўпам. Далейшае ганенне дзяўчыны спынілася якімсьці нечаканым міралюбным выпадкам. Бывае і так, што маладыя людзі, што сышліся ў гульні, не толькі не ведаюць адзін аднаго, але нават не бачаць як след адзін аднаго ў твар, асабліва ж хлопец дзяўчыны, твар якой бывае старанна схаваны або шапкай хлопца, альбо хусткай. Прастадушны батрак свяшчэнніка, вярнуўшыся з «Жаніцьбы Цярэшкі» ў Новы год, расказваў, што яму далі «нейкую дзеўку, а ці маладая йна, ці старая, я й ня відзіў».

Завяршаючы свае далёка не поўныя звесткі пра «Жаніцьбу Цярэшкі», я лічу не лішнім дадаць, што яшчэ вясною 1872 года цяпер пакойны свяшчэннік І. Блюдзінскі, які добра ведаў гэту гульню ў Полацкім павеце, проста назваў яе цёмнай і гранічна амаральнай. Падобныя водгукі чуў я пра «Цярэшку» і зараз у в. Махірове. Варта ўвагі і тая акалічнасць, што ў час ігрышч, як толькі справа даходзіць да «Жаніцьбы Ця-

рэшкі», лепшая і больш маральная частка моладзі, пераважна жаночай, ідзе дахаты; іншая дзяўчына лічыць сябе скампраметаванай у тым выпадку, калі ёй па неабходнасці давядзецца прыняць удзел у гульні. Ды побач з гэтым заручаныя альбо нават блізкія да заручын маладыя людзі радасна прымаюць удзел у «Жаніцьбе Цярэшкі». Як удзельнікам гульні, так і людзям больш салідным ■ ставіў часта пытанне: ці даспадобы сялянам і ці маральная гэта гульня? І кожны раз атрымліваў адказ самы неакрэслены, які не выказваў ні адабрэння, ні ганьбавання гэтай гульні: «Адна толькі блазнота і нічога больш», гаварылі мне пра Цярэшку. Хто стваральнік гэтай гульні і чаму яна называецца «Жаніцьбаю Цярэшкі», а не асобы з другім іменем? На гэта ніхто не мог даць мне адказ.

Зап. у 1884 г. у час калядных свят у Махірове наст. М. Я. Нікіфароўскі.

*Ш е й н П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1: Бытовая и семейная жизнь белорусов в обрядах и песнях. СПб., 1887. Ч. 1. С. 99—105.*

## КАЛЯДНАЯ ГУЛЬНЯ

Гэта гульня практыкуецца ў нас вечарамі ад Каляд да Вялікага паста.

Па папярэдняй дамоўленасці хлопцы і дзяўчаты збіраюцца ў выбранай імі хаце, куды запрашаюць і скрыпача, робяць складчыну: хлопцы даюць на выпіўку, а дзяўчаты на закуску. Апошнія выбіраюць з ліку ўдзельнікаў гульні аднаго хлопца ў «бацькі» і адну дзяўчыну ў «маткі». Потым кожнаму хлопцу «бацька» з «маткай» даюць па дзяўчыне. У час гэтага выбару бацька і матка, узяўшыся за рукі і кружачыся ўдваіх па хаце, пяюць пад гукі скрыпкі наступнае:

А мой ты дзядулька,
Я твая бабулька!
Будзем мы піва варыць,
Будзем сыноў жаніць,
Будзем гарэлку гнаць,
Дочак замуж аддаваць:
Сынульку Янульку,
Дачушку Ганульку.

*Ён:*

О мая ж ты бабулька,
Я твой дзядулька!
Хоць жа я павалюся,
За табой паганюся,
Хоць жа я ножку зламаю,
Я ж цябе [бабулька] злаўлю.

*Яна:*

Ні ўцякай, дзядулечка,
Я ж твая бабулечка!
Хоць жа я павалюся,
За табой паганюся,
Хоць жа [redacted] ручку зламлю,
Я ж цябе [дзядулька] ўлаўлю.
Сядзь ты на печы ў кутку,
Пакуль я штонікі сатку.

Калі ж пачынаюць вянчаць дзяцей, усе пяюць хорам:

А мой жа ты дзядзелечка,
Пойдзем кругом саду,
Найдзем курэй стаду,
Курачкі ніводныя [заводныя]
Пятушка ніводнага.
Курачкі, не сакачыце,
Пятушка ні звадзіце,
Вазьму [redacted] рашато пер'я,
Куплю я пятушка-пеўня.

Чыраз сад дарожка біта, таптана,
Я ж у мамычкі кахана:
Цярэшка, бяда стала,
З кім твая жана спала?
Пад дубам зялёненькім,
З казаком малодзенькім,
— Хоць жа спала, хоць не спала,
Ужо тая слава стала.

Гэты спеў працягваецца да таго часу, пакуль не пераженяць паміж сабою ўсіх. Кожны хлопец за адзін вечар можа жаніцца з 3-мя ці 4-мя дзеўкамі. У час жаніцьбы хлопцы і дзеўкі вельмі моцна частуюць адзін аднаго гарэлкай і рознымі закускамі і слодычамі і потым пад канец вечара, далёка за поўнач, па папярэдняй згодзе кладуцца спаць парачкамі.

Зап. наст. П. В. Шалковіч у сяле Латыгалічы Барысаўскага павета Мінскай губерні.

*Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1: Бытовая и семейная жизнь белорусов в обрядах и песнях. СПб., 1887. Ч. 1. С. 108—109.*

## ЦЯРЭШКА

«Цярэшка» — архаічная гульня беларусаў, якая ўяўляе водгук тых ігрышчаў дрыгавічоў, севяран і радзімічаў, якія апісаны Нестарам і з якіх славяне «умыкали» сабе жонак. У наш час гульня захоўваецца толькі ў захалусных паселішчах пад назвай «Жаніцьба Цярэшкі» альбо проста «Цярэшкі».

У адзін з вечароў Каляднага мясаеда моладзь збіраецца да якога-небудзь гаспадара, у якога прасторная хата з падлогай. Дзяўчаты прыносяць закуску: мяса, сала, кілбасы, масла, сыр, яйкі, яблыкі, арэхі, а хлопцы ў складчыну купляюць гарэлку, піва і наймаюць музыканта. Потым з прысутных жанатых мужчын і замужніх жанчын выбіраюцца «бацька» і «матка». Дзяўчаты садзяцца асобна ад хлопцаў. «Матка» выпытвае ў іх (сакрэтна), каго ім даць за «мужыка», а «бацька» ў гэты ж час даведваецца ў хлапцоў, каму якую дзяўчыну пажадана ўзяць. Моладзь вельмі энергічна адстойвае свае сімпатыі і гэтыя папярэднія замовіны працягваюцца некалькі гадзін.

Пасля заканчэння перагавораў «бацька» з «маткай» танцуюць «Крутуху» (гл. танцы). Затым «бацька» бярэ хлопца і выводзіць яго на сярэдзіну хаты. «Матка» пяе:

Цярэшка валочыцца —
Жаніцца не хочыцца,
Ходзіць, выглядаіць,
Каго ён спаймаіць.

Дзяўчаты адказваюць на гэта:

Цярэшка, Цярэшанька,
Цiраз бор дарожынька
Бітая, таптаная —
Я ў мамкі каханая.

«Матка» выбірае адну з дзяўчат і выводзіць да хлопца. Пры гэтым «матка» танцуе з дзяўчынай, а «бацька» — з хлопцам. Потым дзяўчына ўручаецца хлопцу са словамі: «Глядзіце ж, дзеткі, жывіце харашо, адзін аднаго шануйце, не крыўдзіце» і да т. п. Гэта «жаніцьба»: хлопец становіцца «дзедам», гэта значыць мужыком, а дзяўчына «бабай», г. зн. жонкай. Пратанцаваўшы «Крутуху», навежонцы садзяцца на лаўку, а «бацька» з «маткай» пачынаюць жаніць наступную пару і г. д., пакуль не пераженяць усіх. Тады першая пара выходзіць на сярэдзіну хаты, хлопец і дзяўчына становяцца адзін да аднаго тварам,

хлопец плячыма да дзвярэй, ■ дзяўчына да пярэдняй сцяны. За імі такім жа чынам становяцца і астатнія пары, дзяўчаты за дзяўчатамі, хлопцы за хлопцамі. Дзяўчына апошняй пары выходзіць з рада ў левы бок, хлопец апошняй пары пачынае яе лавіць, але выступае для гэтага з рада ў супрацьлеглы бок — правы. Да гэтай часткі гульні і адносіцца прыведзеная песня. Калі хлопец зловіць дзяўчыну, яны танцуюць «Крутуху» вакол тых, што стаяць у радзе, ■ потым дзяўчына пачынае лавіць хлопца. Песень, падобных да прыведзенай, шмат. Адна спяваецца, калі хлопец зловіць дзяўчыну, іншыя, калі дзяўчына ловіць хлопца:

дзяўчыне:

Ні ўцікай, дзедзя-лябедзя,
Нап'ёмся піва на 'бедзя,
Не ўцікай, дзядулічка —
Я ж твая бабулічка!

хлопцу:

На небі зорачка ясна,
У суседа дзяўчына красна.
Хуць жа ■ ў бяду ўпаду,
Суседа дзяўчыну ўкраду.

(Як бы ў пацвярджэнне паведамлення Нестара.)

Калі хлопец зловіць дзяўчыну і яны танцуюць «Крутуху», ім спяваюць:

Ты мой дзед, ты мой дзед,
А я твая бабка,
Шануй мяне, цалуй мяне,
Каб я была гладка!

Пацалаваўшыся, пара становіцца ў сярэдзіну рада, рассоўваючы першую пару. Пачынае ганяцца наступная крайняя пара і г. д. Калі ловяць адзін аднаго — танцуюць у такт песні і, акрамя таго, плешчуць пад такт жа ў далоні. Гульня канчаецца, калі пераловяцца ўсе пары. Тады вячэраюць і расходзяцца па дамах таксама парамі. Бывае гэта ўжо раніцай.

Мелодыя запісана з голаса Ганны Піліпенкавай Дзісенскага п. Віленскай губ.

*Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильна, 1910. Вып. 7. С. 41—42.*

## ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ

«Жаніцьба Цярэшкі» — гэта гульня-танец, сама па сабе нескладаная. Яна цікавіць дарослых маладых людзей галоўным чынам таму, што тут нязмушана выяўляюцца іх густы і ўзаемныя схільнасці. Парадак гульні такі. Спачатку наладжваецца ўскладчыну выпіўка і закуска, між іншым — для большай раскаванасці. Потым выбіраюць «сваццю» — дасужую ўдаву, салдатку або дзеўку якую багацейшую. Гэта тая ж «пані-матка» ўкраінскіх вечарніц. Яна ставіць удзельнікаў гульні ў два рады, з аднаго боку хлопцаў, з другога дзяўчат, і пачынаецца «сватанне». Бярэ аднаго з хлопцаў за руку і, выйшаўшы з ім на сярэдзіну, запявае асаблівы куплет, прытанцоўваючы ў такт напева:

Цярэшка валочыцца,
Бо жаніцца хочыцца:
Ен туды-сюды зірнець,
Гдзе мілу сваю падзець.
Валочыцца, выглядае,
Хто к яму любось мае.

Скрыпач пры гэтым наігрывае адпаведны напеў, а тыя, што стаяць па баках, плешчуць у далоні, і ў адказ дзяўчаты пяюць:

Цярэшка, Цярэшачка!
К маёй хаці сцежачка
Бітая, таптаная:
Я ў мамкі каханая.

Прайшоўшы разы тры-чатыры назад і ўперад, «сваццця» выхоплівае адну з дзяўчат і ўручае яе хлопцу. «Сваццця» пакуль што адходзіць у бок, а гэта пара пачынае скакаць пад спевы хора:

Цярэшка хадзіў, блукаў —
Ен жаны шукаў, шукаў,
Каб была прыгожая,
Хоць куды дык гожая.
Узяў сабе дзевачку,
Як тую пралесачку,
Тонкую, высокую,
Ліцом белаліцую.

Але тут дзяўчына, калі ёй «сасватаны» хлопец не падабаецца, лоўкім рухам выкручваецца ад яго і ўцякае ў рад сваіх сябро-

вак. «Муж» стараецца яе спаймаць, а дзяўчаты абараняюць. Пры гэтым спяваецца:

Цярэшку бяда стала:
З кім яго жана спала?
Пад дубам зялёненькім
З казачком малодзенькім.

Хлопец ні з чым адходзіць на сваё месца. Калі маладыя людзі адчуваюць да сябе некаторую схільнасць або не хочуць звяртаць на сябе ўвагу, то яны адыходзяць у бок і становяцца поруч, асобна ад тых, што яшчэ не «пажаніліся».

Тады «сваццinformatics» зноў выступае на сцэну і такім жа парадкам, як апісана вышэй, злучае новую пару. І так да таго часу, пакуль усіх не «перажаніць». Усё гэта перасыпаецца досціпамі, жартамі, прыгаворкамі як у адрас «свацці», так і па адрасу «маладых», калі ёсць да таго зачэпка, асабліва калі хлопец нязграбны і не сумее ўтрымаць дзяўчыну. Зубаскаляць больш хлопцы: дзяўчаты заняты спевам.

Калі ўсе «перажэнены», тады з двух супрацьлеглых бакоў выступаюць дзве пары і пачынаюць танцаваць, а астатнія пяюць:

Мая ж ты жанулечка,
Я ж твой мужулечка!
Мы ж будзем на свеце жыць,
Мы ж будзем дзяцей пладзіць,
Мы ж будзем гарэлку піць,
Мы ж будзем дзяцей жаніць
і інш.

У гэты час дзяўчаты зноў уцякаюць ад хлопцаў, а тыя іх ловяць, шукаюць. Калі так пратанцуюць усе пары, тая ж працэдура паўтараецца зноў, з тым толькі адрозненнем, што ўжо ўцякаюць хлопцы, а дзяўчаты іх шукаюць, прычым і куплеты адпаведна змяняюцца, якія, трэба сказаць, даволі шматлікія і, гледзячы па мясцовасці, вар'іруюцца на розныя лады.

Гэта гульня ў жаніцьбу служыць як бы прылюдыяй да маючаму адбыцца шлюбнаму сезону, і многія парачкі ў выніку сапраўды злучаюцца шлюбнымі повязямі. Але мы спыніліся на гэтай гульні таму, што ў ёй відавочна адбіліся перажыткі старажытных шлюбных адносін і звычаяў, што мелі, верагодна, сувязь з святкаваннем каляд, з культам таго боства, у гонар якога адбывалася святкаванне...

Дарослыя маладыя людзі, сабраўшыся асобна, спраўляюць «Жаніцьбу Цярэшкі». Гэта спецыяльная калядная гульня. Ін-

шыя гульні, як, напрыклад, «Яшчур» альбо «Яшчар», гульня ў «Бога і чорта», хоць наладжваюцца ў калядныя вечары, але не абавязкова: у тыя гульні гуляюць і ў іншы час і да таго ж гуляюць больш дзеці і падросткі; а ў «Жаніцьбу Цярэшкі» гуляюць выключна на Каляды і пры гэтым дарослыя хлопцы і дзяўчаты.

*Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнографический очерк. Гродно, 1895.*

### ЦЯРЭШКА

| | |
|---|---|
| «Бацька» — | Падабед Захар Яфімавіч |
| «Маці» — | Пыцько Валянціна Мікалаеўна |
| Гаспадыня — | Крыўко Любоў Тарасаўна |
| 1-я пара — | Вершалоўская Таццяна Іванаўна<br>Падабед Сяргей Восіпавіч |
| 2-я пара — | Падабед Валянціна Уладзіміраўна<br>Падабед Уладзімір Нікіпаравіч |
| 3-я пара — | Падабед Ганна Апанасаўна<br>Падабед Сяргей Сяргеевіч |
| 4-я пара — (моладзь) | Шамшур Таццяна Канстанцінаўна<br>Ганчаронак Уладзімір Мікалаевіч |
| 5-я пара — (моладзь) | Багдановіч Ірына Уладзіміраўна<br>Пыцько Уладзімір Міхайлавіч |
| Спявачкі: | Падабед Варвара Восіпаўна<br>Падабед Надзея Дзмітрыеўна<br>Падабед Надзея Сямёнаўна<br>Клундук Ганна Кірылаўна |

На скрыпцы іграў Анані Васільевіч Ганчаронак, 1906 г. н.,
на гармоніку — Леанід Мікалаевіч Шамшур.

Сабраўшыся ўсе разам, танцуюць польку. Потым хтосьці з жанчын кажа: «А ці не «пажаніць» нам «Цярэшку»?»

Усе згаджаюцца і выбіраюць «матку» і «бацьку». «Матка» вядзе ўсю гульню. «Бацька» толькі падпявае ёй і робіць усё, што яна скажа. Усе сядзяць на лаўках каля сцен, а «маці» і «бацька» ідуць па кругу і выбіраюць пару — спачатку хлопца, а потым дзяўчыну. Ідучы, «маці» пяе:

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзетак пажаніць,

Якую мне раду даці,
Які мне парадак даці.

Сяргейка — сынулечка,
Танячка — дачушачка,
А й роўная парачка,
Нам гарэлкі чарачка.

Пеючы, выводзяць у круг выбраную пару і «скручваюць» іх «Лявоніхай»: «маці» танцуе з хлопцам, «бацька» — з дзяўчынай, потым наадварот, канчаюць, танцуючы па парах,— «маладыя» сабе, «бацька» з «маткай» сабе. Калі танцуюць — «скручваюць» «Лявоніхай» — прыпяваюць:

Ай Лявон Лявоніху палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў,
Лявоніха была ласкавая,
Чаравічкамі паляскавала.

Пару, што «пажанілі», садзяць ужо разам і выбіраюць другую. Пяе «маці»:

Ай будзем мы піва варыць,
Будзем мы сыноў жаніць,
Будзем мы гарэлачку гнаць,
Будзем мы дачок аддаваць.
Валодзька — сынулечка,
Валячка — дачушачка,
А й роўная парачка,
Нам гарэлкі чарачка.

Зноў «скручваюць» «Лявоніхай», кожны раз «Лявоніху» танцуюць па-другому. Прыпяваюць:

А мой мілы дзевярусенька,
Вядзі мяне памалюсеньку,
Не вядзі мяне па пожаньцы,
Вядзі мяне па дарожаньцы.

Пасадзіўшы гэтую пару, ідуць па кругу, выбіраюць трэцюю:

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа нам дзяцей пажаніць,
Якую радачку браці,
Дзетачкам парадак даці.
Сяргейка — сынулечка,
Ганулька — дачушачка,
А й роўная парачка,
Нам гарэлкі чарачка.

Зноў танцуюць пад «Лявоніху»:

Ай, Лявоніха ня жонка была,
Нямытую рубашонку дала,
Нямытую, некачаную,—
У суседа пазычаную.

Выбіраецца 4-я пара. «Маці» пяе:

Ай, будзім мы піва варыць,
Будзім мы сыноў жаніць,
Будзім мы гарэлачку гнаць,
Будзім мы дачок аддаваць.
Валодзька — сынулечка,
Танечка — дачушачка,
Ай, роўная парачка,
Нам гарэлкі чарачка.

«Скручваючы» «Лявоніхай», пяюць:

Кацілася калясо з клеці,
А жывіці харашо, дзеці,
А жывіце, не сварыцеся,
У загрудкі не вадзіцеся.

5-я пара «жэніцца».
«Маці» пяе:

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа нам дзяцей пажаніць,
Якую мне раду браці,
Які мне парадак даці,
Валодзя — сынулечка,
Ірачка — дачушачка,
Ай, роўная парачка,
Нам гарэлкі чарачка.

«Лявоніха» да 5-ай пары:

Я ў матулькі адна дочка была,
Як вішанька ў садочку цвіла.
А я цвіла і нацвітавала,
Як козачка я й падбрыківала.

Калі «пажэняць» усе пары, то танцуюць «Лявоніху» ўсе разам: «маці» з «бацькам» у крузе, астатнія вакол іх. «Матка» перакручваецца па чарзе з кожным з танцуючых (хлопцаў) і з «бацькам», які застаецца ў цэнтры круга. Перакруціўшыся з усімі,

«маці» і «бацька» пераходзяць на «мосцік», пары становяцца за імі. Цяпер кожная «бабка» даганяе свайго «дзеда». Пачынаюць «бацька» з «маткай», якія стаяць першыя. «Бацька» ўцякае, абходзячы «мосцік» (або «ручаёк»), вяртаецца на сваё месца і праходзіць пад «мосцікам»; так як пары стаяць узяўшыся за рукі, значыць, пад іх рукамі, у самы канец. «Бабка», даганяючы «дзеда», пяе цярэшку. Калі паказвалі гэту гульню (у в. Велеўшчына), то спявалі не толькі «бабкі», а і жанчыны, якія ўдзелу ў гульні не прымалі, бо маладыя песень не ведалі.

«Маці» спявала:

♪ = 176 Адна Хор

1. Бо_ жа мой, га_ лоў_ ка ба_ ліць.
як жа мне дзе_ так па_ жа_ ніць,
я_ ку_ ю ра_ ду пра_ сіць,
як там па_ ра_ дак зра_біць.

Адна Хор

2. (і)Ва_ ліч_ ка - да_ чу_ шач_ ка,
Ко_ ліч_ ка - сы_ ну_ (у)_ ліч_ ка,
ай, роў_ на_ я па_ рач_ ка й,
ім га_ рэл_ кі ча_ рач_ ка.

♩=156 Адна

Ка- ці - ла-ся ка- ля- со з пе- [illegible],

лю- бі - ці -ся ха- ра- шо, дзе- ці.

Ня бі - ці - ся, не сва- ры- ці - ся,

у за-груд-кі не ва-дзі - ці - ся! І- іх, іх!

Цярэшка, святое дзела,
Далі мне старога дзеда,
Старога, сварлівага,
Такога журлівага.
А ні з ім у пір пайсці,
А ні з ім дома быці.
У пір пайсці — сварыціся,
Дома быць — пабіціся.

Цярэшка цярэх-цярэх,
Далі мне дзеда з арэх,
Ня ўмеець па хаце хадзіць,
Ня ўмеіць бабульку лавіць.
Хоць жа я й павалюся,
За дзедам паганюся.
Хоць жа я ножку зламлю,
Но свайго дзядульку злаўлю.

Пайду ■ кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
А мой ты Давыдзіла,
Я ж цябе не відзіла.
Каб цябе каршун задраў,
Як ты мне хвартух падраў.

Мой жа ты дзядулечка,
Я твая бабулечка,
Пасядзі на печы ў кутку,
Пакуль я красенцы вытку.
Вытку я красеначкі,

Пашыю кашулечку.
З чырвоным каўнерачкам,
Каб звалі жаўнерачкам.

Дзве апошнія пары былі маладыя, і ім песні пяялі жанчыны:

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзядульку злавіць.
Ой, здайся, дзядулька, здайся,
На чужых не заглідайся.
Што табе, дзядулька, стала,
Я яшчэ ні саўсім стара.

Хто гэту гару капаў,
Хто гэту сцягу таптаў,
Да Ірачкі ходзячы,
Падарачкі носячы?
Валодзька гару капаў,
Валодзька сцягу таптаў,
Да Ірачкі ходзячы,
Падарачкі носячы.

Пасля «мосціка», калі пройдуць усе пары, танцуюць польку і жанчыны ў час танца пяюць прыпеўкі.

Потым «бацька» з «маткай» жадаюць «дзецям» здароўя, весялосці і да т. п.

Усе ідуць за стол.

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 177, сш. 1, л. 59—69. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1980 г. у в. Велеўшчына Лепельскага р. Віцебскай вобл.*

## ЯК «ЖАНІЛІ ЦЯРЭШКУ»

На Каляды, на першы дзень, вечарам «жэняць Цярэшку». Моладзь і старыя людзі збіраюцца ў вялікую хату (з гаспадарамі было загадзя дамоўлена) і наладжваюць танцы. Хлопцы павінны паклапаціцца, каб былі музыканты. Вот так дуюць, розныя танцы танцуюць: спачатку польку, вальца, кракавяк, падыспанскі, мазурку, сюбар, «Лявоніху» (мала). Танцуюць да познага, а дарослыя сядзяць і глядзяць, як моладзь танцуе. Нарэшце старыя жанчыны крычаць: «Жаніце ж вы Цярэшку, ужо позна, нам дамой пара ісці. Жаніце Цярэшку!» Тут моладзь раіцца: «Хто за бацьку? Хто за маці?» Хто з старэйшых

дзецюкоў ці дзевак такі здатны, то кажуць (хто-небудзь): «Во, Мішу за бацьку, а Вольку за маці!» Ну добра, «бацька» і «маці» становяцца ў сярэдзіне. «Ну што, хлопцы, будзім Цярэшку жаніць! Пятрусь, якую табе «бабу» даць? Анюту? Анюта, табе Петруся за «дзеда» даём, згода?» Калі хлопец і дзяўчына сімпатызуюць адзін аднаму ці проста ў добрых адносінах (а «бацька» і «матка» ведаюць пра ўсіх), то яны не адмаўляюцца. Хлопца бярэ «маці», дзеўку — «бацька», ставяць адзін перад адным. Далей усіх разбіраюць па пары ад старэйшых узростам да самых маладых. Было і з другіх вёсак прыходзілі на «Цярэшку», але ўсё знаёмыя кругом, нічога асаблівага не рабілі з чужымі, але ўвагу праяўлялі, глядзелі, каб госць не застаўся без пары.

Ну, усіх падзялілі на пары, паставілі твар у твар (у дзве павернутыя да сябе шарэнгі).

Пачынаюць лавіць усе па парадку, «дзяды» ловяць «баб», потым усе «бабы» ловяць «дзядоў» сваіх. Як ловяць, то пяюць цярэшкі, а музыкі падыгрываюць. Як зловіць «дзед» «бабу» ці «баба» «дзеда», то музыкант урэжа «Лявоніху» і пара крыху патанцуе з прыпеўкамі, затым наступныя. Больш пялі дзяўчаты, бо не ўсе хлопцы ўмелі. Калі «баба» спявала, то іншыя маўчалі, не памагалі, трэба было кожнай праявіць сябе. А як доўга разбегаецца якая пара, то бывае і прытрымаюць якую ці якога, каб хутчэй палавіліся.

Пасля таго як ўсіх «перажанілі», пералавілі, тады зноў пачынаюцца агульныя танцы, першы танец — кожны «дзед» са сваёй «бабуляй». Праходзіць шмат часу, позна пачалі, пакуль усё адбывалася — пара ісці дамоў, адпачыць, сабрацца на другі вечар. На другі дзень Каляд (днём) збіраюцца ўсе «пажэненыя» і ўсе, хто мае час і ахвоту паглядзець «Цярэшку», зноў у тую хату, дзе былі ўчора. Дзеўкі нясуць закуску: варанае мяса, печаныя кілбасы, капусту, яблыкі, бліны, хлеб, «сухаркі» (пячэнне), хлопцы — паўлітэркі. «Дзед» з «бабай» садзіліся поруч, прынесенае ставілі перад сабой. частаваліся ўзаемна і частавалі суседзяў. «Бабка» выклікала каго-небудзь з радні «дзеда» — «свякроў», «залвіцу», ці «ятроўку» — частавалі чаркай старых і малых гледачоў. Набіралася поўная хата, моладзь за сталом была прыбраная, былі жарты, размовы. «Бацька», як сядуць за сталом, бласлаўляў, імправізаваў прамову з добрымі пажаданнямі ўсім. У канцы застолля, як насядзяцца ўволю, музыкант іграў марш. Гэта быў сігнал вылазіць з-за стала, пачынаць танцы. «Дзед» запрашаў сваю «бабу» на першую польку, потым танцаваў з усімі дзяўчатамі. Ніякіх абавязкаў узаемных «дзед» з «бабай» не мелі, «пажанілі Цярэшку» і ра-

зышліся. «Дзед» не абавязаны быў праводзіць «бабу» дадому, праводзіліся толькі тыя, што любіліся.

Бацькі ніколі не ўмешваліся ў «Цярэшку», не забаранялі «жаніць Цярэшку», наадварот, нават загадвалі гэта рабіць, бо ўсім было цікава паглядзець гэту гульню. Нічога благога на «Цярэшцы» не памятаю, не здаралася, усё мірна пачыналася і канчалася. Калі хлопцу ці дзеўцы не падабалася «пара», то «бацька» з «маткай» настойвалі, угаворвалі. Казалі: «Ну што ты, што табе карона з галавы зваліцца, калі пасядзіш вечар за сталом з гэтым хлапцом, нядобра, калі ён застанецца адзін, без пары за стол не сядзеш». Звычайна ўсе згаджаліся з развагамі «бацькоў» і размеркаванне пар хоць і клапатліва ішло, але завяршалася спакойна, урэшце ўсе былі арганізаваны і размеркаваны.

*Зап. Л. М. Салавей у 1987 г. у в. Тумілавічы Докшыцкага р. Віцебскай вобл. ад М. М. Карніловіча, 1924 г. н., родам з в. Стараселле гэтага ж раёна. «Цярэшку жаніў» не адзін раз, 3 разы быў у «Цярэшцы» «бацькам».*

## ЯК «ЖАНІЛІ ЦЯРЭШКУ»

На Калёды, вечарам звычайна, як усе справяцца з доглядам жывёлы, усе збіраюцца ў якую хату, уся маладзёж, і старушкі, і старыкі «жаніць Цярэшку». Што маладзёж не ведае — старыкі падказвалі. Гэта на першы дзень Каляд, а болей на другі.

Выбіраюць «бацькоў» — «бацьку» і «матку». У «маткі» выбіраць звычайна жанчын такіх болей вясёлых, болей такіх спрытных, якія болей і песень ведаюць, болей ведаюць, як парадак весці, дастойных. «Бацькоў» падбіралі сярод жанатых і не надта маладых, нават і ўнукаў ужо маглі мець — з жанатых сталых выбіраюць. Як назавуць, дапусцім: «Вот ты, Пятровіч, будзеш «бацькам», а ты, Сцяпанаўна, будзеш «маткай» — тады яны паміж сабой «пажэняцца», самі з сабой кружацца. А кружыліся яны пад музыку і пад песні. Бывала, што і самі

спявалі, бывала, што ім спявалі такія старэйшыя жанчыны, што тут былі, каторыя такія старушкі. Старыя бабы па лаўках сядзелі, а маладзёж стаяла. «Бацька» і «матка» перакручваліся, узяўшыся намітусь, пад ручку, не за руку, не ладошка ў ладошку, ■ іменна пад паху.

— А пад якую музыку яны кружыліся?

Маці інфарматаркі тлумачыць: «Музыка іграе «Цярэшку», і пад гэту песню яны і перакручваліся. Іменна музыка «Цярэшкі», свая асаблівая музыка».

«Бацькі» апытвалі хлопцаў і дзяўчат, з кім хацелі б быць у пары. Тады «бацькі» падыходзяць да хлопца і кажуць, якую дзяўчыну браць. Хлопец ідзе, бярэ сваю дзяўчыну, і яны танцуюць — кружацца кругам. Вот яны ўжо «пажэненыя». Тады іх ставілі проста ў рад. Спачатку стаяць абы-як, а пасля, як «пажэняцца», становяцца ў рад, мальцы ў адзін рад, а дзеўкі ў другі, і тады мальцы ловяць дзевак. Дзеўкі (пачынаючы з першай, што стаіць у радзе) уцякаюць, хаваюцца за сваіх, за плечы тых, што стаяць у радзе, а мальцы ловяць сваіх дзевак. Як малец зловіць сваю дзеўку, то становяцца парай адзін супраць другога ў канцы радоў, за імі наступная пара ловіцца. Некаторая пара скоранька паловіцца, а некаторая дзеўка туляецца доўга. Як усе пераловяцца, тады дзеўкі ловяць мальцаў у другую вочарадзь. Зноў так паўтараецца, дзеўка першай пары ловіць свайго мальца, як зловіць, становіцца ў канцы радоў, наступная пара — за імі, і так, пакуль усе не пераловяцца і зноў стануць, як стаялі першапачаткова. Абязацельна кожная пара, хто каго злавіў, перакручваецца пад «Цярэшку». Апяць пад «Цярэшку». «Цярэшка»-музыка не змаўкае на працягу ўсёй лоўлі, усёй гэтай працэсіі.

— А не было так, каб перакручваліся пад «Лявоніху»?

— Пад «Лявоніху» — гэта потым. «Лявоніха» гэта потым, «Цярэшка» — гэта спецыяльна і пад яе перакручваліся.

Іграў Анін бацька, Лісоўскі. Ён на йскрыпку іграў, а за ім на цымбалах іграў дзевер мой. А потым быў гармонік. Але ўсе музыкі памёрлі, нікога нету. Гармонік іграў са скрыпкай, а з цымбаламі не, не было.

Маці заўважае: «Дуда іграла не на «Цярэшку», а так паіграіць дзе-небудзь у хаце, дзе дудар начуіць. Сабяруцца хлопцы і дзеўкі, папросяць яго, заплоцяць, каб ён паіграў. Ён паіграіць, падудзіць на дудзе. Гэта пры маім каралі было».

Дачка: «А пры маім каралі ўжо не. У Варонічах быў дудар — сляпы Макар, баба вадзіла. Дудак наторкаіць, з цялёнка скура была такая пашытая, мех такі. Ён тады наторкаіць

дудак гэтых і тады ў вадну дуець, а там тады пішчыць, іграіць там».

Як хлопцы даганялі дзяўчат — спявалі розныя песні, як дзеўкі даганялі хлопцаў — таксама спявалі прыпеўкі, ну вот такія:

Цярэшка каху, каху,
Што ў цябе ў мяху, у мяху?
Шпілечкі... (далей забылася)

— А што гэта былі за карагоды?

— Я ўжо не вадзіла карагодаў. Мы (толькі) «жанілі Цярэшку», а потым садзіліся за стол, частаваліся. Прынасілі розныя закускі — кілбасы, гарэлку, агуркі, капусту і іншую ежу, садзіліся за стол парамі, спявалі. «Бацька» з «маткай» за сталом прамаўлялі, навучалі дзяцей, як жыць, як варыць, як парыць каб «жонкі» паважалі «мужыкоў», а «мужыкі» «жонак». Кожнай пары выказвалі розныя пажаданні.

Бывала і такое, што «пажэненыя» ў «Цярэшцы» жаніліся па-сапраўднаму, выхадзілі замуж пасля «Цярэшкі», бо выбіралі ў «Цярэшцы» таго, хто да каго душой прыцягваецца. Каторы каго не любіць, таго ж не «жанілі». Дапусцім, скажуць хлопцу, бяры тую дзяўчыну або тую. «Не,— скажа,— не буду, я буду браць іншую». Было многа такога, і потым свадзьбы гулялі. «Пажэненыя» дружылі, а колькі, бог іх ведае, у кожнага па-свойму.

Пасядзеўшы за сталом, выходзілі і танцавалі, любыя танцы танцавалі: вальсы, «Ва саду лі», падыспань, «Месяц», кракавяк, ну, усялякія танцы. А кадрылю не гулялі. А вот вальсы гулялі 12 каленамі. Цікава адбывалася, і дзяўчаты хлопцаў даганялі, хлопцы платкі кідалі, усё ня помню, але сама танцавала 12 кален. Вальсы былі такія доўгія.

— Хто спявае цярэшкі?

— Спявае маці і дзяўчаты абычна. Хлопцы мала спяваюць.

Цярэшка, цярэжыла,
На печы не ўлежыла,
Цярэшка каху, каху,
Што ў цябе ў мяху, у мяху?
— (Й) шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі.

*Зап. І. Дз. Назіна ў 1989 г. у в. ВароНічы Полацкага р. Віцебскай вобл. ад Я. П. Літвінавай, 1939 г. н.*

## ЯК «ЖАНІЛІ ЦЯРЭШКУ»

У нас «Цярэшку жанілі» скрозь па нашых вёсках. У Ветрынскім раёне надта «Цярэшка» была ў модзе. Сабіраюцца на танцы, танцуюць — гэта на першы дзень Каляд, потым выбіраюць «бацьку» і «матку», падбіраюць пары. Злучаныя дзяўчына з хлопцам перакручваліся пад «Лявоніху», станавіліся ў рады; адзін рад хлопцаў, другі рад дзевак. Як «перажэняць» усіх, тады кожная пара, пачынаючы з першай, ловіцца. Спачатку дзяўчына ўцякае, а хлопец даганяе, ■ потым наадварот. Як злучаюць пары, тады музыкі іграюць, і гармонік і скрыпачка. Пад музыку перакручваліся. А песні спявалі, калі ловяцца, дзевачка пяець свайму кавалеру, калі ловіць яго, жанчыны ёй не памагалі, яна сама спявала, а музыка ёй падыгрывала, песенькі цярэшкавыя, якія можна лічыць прыпеўкамі, бо дзяўчына да свайго «дзеда» прыпяваіць.

Ай, бяда мая, бяда,
Далі мне старога дзяда,
А ні з ім у пір пайсці,
А ні з ім дома быці,
Дома быць — сварыціся,
У пір пайсці — пабіціся.

Хлопец слухаіць, як да яго прыпяваіць дзеўка, яна выказваецца, ці задаволена ім, ці не. «Маці», калі падбірае пары дзяўчатам, спявае:

І пайду я ў новы ток,
Найду я курэй куток,
Курачкі заводныя —
Пітушка ніводнага.
Дайце мне рэшата пер'я,
Куплю вам пітушка-пеўня,
Дайце мне яец з паўмяшка,
Куплю вам пітушка, пітушка.

Калі злопец зловіць дзяўчыну, вядзе яе ў рад стаўляць, пяюць:

Цярэшка, Цярэжыла,
На печы не ўлежыла.
Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець:
А мой жа дзядулечка,
Я ж твая бабулечка,
Каб цябе пярун забіў,
Як ты мяне з печы зсадзіў.

У «Цярэшцы» ўдзельнічалі маладыя дзевачкі і хлопцы. Некаторыя з «Цярэшкі» і жаніліся. Калі «жэняць» у «Цярэшцы», то дзевачкі і хлопцы хочуць, каб «шлюб» ім далі па іх выбару, па любві. «Маці» і «бацька» стараліся, прыспасабліваліся, каб усіх добра «пажаніць», каб усім было весела і добра. Як пад «Лявоніху» перакруцяцца, то станавіліся «дзедам» і «бабай», «дзед» «бабу» пацалуе.

За сталом сядзяць усе, а «бацька» з «маткай» глядзяць за парадкам, выказваюць розныя пажаданні. Песні застольныя спявалі:

Ай чуць, мамка, чуць,
Дзе малойчыкі п'юць,
Ай, вясёла тая вулачка,
Дзе яны ідуць...

Або:

Калі майго церама,
Калі майго церама
Бітая дарожачка,
Таптаная сцежачка.

Туды ішлі малойцы,
Туды ішлі малойцы
Ў вусельк і іграючы,
Песенькі спяваючы.

*Зап. І. Дз. Назіна ў 1989 г. у г. п. Ветрына Полацкага р. Віцебскай вобл. ад Н. С. Дарашкевіч, 1916 г. н.*

### ЯК «ЖАНІЛІ ЦЯРЭШКУ»

«Цярэшка» была на Каляды. 7 студзеня Каляды, на першы дзень, свята было ў людзей, а на другі дзень ужо моладзь «жаніла Цярэшку». Збіраліся ў адну хату, загадзя дагаварваліся, дзе пабольшы быў дом. Маткі дочкам збіралі нешта там у міску на закуску і неслі самі ў тую хату, а моладзь ішла так, гуляючы.

Пачыналася з танцаў, патанцуюць, потым выбіраюць «матку» і «бацьку» ўжо для таго, каб «ажаніць Цярэшку». Загадзя невядома было, хто будзе «бацькам» і «маткай». Зналі, хто такі ўжо арганізатар, хто меў падыход да людзей, хто мог правільна злучыць пары. «Бацьку» і «матку» выбіралі з моладзі, тады ж была моладзь не 17 гадоў, і 25—30 гадоў некаторыя мелі

Выбіралі і з жанатых. Не абавязкова выбіралі аднаго і таго ж. А вот была ў нас дзяўчына такая, баявая яна, магла арганізаваць, то ўсё яе выбіралі «маткай». Выбіралі «бацькам» і жанатых, з маладых сямей.

А ў асноўным выбіралі гадоў па 25—30 і дзевак і хлапцоў, яны ў асноўным вялі гэта...

— Колькі людзей магло ўдзельнічаць у «Цярэшцы»?

— Ой многа! Колькі было моладзі, столькі і ўдзельнічалі. Падбіралі ж такі дом, каб усім хапіла месца. Каторыя не хацелі «жаніць Цярэшку», тыя пабудуць на танцах і ідуць дамоў, каму што не падабаецца. Дапусцім, можа ейнага кавалера там няма, яна не хоча «жаніць Цярэшку» абы з кім. Каму пары не хваціла, той жа ня «жэніць Цярэшку». Рассчытываюць, знаяць, хто з кім «пажэніцца» ў асноўным. Бываець, што назло зробяць, злучаць не з тым, на каго рассчытываеш. Сядзіш ужо скучны, ужо настрою няма, ня той жа папаўся, з кім хацелася б.

— Хто першую песню спяваець пра «Цярэшку»? Што гавораць «бацька» і «матка», як выйдуць на хату?

— Ну, гэта ж неарганізавана ўсё. Вот «бацька» і «матка» выйшлі, тады кажуць: «Патанцавалі, дзеткі, цяпер давайце будзім «Цярэшку жаніць». Калі нас выбралі «бацькам» і «маткай», вы нам ужо, калі ласка, падчыняйцеся».

Запяваюць жанчыны і моладзь, хто ўмеець, той і пяець цярэшкі:

Цярэшка чаху, чаху...

«Бацькі» бяруць хлопца і дзяўчыну, зводзяць разам, музыка іграець «Цярэшку». Як толькі пачынаюць звадзіць пары, дык музыкант іграіць «Цярэшку».

Музыкант быў сам удзельнікам «Цярэшкі», сярод моладзі было многа музыкантаў. Яны ігралі для сваёй моладзі бясплатна.

— Хто першы пачынаў спяваць?

Трудна сказаць, і «матка» бываець запяець, але найболей жанчыны, а падхоплівалі, хто ўмеў. Але ж моладзь, жанчыны піялі. Прыходзілі ўсе мамы «з місачкамі», яшчэ ж маладыя, сядзяць на лавах у хаце, чакаюць «Цярэшку», ну і пяюць тады.

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі.
Шпілечкі ўшпіліцеся,
Іголкі рубашкі шыць,
Пярсцёнкі вянчаціся...

Божа ж мой, вяліка бяда —
Далі мне старога дзяда!
А што ж я рабіць буду,
Каго я любіць буду?

Вот такія, «з пад'ездам» песні маглі заспяваць. Калі дзяўчына не надта знаіць, што спяваць, ёй памогуць жанчыны, знойдуць, што падпяяць. Як на звычайным вяселлі жанчыны спявалі «на хаце», не з гасцей, што за сталом, так і на «Цярэшцы».

Такога персанажа Цярэшка не было, былі «бацька» і «маці». «Дзядулька» — хлопец — гэта не Цярэшка. Ці спяваў хлапец? Хто мог, той спяваў, хто ня мог, той прамаўчаў.

— Цярэшкі — гэта песні ці прыпеўкі?

— Гэта прыпеўкі, бо яны ж куплетамі ідуць. Але ёсць і доўгія песні, у асноўным куплетамі ідуць адно за адным.

Цярэшка цярэшыцца,
Баба дзедам цешыцца:
А мой ты дзядулечка,
Я ж твая бабулечка!

Гэта пяюць, калі ладная пара падбіраецца. Кожнай пары пялі розныя прыпеўкі, адно і тое ж не пялі, але маглі і не праспяваць зусім.

Злучоныя ў пару дзяцюк і дзеўка перакручваліся пад «Лявоніху» ці пад польку, любы танец можа быць, і пад «Цярэшку» таксама.

Калі «жэняць» пары, музыка іграе «Цярэшку», як злучаць разам, тады іграюць польку ці вальца.

У гэтай мясцовасці інфарматар не назірала, каб лавілі потым дзяўчаты хлопцаў і наадварот. «Пераженыя» садзіліся за стол, пасля стала — танцы. Кожная пара танцавала разам увесь вечар. Танцавалі польку, кракавяк, падыспань, вальс, мазурку, «Зялёную рошчу». Танцавалі толькі парныя танцы, «Барыню» не танцавалі, толькі дзе пры выпіўцы хто адзін выскачыць.

*Зап. Л. М. Салавей і І. Дз. Назіна ў 1988 г. у в. Радзюкі Шаркаўшчынскага р. Віцебскай вобл. ад Л. І. Шпак, 1928 г. н.*

**НА ПЕРШЫ ДЗЕНЬ КАЛЯД**

У в. Скураты на першы дзень Каляд «жанілі Цярэшку», кожны год «жанілі». Выбіралі «бацькоў» так: які-небудзь хлопец браў з грамады дзеўку («маці»), якая-небудзь

дзеўка брала хлопца («бацьку»), ішлі ў танец, пратанцаваўшы трохі, «бацькоў» злучалі, тут музыкант «Лявоніху» іграў, «бацькі» перакручваліся пад «Лявоніху», ім прыхлопвалі ў далоні. Тады ўжо «бацькі» бяруцца «жаніць» «дзяцей».

«Маці» падыходзіла да хлопца, гаварыла: «Сыночак, ты ўжо плачаш, жаніцца хочаш, будзем цябе жаніць». А «бацька» так дзяўчыну бярэць. «Дзяцей» злучаюць, яны перакручваюцца, узяўшыся пад руку намітусь, пад «Лявоніху» і становяцца тварам да сябе за «бацькамі». «Маці» ідзе кругом «перажэненых», што стаяць у дзвюх шарэнгах тварам адна да другой і пяець:

♪ = 200

1. Пад- печ- чы ку- ры са- ко- чуць,
на- шы маль- цы жа- ніц- ца хо- чуць.
2. Маль- чы- кі, жа- ні- ці- ся,
за дзе- вак бя- ры- ці- ся.
3. Вы, дзеў- кі, гу- ляй- це ця- пер,
як не- ту ма- лень- кіх дзя- цей!

Цярэшка-Цярэшачка,
Цiраз бор дарожачка
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.

Гэта ўсё «маці» пяець. А тады «маці» памагае ўжо лавіць, «матка» павінна памагаць дзеўкам піяць, а «бацька» — хлопцам. Спачатку дзеўка ўцякае, хлопец ловіць, тады хлопец уцякае — дзеўка ловіць.

Калі дзяўчына любіць мальца, тады, ловячы, пяець:

♪=200

1.Бя- гу я й ка- лі са- ду,

вы- лам- лю я й ві- на- гра- ду,

ві- на- град са- ло- дзінь- кі,

мой дзе- дзь-ка ма- ло- дзінь- кі.

2.Ой, здай- ся, мой дзедзь- ка, здай- ся,

на дру- гіх ні спа- дзі- вай- ся,

дру- гі- я ня леп- шы- я,

гор- шы- я, пуш- чэй- шы- я.

3.Мой дзедзь- ка кам- куць і кам- куць,

ня ўме- іць нож- кай тап- нуць і тап- нуць,

ня ўме- іць ско- ра ха- дзі- ці,

ня ўме- іць ба- буль- ку ла- ві- ці.

А тады будзіць малец адпяваць:

♪ = 200

І.Па_ іў я ко_ ні_ ка ў вяд_ рэ,

ві_ дзіў я дзяў_ чын_ ку ў вак_ не.

2.Каб я ко_ ні_ ка ня меў,

я б жэ ту дзяў_ чын_ ку жа_ леў.

3.Я б ляш_ чын_ нік ла_ міў, ла_ міў,

ба_ ба_нь(і)_ку ла_ віў, ла_ віў.

4.Ляш_ чын_ нік ня ло_ міц_ ца,

ба_ бу_ль(і)_ка ня ло_ віц_ ца!

Як дзяўчыне незнаёмага дадуць «дзеда», яна можа заспяваць:

♪ = 208

І.Ма_ ю я 'т бо_ га на_ дзе_ ю,

што пры_ дзіць мі_ лы ў ня_ дзе_ лю,




Гэта за дзяўчыну бабы піялі. А хлапец:

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець:
— А мой жа дзядулечка,
Я ж твая бабулечка.

Дзед бабу вяроўкай сячэць,
Чаму ж іна бліноў ні пячэць.
— Ай, дзедзька, ня хочацця,
Ля печы варочацца.

Гэтыя песні пяюць пад музыку, як яны стаяць і пяюць... Упярод ходзім, пяём. А тады ўжо ловяць, упярод «бабульку» ловіць «дзед». Перш «бабу» лавіць трэба, уцякаюць кругом, як уловіць, тады ўжо і падыграюць, і пацалавацца нада. Як зловіць, тады вясёлую польку падыграюць.

— Песня ці прыпеўка цярэшка?

— Цярэшкі — гэта такія прыпеўкі, песні там такой няма; каб такая дліная, то нету, гэта больш хадзіць і піяць...

Піялі цярэшкі ходзячы, не прытанцоўваючы, спачатку пеючы хадзілі кругом моладзі, а каб злавіць беглі бягом, не пеючы.

Дзяўчына ўцякаіць, як зловіць «дзед» — музыка зайграіць, другія выходзяць лавіцца. Як усе пераловяцца, тады ўжо польку сыграюць, патанцуюць і за стол садзяцца.

«Лявоніха» злучальная, як «бацькоў» злучаюць, «Лявоніху» іграюць, як «дзяцей» — таксама «Лявоніху». «Лявоніха» выконвалася без слоў, толькі музыка.

Кожнай пары спявалася сваё. Вот, калі яна яго не любіць:

♪ = 212

Мой дзедзь_ ка ні_ ўда_ лі_ ца,
дзе ня йдзець—па_ ва_ ліц_ ца,
зда_ ец_ ца і гро_ м(ы) ня быў,
май_ го дзе_ да пя_ рун аг_ лу_ шыў.

Гэта было, дзеўка падпяяла — глухаваты быў «дзед». Дык цэлы год ёй танцаваць не давалі.

А калі ён быў малы, спявалі:

Ой, божа, вяліка біда,
Далі мне малога дзіда.
Малы дзед, ня топ нагой,
Не лягу я спаць з табой!

А проста так хлопцу:

Пайду я кароўку даіць,
А за мной дзедзька бяжыць.
Пастаўлю даёначку,
Пайду я ў каморачку,
Прадай, дзедзька, каровачку,
Купі мне шнуровачку!

Пастой, мой дзедзька, ў кутку, ў кутку,
Пакуль я красёнцы вытку, вытку.
Выткаўшы бяліць буду,
Пабяліўшы шыць буду.

Як дзеўка была хварсістая:

Знімлю я рутачку з акна,
Дайце мне дзядульку як я,

Хоць росту ніжэйшага,
Гонару пышнейшага.

Маю я ў бога надзею,
Што прыдзіць мілы ў нядзелю,
Ня ў гэту, дык ў тую,
Я ж яму абед гатую.
Смачная рыбачка акунь,
Скажы, мой дзядулечка, адкуль?
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз.

Тры вечары «жанілі Цярэшку»: на першы дзень Каляд «жэняць», на другі — толькі сядзелі за сталом, а на трэці — толькі танцавалі, прыпяваючы. Былі прыпеўкі да агульнайholькі:

♩=134

А хто по_ ліч_ ку тан_ цу_ ет,
тот па_ след_ ню_ ю ка_ роў_ ку
ні_ ба_ га_ та тот жы_ вёт,
на ба_ цін_ кі пра_ да_ ёт.

*Зап. Л. М. Салавей і І. Дз. Назіна ў 1988 г. у в. Скураты Шаркоўшчынскага р. Віцебскай вобл. ад А. А. Падабыцька, 1922 г. н.*

## ЦЯРЭШКА

«Цярэшка» быў на першы дзень Каляд. У вялікай хаце збіралася моладзь, выбіралі «бацьку» і «матку». Тыя пачыналі злучаць пары. Іншы раз «бацькі» бралі яшчэ сабе і памочнікаў. Цяжка было дабраць пары, было і так, што хлопцу не давалі тую дзеўку, на якую ён спадзяваўся, прасіў «бацькоў», тады ён пакідаў гульню. Калі незадаволеных было шмат, узнікалі нават бойкі, гульня раскідалася. Таму было складана размеркаваць пары. Цэлы вечар на першы дзень Каляд ішоў на злучэнне пар, потым, патанцаваўшы, усе разыходзіліся па дамах. А назаўтра зносілі гарэлку, закуску, расстаўлялі сталы, садзі-

ліся па парах. «Бацька» з «маткай» глядзелі за парадкам, было застолле і песні розныя піялі. Цэлы дзень за сталом сядзелі, цярэшак не піялі. Піялі, калі старасвецкі народ быў, мы ўжо гулялі далікатней.

Як злучалі пары? «Бацька» і «матка» бралі «дзяцей» («маці» — хлопца, «бацька» — дзеўку), музыкант іграў польку, «дзяцей» звялі, «маладыя» пратанцавалі троху, разы два пераверцяцца (пад «Лявоніху»), потым садзяцца разам, як няма дзе сесці, разам стаяць. Не лавілі ні дзяўчаты хлопцаў, ні хлопцы дзяўчат, не піялі, гэта было пры мамінай маладосці.

*Зап. Л. М. Салавей і І. Дз. Назіна ў 1988 г. у в. Радзюкі Шаркоўшчынскага р. Віцебскай вобл. ад Н. З. Табола, 1913 г. н.*

## ЯК «ЖАНІЛІ ЦЯРЭШКУ»

На Каляды збіраецца маладзёж, мальцы нясуць водку, дзеўкі — закуску. Загадзя ў іх выбрана «матка» і «бацька». Некаторыя просяць цішком, каб «пажанілі» з тым ці тым, а некаторых з чужых вёсак «бацькі» самі «жанілі», знаходзілі ім пару. На «Цярэшку» прыязджала моладзь з навакольных вёсак: з Ляскова, з Германавіч, падбіралі вялікі дом, зносілі сталы — вот «Цярэшка» такая. «Бацькі» бралі за рукі маладых, абводзілі кругом, злучалі іх рукі. У гэты час іграе музыкант цярэшкаўскую мелодыю:

Цярэшка каху-каху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі.
Іголачкай шыць будзем,
Шпілечкай — ўшпіліціся,
Шпілечкай — ўшпіліціся,
Пярсцёнкам — вянчаціся.

«Маладуха» пяе свайму «маладому»:

А мой жа дзядулечка,
Я ж твая бабулечка,
А мы ж з табой жыць будзем,
Мы ж з табой гуляць будзем.

«Маладыя» пакружацца, і вот яны «пажэненыя»: гарманіст іграў,як іх па хаце вядуць, зводзяць. Яны, злучаныя, перакручваліся пад «Цярэшку». Піялі пры гэтым усе, хто ўмеў, і «бацька» з «маткай», і дзяўчаты.

Му́зыка — найболей гармонік быў, а было і скрыпка падыгрывала, былі і цымбалы.

За сталом піялі ўсялякія песні. Вып'юць, закусяць, тады ўжо танцавалі ўсялякія танцы: «Каробачку», «Дзіпо» (самі з сабой дзеўкі), «Месіц», кадрылю (цётка вучыла, многа штрафоў, пры мне не танцавалі ўжо), «Нарэчаньку»:

Выйду, выйду [redacted] на рэчаньку,
Выйду, выйду я на быструю,
Ці не выйдзе мой міленькі,
Я масточак выстраю.

*Зап. Л. М. Салавей і І. Дз. Назіна ў 1988 г. у в. Цярэшкі Шаркоўшчынскага р. Віцебскай вобл. ад М. С. Атрахімовіч, 1919 г. н.*

## ЦЯРЭШКА

Сабіраіцца вечарынка. Вот танцуім мы, танцуім. Тады гавораць: «Будзім жаніць Цярэшку». Выбіраім «матку» і «бацьку». Як толькі «матка» падходзіць к дзеўке, а «бацька» к хлопцу, музыкант іграіць «Цярэшку». Іграіць усё ўрэмя, іграіць і іграіць. «Матка» пытаіць дзеўку: «Ці будзіш ты вот з такім і з такім мальцам «жаніць»? А «бацька» падходзіць к хлопцу гэтаму і гаворыць: «Ці будзіш ты з такой дзеўкай «жаніць»? Ён гаворыць: «Буду». А бываіць, што дзеўка ўпіраіцца, ня хочыць з гэтым мальцам «жаніць». Тады «бацька» падходзіць зноў і гаворыць: «Ня хочыць яна з табой «жаніць». Давай другую выбірай». Ну, выбіраіць другую. Як толькі падабралася пара — малец і з дзеўкай — музыкант іграіць тады. «Матка» вядзець дзеўку за руку, «бацька» — мальца. Вывелі іх на круг і «Лявоніхай» перакручваюць і крычаць: «Задудзіў, задудзіў, задудзіў!». Малец і дзеўка, узяўшыся падпашкі, падмышку, перакруцяцца ў адзін бок, у другі бок і садзяцца ўместа. «Матка» і «бацька» падходзяць к другім. Састаўляюцца пары. Калі ўсе пакруцяцца гэтак, становяцца ў радочкі: малец з адной стараны, дзяўчына з другой, напроціў адзін аднаго і начынаюць лавіцца. Ловяцца і спяваюць. Музукант «Цярэшку» іграіць, а мы пяём і ловімся. Упярод «бацька» з «маткай» — ловіць

«матка» «бацьку» і спяваюць. Тады я злавіла яго — іду ўзад станавіцца. Гэта ловіцца, злавілася і за мной становіцца. І так, пакуль усе не пераловяцца. А потым дагаварываюцца, кагда будзім збірацца піць гарэлку. Бываіць, што з вечарынкі адразу збіраімся, а то назаўтра. Дагаворацца, у колькі часоў, садзяцца за стол, частуюцца, пяюць песні ўсялякія, крычаць «горка!», а «бацька» з «маткай» цалуюцца.

Калі музукант заморыцца іграць, спяваем частушкі. Па кругу ходзяць дзеўкі, карагод такі пяём. Ідзём і пяём.

*Зап. І. Дз. Назіна ў 1989 г. у в. Мураўшчына Полацкага р. Віцебскай вобл. ад В. М. Каўнуркі, 1928 г. н.*

## РАЗМОВА ПРА «ЖАНІЦЬБУ ЦЯРЭШКІ»

Р. С. Гамзовіч, карэспандэнт беларускага радыё: «Антаніна Раманаўна, ці праўда, што ў вас і зараз яшчэ на Каляды спраўляюць «Цярэшку»?»

А. Р. Сцежкіна, жыхарка в. Турэц Полацкага р.: «Праўда, спраўляюць. І сейчас, і раньшы была «Цярэшка». Я была «маткай», давалі мне старыкоў, мы «жанілі» па 40 пар і тады лавіліся, спявалі і садзіліся за стол. З дванаццаці начы пачыналі і да сямі часоў гулялі. Гулялі сёмага января. І сейчас празнуюць, і сейчас «Цярэшка» ёсць. Ну, канешне, ужо ні так спраўляіць маладзёж. Ёсць і па 20, і па 30 пар, маладыя прыязджаюць з Наваполацка, з Полацка і спраўляюць «Цярэшку» тут. Выбяруць за «матку» каго-небудзь і ловяцца...»

Гамзовіч: «Давайце ўспомнім усё па парадачку, як спраўляюць «Жаніцьбу Цярэшкі».

Сцежкіна: «Ну вот, з утра дажа гавораць: будзіць «Цярэшка». Сабіраецца маладзёж, прыходзяць да мяне хлопцы, дзяўчата, просяць: нам нада «матка», пабудзь нам за «матку», нам нада «бацька». Ну, мы тады і саглашаімся, тады пойдзім і «пажэнім» іх. «Пажэнім», а после ловімся, пяём. А после будуць дзяўчаты ладзіць закуску, а мальчыкі водку. Ну дык я ім ужо гавару: «Глядзіце ж, мае сыночкі, вы ж насячыце дроўцаў, каб былі і ні сырыя, і ні сухія. А вы, дачушкі, ладзьце закуску, каб ні сырая была, каб і ні спалілі». От яны так і дзелаюць. Пойдуць усе, прынясуць хто бутэльку, хто закуску, тады садзімся за стол, спяваем, танцуем і ўсё. Вот так у нас «Цярэшка» бываіць усягда. Дванаццаць гадоў я была «маткай», а зараз голас прапаў, ні магу спяваць».

Гамзовіч: «Дык вы проста раскажыце. Выбралі «матку», «бацьку», а што далей?»

Сцежкіна: «Бацька» з «маткай» ловяцца ўсягда першымі. Тады я спяваю яму, свайму «дзеду»:

Ні бяжы, дзядулька, бяжком,
Запала сцежачка сняжком.
А ■ сняжку ні пабаюся
Ды за дзядулькам паганюся.

Вот ён уцякаіць, а ■ яго лаўлю. Ну, і паймаю».

Гамзовіч: «Ажно на вуліцу ўцякаеце?»

Сцежкіна: «Не, ні на вуліцу. Вот на кругу стаяць рад дзевачкі — з адной стараны, рад парні — з другой. І мы, значыць, кругом бегаім. І штоб ні перарывалі гэты цэп, акуратнінька. Бегаіш так, што і рот раззявіш, алі ж паймаіш «дзеда», дзе ж дзенішся. Як лаўлю, кажу:

Ні ўцякай, дзядулячка,
Я ж твая бабулячка,
Ты ж мяне тапіць вядзеш,
Дзядулячка мой, галубочык мой...»

Гамзовіч: «А хлопцы на гэта адпяваюць ці не?»

Сцежкіна: «Не, не, толькі мы ім спяваем, ■ яны нам не адпяваюць. А тады ўжо, калі «дзед» ловіць мяне, тады ўжо я яму пяю:

Бяжы, дзядулька, бяжы,
Хоць ты галоўку злажы!

Гэта такія прыпеўкі мы ім пяём, многа піялі, я ўжо пазабываліся іх».

Гамзовіч: «Дванаццаць гадоў вы былі за «матульку», а хто зараз пераняў эстафету ад вас?»

Сцежкіна: «Гэта Хадкевіч Валянціна Сяргееўна. Яна і сёлета за «матку» была, жаніла ўсіх, круціла. Пар з дваццаць было. Вот гэта яна была за «матку», а Горскі Мікалай Сямёнавіч быў «бацькам». І лавіліся, і спявалі. Яна там падпеівала частушкі і шутныя, і ўсякія».

Гамзовіч: «А што-небудзь новае, нетрадыцыйнае яны ўносяць у гульню?»

Сцежкіна: «Канешне ўносяць. Некалькі гадоў назад выбіралі «бацькоў» «эканамічаскіх і паліцічаскіх», таму што было па пар 40, а то і па болей».

Гамзовіч: «А што гэта значыць, што яны павінны рабіць?»

Сцежкіна: «Адны маладзейшыя, а другія старэйшыя. «Паліцічаскі бацька» маладзейшы, а «эканамічаскі» — старэйшы. Мы былі за «матак» і лавіліся, спявалі. «Бацькамі» былі Свірко Іван Андрэевіч (я з ім «жаніла Цярэшку») і Дубоўскі Міхаіл Ільіч (з ім «маткай» Парчынская Ефрасіня Сямёнаўна) — гэта былі старэйшыя, «эканамічаскія бацькі».

Гарманісты ў нас былі і са Свяціцы, і з Бікульніч, і з першага Турца. Ужо паўміралі некаторыя, няма іх. А вясёлыя былі гарманісты, як добра ігралі яны!»

Гамзовіч: «А зараз хто вам іграе?»

Сцежкіна: «Янкоўскі Толік, нежанаты яшчэ, яму ўжо гадоў пад 30, таксама добра іграіць; адно што заняты, на камбайне робіць, а цяпер гарачая пара, дома яго ні застаць».

*Зап. Р. С. Гамзовіч летам 1989 г. у в. Турэц Полацкага р. Віцебскай вобл. ад А. Р. Сцежкінай.*

## «ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ»

Збіраецца маладзёж. Выбіраюць з жанатых «бацьку» і «матку». Яны ўжо і камандуюць. Становяць дзяўчат і хлопцаў парамі, сколькі пар будзіць там, ці 10 ці сколькі. Ну і тады ўжо спяюць песню (цярэшку) усе разам, а тады ловіць кожная «нявеста» свайго «жаніха» і пяець гэтыя песні, пака абойдзіць круга 3 разы. Яна яго зловіць, а тады ўжо ён яе ловіць. Ен не пяець, толькі ловіць — музыка іграіць.

— А як пары падбіраліся?

— Проста ўжо відзілі, хто каго любіць. А не, дык і так знакомюць, саўсім з другой вёскі пазнакомяцца і бывала, што і пажэнюцца.

Дадуць іншы раз «жаніху» дзеўку, а ён яе недалюбліваіць, ён хацеў другую, а ягоную дзеўку «бацькі» аддадуць другому. Дык ён ідзець ззаду (калі ловіць) і пяець:

Цярэшка валочыцца,
Жаніцца ня хочыцца.

На хаце іх ставілі ня ў круг, а шарэнгамі, вот пара, яшчэ пара, адна за аднэй. Агульную песню яны спявалі ўсе разам, калі «Жаніцьбу Цярэшкі» пачыналі, а тады ўжо пілялі па адным.

— Якой песняй (цэрэшкай) пачыналі?

— Якой хочыш, пра любоў.

У саду роза цвіцела,
Далі мне каго хацела.
За ракой сабачка брэшыць,
Мой мілы пехатой чэшыць
Чэшучы, прызас(ы)таўся,
На назе боцік стаптаўся.
Боцікі казловыя,
Падвязкі шаўковыя.
Боцікі блішчац(і), блішчаць,
Падвязкі шашчаць, шашчаць.

Ну, тады гармонік іграіць. Звычайна іграў польку. Пад польку лавілі адзін аднаго. Дзяўчына памалу ходзіць, пяець (калі пяець, ходзіць памалу), а калі кінецца даганяць хлопца, лавіць — тады полька. Калі дзеўка хлопца злавіла, тады ўжо ён яе ловіць, але ён не пяець. Як ён зловіць яе, яны не перакручваюцца, а становяцца на сваё месца.

«Бацька» з «маткай» ні піялі, яны строілі закуску. Моладзь несла — «нявесты» неслі кілбасы, там якія катлеты, мяса, а «жаніхі» водку. І як цярэшку сыграюць, усе пары перапяюць, даганяючы сваіх «жаніхоў», тады садзяцца за стол, пасядзяць за сталом, вып'юць, закусяць, тады вечарынка да дня.

Ігралі на гармоніках, цымбалах, бубне. Балалайкі не было. Музыкантам не плацілі, ігралі яны розныя танцы: польку, кракавяк, вальца, «Нарэчаньку», танга. Ці танцавалі кадрылі? Вот гэта мы не танцавалі. Мы ўжо не танцавалі. Чулі, мама танцавала.

Дзеўкі піялі кожнай пары:

Ах ты мой дзядулячка,
Я твая бабулячка.
Пастаі, дзядулька, у кутку,
Пака я штэнікі вытку.

Гэта песня, не прыпеўка. Калі дзеўка піяла, музыка не іграў. Гэта як яна лётаіць, даганяіць хлопца, тады іграў. Як хлопець дзеўку зловіць — пацалуюцца. За стол садзяцца. А за сталом піялі ўсякія песні («Чудный месяц плывёт над ракою»).

«Бацькі» за сталом навучалі, каб любілі адзін аднаго без абману, а тады «Сто лят» спяюць, як на вяселлі. Гэта па-польску піялі, музыка не іграла, калі піялі.

*Зап. І. Дз. Назіна ў 1989 г. у в. Зарэцкія Варапаеўскага с/с Пастаўскага р. ад К. Л. Барысенка і К. Ф. Царлюк.*

## ЯК ГУЛЯЛІ НА КАЛЯДЫ («ЖАНІЛІ ЦАРЭШКУ»)

На першы дзень Каляд былі танцы, моладзь танцавала позна, а пасля танцаў выбіралі са сталых людзей «матку» і «бацьку». У «маткі» — дзеўкі-«дочкі», у «бацькі» — «сыны»-дзецюкі. Рыхтаваліся да «Цярэшкі» доўга, дамаўляліся, каго з кім «жаніць». Але былі і нечаканасці. Здаралася, хлопец прасіў «маці» «перакруціць» яго вот з гэтай дзяўчынай, а дзяўчына здагадвалася і не згаджалася, нават папярэджвала, каб з тым хлопцам яе не «жанілі», бо не пойдзе ў «Цярэшку» наогул. «Маці» даводзілася шукаць выйсце, падбіраць іншую дзяўчыну.

У той хаце, дзе «жанілі Цярэшку», хлопцы і дзяўчаты станавіліся шарэнгамі адна насупроць другой. «Бацька» браў «сына», падводзіў да дзяўчыны, яна ўцякала, хлопец лавіў, а потым дзяўчыну падводзілі да хлопца, і той уцякаў, а дзеўка лавіла. Два разы лавілі. Потым «маладыя» — хлопец з дзеўкай — перакручваліся пад «Лявоніху», і пара лічылася «пажэненай». За стол садзіліся парамі, «дзед» і «баба» разам. «Бацькі» садзіліся на покуце. Усю гарэлку стаўлялі перад «бацькам», а закуску па ўсім стале. Гулялі да дня, «дзяды» праводзілі сваіх «бабуль» дадому. Песні-цярэшкі спявалі найболей, калі лавіліся:

Пайду ж я па гароду
Па дзявоцкім карагоду.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Злавіце дзядульку вы мне.
Мой дзедзька сагнуўшысі,
Ў лапцікі абуўшысі.
Лапцікі лутовыя,
Аборкі пяньковыя.
Хоць жа я павалюся,
За дзедзькам паганюся.
Хоць жа я ножачку зламлю,
Я свайго дзедзьку злаўлю.

Днём «дзяды» адведвалі сваіх «бабуль», запрашалі катацца ў вазку па возеры. Паміж імі ўстанаўліваліся прыязныя адносіны. Часам падабраныя на «Цярэшцы» пары жаніліся па-сапраўднаму. Распусты на «Цярэшцы» не дапускалася, адносіны паміж маладымі людзьмі былі, як заўсёды, цнатлівыя.

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 123, сш. 1, л. 7—9. Зап. Л. М. Салавей ў 1976 г. у в. Матырына Лепельскага р. ад А. Б. Шынкевіч, 1912 г. н., Е. Я. Мікулёнак, 1900 г. н.*

## ЯК ГУЛЯЛІ Ў «ЦЯРЭШКУ»

«Бацьку» з «маткай» выберуць найперш. «Бацька» з «маткай» ідуць, пытаюць («матка» пытаіць у «дачок», а «бацька» ў «сыноў») з кім каго «жаніць». Ну скажуць ім паціху, каго хто сабе прыгледзеў. Тады «бацькі» звядуць «дзяцей» разам, і яны перакручваюцца. Перакручваліся яны так, як «Лявоніху» танцуючы перакручваюцца. А калі ўсіх «пажэняць», колькі там маладых дзяўчат і хлопцаў ёсць, тады ўсе ідуць дамоў гатаваць закуску. Хлопцы прыносяць гарэлку, ну, гуляюць. Такое было гулянне, і пяюць:

Будзім мы піва варыць,
Будзім мы дзетак жаніць.
Насцечку, Настулячку,
Колечку сынулячку.

Гэта пяюць, як «бацька» з «маткай» падбіраюць пары.

*Зап. І. Дз. Назіна ў 1989 г. у в. Сержаны Ушацкага р. Віцебскай вобл. ад Л. А. Пугачовай.*

## ЦЯРЭШКА

Расходзяцца танцы, выходзяць хлопец і дзяўчына — «бацька» і «матка». Яны бяруць ручнік, па пары «жэняць». Як выберуць да пары хлопца і дзеўку — музыка іграіць, ■ дзеўкі прыпяваюць:

Ай, вядуць, вядуць, вядуць,
Ай, дадуць, дадуць, дадуць,
Дадушы, ня буду браць,
Дадушы, ня буду браць!

*АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 51, сш. 1, л. 48. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1972 г. у в. Белая Ушацкага р. Віцебскай вобл. ад Н. Х. Галінскай, 63 г.*

## ПАДАННЕ ПРА ЗАСНАВАННЕ ВЁСКІ ЦЯРЭШКІ

Амаль кожная вёска мае паданне пра сваё заснаванне. Для прыкладу раскажам паданне пра заснаванне вёскі Цярэшкі, што знаходзіцца пры дарозе ад паштовай станцыі Касцяне-

вічы да Крывічоў і якая належыць пану Каверскаму. На гэтым месцы даўна-прадаўна быў непраходны лес, прарэзаны рэчкай Сэрвеч (плыве з возера той жа назвы, у 7 вярстах ад мястэчка Сітца, упадае ў Вілію, у Кастыках). У лесе жыхароў не было, дзікі звер беспакарана панаваў тут і наводзіў жах на навакольных жахароў. Раптам даведаліся яны, што ў лесе з'явіўся смелы чалавек і стаў церабіць лес, расчысціў сабе паляну, пабудаваў хатку, развёў садок, паляваў на дзічыну і адным-аднымачкам зажыў слаўна. Зразумеўшы справу, сяляне палічылі яго **знахарам**, г. зн. чалавекам, які знаецца з нячыстай сілай. Ніхто ня ведаў ні яго роду, ні племя: з сустрэчнымі ён размаўляў ветліва, нейкай ломанай мовай і аб'явіў, што яго завуць **Цярэшкам**. Спачатку ўсе чужаліся і баяліся знахара-адзінца, але калі заўважылі, што ён адным з першых з'яўляецца ў храм божы, а выйшаўшы з храма, распытвае, ці няма хворых у вёсцы, ды молячыся Богу, вылячыў некалькі чалавек, прывыклі да яго, сталі паважаць яго, прасіць рады-парады. А рада была заўсёды разумная ды карысная. Няшмат часу прайшло з дня пасялення Цярэшкі, а ён ужо паспеў набыць вялікі ўплыў на ўсіх ваколічных жыхароў. Цярэшка стаў іх лекарам, мірыцелем, параднікам, прадказальнікам надвор'я, ураджаю, кіраўніком ва ўсіх работах. Між тым некаторыя сяляне збяднелі, у іншых будынкі пагарэлі, скацінка апошняя падохла ды хатка абвалілася. Цярэшка запрасіў іх у сваю сядзібу, прытуліў, дапамог, разам з імі расчысціў лес, пабудаваў хаты, і вось утварылася вёсачка, жыхары якой слухалі і любілі Цярэшку, як роднага бацьку. Ды і як было не любіць яго, калі ён кожнаму пасабляў, мірыў тых, што сварыліся, прыглядваў за работамі, нічога для сябе не патрабуючы? Гасподзь Бог благаславіў яго працу: дзе град выбіў палі, дзе хвароба ў скаціне, дзе гарачкі паглыналі людзей, а ў Цярэшкі ўсё шчасліва. Народ пачаў натоўпамі збірацца, прасіць прытулку. Такім чынам за кароткі тэрмін утварылася вялікае паселішча, а слава пра дабрабыт яго жыхароў, пра мір і ласку, што панавалі ў іх, пра іх руплівасць, сціпласць разнеслася далёка. Паселішча назвалі па найменні заснавальніка **Цярэшкі**. Такі дабрабыт доўжыўся некалькі дзясяткаў гадоў. Многія з пасяленцаў ужо пастарэлі і паўміралі, а Цярэшка быў па-ранейшаму бадзёры і вясёлы. Народ стаў ужо было падумваць, што ён несмяротны, але прыйшоў канец і для Цярэшкі.

Прадчуваючы блізкі скон, Цярэшка, які ніколькі не змяніўся знешне і, відаць, зусім здаровы, склікаў усіх сялян з сваёй вёскі, аб'явіў ім, што памрэ праз тры дні, раздаў усё, што меў, бяднейшым людзям, пакінуўшы сабе толькі тры невялікія

скібкі хлеба ды жбанок з вадою, потым усіх пацалаваў, з усімі развітаўся, запёрся ў сваёй хаце і перад Распяццем Спасіцеля паў на калені. Прыгрэтыя ім сяляне былі прыбіты гэтым няшчасцем. Тры дні не адыходзілі яны ад хаты Цярэшкі, нарэшце на чацверты раніцай выламалі дзверы, увайшлі ў хату і бачаць, што Цярэшка ўсё яшчэ стаіць на каленях перад Распяццем, рукі складзены накрыж, вусны сціснуты ўсмешкай нявіннага, нерухомы погляд скіраван на Спасіцеля. У Цярэшку ўжо не было ніякіх прыкмет жыцця. Гэта няшчасце павергла ўсіх у жахлівы адчай. Калі апомніліся, сталі прыдумляць, як лепей ушанаваць памяць нябожчыка, і вырашылі пахаваць яго на тым самым месцы, дзе ён сканаў, на пахаванне сабраліся жыхары з усіх навакольных мясцін — разабралі хату, выкапалі яму, пахавалі, а над магілай узвялі капліцу і паставілі ў ёй Распяцце, перад якім памёр Цярэшка.

Вакол капліцы ўтварыўся потым могільнік, дзе знайшлі спакой усе перасяленцы Цярэшкі. Вёска існуе і зараз пад гэтай назвай, капліцы даўно ўжо няма, але старыя людзі памятаюць яшчэ, дзе чые крыжы на могільніку, перанесеным у іншае месца, а памяць Цярэшкі перадаецца з рода ў род. (Вёска Цярэшкі і зараз існуе ў Касцяневіцкім с/с Вілейскага р. Мінскай вобласці.— *Л. С.*)

*Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнографический сборник. СПб., 1858. Вып. 3. С. 181—183. Пераклад з рускай мовы Л. Салавей.*

## ЦЯРЭШКА

Але вось певень другі раз прагарланіў поўнач. Хтосьці з-за печы закрычаў:

— Ці не пара, браточкі, «Цярэшку жаніць»?

Сярод публікі пачулася «Пара, пара!» І многія сталі пляскаць у ладкі. У той жа час сталі выбіраць «бацьку» і «матку» — тых, што вельмі добра ведалі ўсіх гасцей, ведалі, хто з кім любіцца, а значыць, маглі пары падабраць. Вось «бацька» з «маткай» і пачалі падбіраць пары: калі пара згодна гуляць «Цярэшку», то хлопец падае сваёй дзяўчыне руку і яны абое пад музыку танцуюць «Лявоніху-крутуху».

— Дзякуй богу! — крычыць «бацька»,— адну пару сасваталі. Благаславі іх (звяртаецца да «маткі»), старуха, «ад вуха да бруха».

Бывае і так, што падводзяць хлопца да дзяўчыны, а тая запішчыць, замахае рукамі і ўцякае на печ. Ей, значыць, гэты хлопец не падабаецца. Дзяўчыну некаторыя пачынаюць цягнуць з печы, але яна наадрэз адказваецца з тым хлопцам гуляць «Цярэшку». І яе пакідаюць у спакоі. Хлопец тады стаіць каля печы моцна зажураны. Сватанне не ўдалося. Але тут пачынаюць падбіраць новыя пары. Гэта працэдура цягнецца вельмі доўга, усім ніяк не ўгодзіш... Зусім часам забываюцца, што гэта толькі гульня. Здаецца ім, што тут адбываецца сапраўднае сватанне. Колькі тут «бацька» і «матка» ўгаворваюць, расхвальваюць годнасць партнёраў, колькі тут дзяўчаты канфузяцца, аднекваюцца, чырванеюць, як мак! Здаецца, сватанню не будзе канца. Але вось набралася ўжо пар дванаццаць. Усе пасярод хаты расстаўлены: мужчыны з аднаго боку, направа, дзяўчаты з другога, налева. Цяпер пачынаецца другая частка «Цярэшкі». Кожны хлопец павінен славіць сваю дзяўчыну... Публіка стараецца адбараніць дзяўчыну ад пагоні. Смех, крык, штурханіна. Дзяўчына першай пары, уцякаючы, пяе:

Па гарэ дудар ходзіць,
Карагод дзяўчат водзіць...

А як хлопец славіў сваю дзяўчыну, то музыкі, як бы ўзрадаваўшыся, хутка іграюць «Лявоніху-крутуху», а пара кружыцца па хаце, як віхор, прычым кавалер стараецца як мага мацней прыстукваць ботамі.

Нарэшце ўсе пары пералавіліся, цяпер пачынаюць супакойвацца і выціраць потныя твары. Наступае невялікая паўза. Калі антракт закончыўся, наступіла заключная частка «Цярэшкі». Дзяўчаты раптам накінулі на галовы хусткі і пабеглі з хаты. Гэта яны накіраваліся дадому пячы кілбасы, яешні, бліны для сваіх суджаных.

Праспявалі трэція пеўні. Адна за другой з'яўляліся ў хату дзяўчаты, кожная несла прыгатаваную ежу. Расселіся парамі. Музыка іграла «Цярэшку». Банкет быў у поўным разгары. Пачало світаць, а вясельная бяседа ўсё яшчэ працягвалася.

*Зап. А. Пшчолка ў 1908 г. у в. Каптуркі Віцебскай губ. (Витебск. губ. ведомости. 1908. № 26)*

# I. ПЕСНІ ПРЫ ПАДБОРЫ ПАР

## *1. АГУЛЬНЫЯ ПЕСНІ-ЦЯРЭШКІ, ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ ТЛУМАЧЭННЕ ДЗЕЯННЯЎ І НАСТРОЯЎ УДЗЕЛЬНІКАЎ*

### 1.1. ПЕСНІ «МАЦІ», ЯКІЯ ЯНА ВЫКОНВАЕ ПРЫ ПАДБІРАННІ ПАР

#### 1. Будзім мы Цярэшку жаніць

Будзім мы Цярэшку жаніць,
Будзім мы капусту варыць,
А капуста сырая,
А Цярэшка старая.

#### 2. Ай, будзім мы Цярэшку жаніць

Ай, будзім мы Цярэшку жаніць,
Будзім мы капусту варыць.
Цярэшку ні (а)жанілі,
Капусту ні зварылі.
Цярэшка старусенька,
Капуста сырусенька,
Цярэшка стара-стара,
Капуста сыра-сыра.

#### 3. Цярэшка, Цярэшухна

Цярэшка, Цярэшухна,
Цераз бор дарожухна.
Будзім мы Цярэшку жаніць,
Будзім мы капусту варыць.
Цярэшку не ажанілі,
Капусту не зварылі.
Цярэшка старусінькі,
Капуста сырусінька.

### 4. Цярэшка хаху, хаху

Цярэшка хаху, хаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілічкі, іголачкі,
Златыя пярсцёначкі.
Іголачкамі шыць будзім,
Пярсцёнкі насіць будзім!

### 5. Цярэшка чаху, чаху

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў тваім мяху, мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі!

### 6. Цярэшка чаху, чаху

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Йголачкі і шпілічкі,
Залаты пярсцёначкі.

### 7. Цярэшка каху, каху

Цярэшка каху, каху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Дзявоцкія пярсцёначкі.

### 8. Цярэшка каху, каху

Цярэшка каху, каху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілічкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.
Іголачкай шыць будзім,
Пярсцёначкам абручаць будзім,
Пярсцёначкам вінчаць будзім.

**9. Цярэшка чаху, чаху**

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Дзявоцкія ўборачкі.

**10. Цярэшка вяху, вяху**

Цярэшка вяху, вяху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.

**11. Цярэшка ваху, ваху**

Цярэшка ваху, ваху,
Што ў цябе ў мяху, мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.

**12. Цярэшка чаху, чаху**

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў тваім мяху, ў мяху?
— Іголкі, напарстачкі,
Залаты пярсцёначкі.

**13. Цярэшка чаху, чаху**

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Есць шпілічкі, йголачкі,
Залаты пярсцёначкі.

**14. Цярэшка каху, каху**

Цярэшка каху, каху,
Што ў тваім мяху, мяху?

— Шпілечкі, іголачкі,
Розныя пярсцёначкі.

### 15. Цярэшка чаху, чаху

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— І шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі,
Елачкі да палачкі,
Дзецкія забавачкі.

### 16. Цярэшка каху, каху

Цярэшка каху, каху,
Што ў тваім мяху, мяху?
— У маім мяху, мяху,
Пернічкі, бараначкі,
Пернічкі, бараначкі —
Дзявочча падманачкі.

### 17. Цярэшка каху, каху

Цярэшка каху, каху,
Што ў тваім мяху, мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.
Пярсцёначкі на пальчыкі,
Каб любілі мальчыкі,
Шпілечкі на прышпілянне,
Іголачкі на вышыванне.

### 18. Цярэшка цяху, цяху

Цярэшка цяху, цяху,
Што ў цябе ў мяху, мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі,
Зялёныя кутасачкі
Дзеўкам на прывязачкі.

### 19. Цярэшка каху, каху

Цярэшка каху, каху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Цукеркі, абаранкі,
Дзевачкам на падманкі.

### 20. Ой, дзевачкі, каху, каху

Ой, дзевачкі, каху, каху,
Што ў вашым мяху, мяху?
— Нітачкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі.

### 21. Ай, дзевачкі, чаху, чаху

Ай, дзевачкі, чаху, чаху,
Што ў вашым мяху, мяху?
— І шпілечкі, йголачкі,
Злотныя пярсцёначкі.

### 22. Цярэшка чашу, чашу

Цярэшка чашу, чашу,
А што ў цябе ў мяшу?
— Шпілечкі, іголачкі,
Розныя пярсцёначкі.

### 23. Цярэшка валочыцца

Цярэшка валочыцца,
Яму жаніцца хочыцца,
Валочыцца, выглядаіць,
Каго та ён паймаіць?

### 24. Цярэшка валочыцца

Цярэшка валочыцца,
Жаніцца ня хочыцца.

Дзетачкі, жаніцеся,
За ручкі бярыцеся,
Дзетачкі, шануйцеся,
Часценька цалуйцеся.

### 25. Цярэшка, Цярэшухна

Цярэшка, Цярэшухна,
Цераз бор дарожухна.
Цярэшка валочыцца,
Цярэшцы жаніцца хочацца.
Вы, дзеткі, жаніціся,
За ручкі бярыцеся
І за стол садзіцеся!
Прыдзець матка з таткам,
Будуць вас жагнаць,
Будуць багаслаўляць!

### 26. Цярэшка валочыцца

Цярэшка валочыцца,
Жаніцца ня хочацца.
Цярэшка чаху, чаху,
Што ў тваім мяху, мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.
Пасядзі, дзедзька, ў кутку,
Я табе штонікі вытку
Ценькія, беленькія
Я свайму міленькаму.

### 27. Цярэшка валочыцца

Цярэшка валочыцца,
Жаніцца ня хочыцца.
Цярэшка чаху-чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.

### 28. Стаптаў татулька боты

Стаптаў татулька боты,
Ходзячы каля работы,
Дзетачак збіраючы,
У пары стаўляючы.
Дзетачкі, жаніцеся,
За ручкі бярыцеся.

### 29. А стаптаў татулька боты

А стаптаў татулька боты,
Нарабіў сабе работы,
Дзетак сабіраючы,
У пары злучаючы.
Будзім мы піва варыць,
Будзім мы сыноў жаніць,
Будзім мы гарэлку гнаць,
Будзім мы дачок аддаваць.

### 30. Гуляйце, дзевачкі, цяпер

Гуляйце, дзевачкі, цяпер,
Як німа малых дзяцей!
Як будуць малыя дзеці —
Ні захочыцця паглядзеці.

### 31. Цярэшка чаху, чаху

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў цябе ў мяху, у мяху?
— Шылачкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.
Пярсцёначкі дарыць будзім.
Мальчыкаў жаніць будзім,
Дзевачкі, не барыціся,
За ручкі бярыціся.
Гуляйце, дзевачкі, цяпер,
Як нету маленькіх дзяцей!
Як будуць малыя дзеткі,
Будзіце на печы сядзець,

На печы з апрадкамі,
З малымі рабяткамі.

## 32. Па гары дудар ходзіць

Па гары дудар ходзіць,
Карагод дзяўчат водзіць.
Дзевачкі-пралесачкі,
Ня йдзіце ў арэшачкі,
Абы вас ваўчок паесць,
Абы вы заблудзіце,
Арэшкі пагубіце.

## 33. Казалі, дудар прапаў

Казалі, дудар прапаў,
Ажно яго чорт не ўзяў,
Па гары дудар ходзіць,
Карагод дзевак водзіць.
Дзевачкі-пралесачкі,
Ня йдзіце ў арэшачкі,
Бываіць, заблудзіце,
На йгрышчы ня будзіце.

## 34. Па полі дудар ходзіць

Па полі дудар ходзіць,
Карагод дзевак водзіць.
Дзевачкі-пралесачкі,
Ня йдзіце ў арэшачкі —
І дома ня будзіце,
Ў арэхах заблудзіце.

## 35. А дзевачкі-сястрыцы

А дзевачкі-сястрыцы,
Ня йдзіця й у чарніцы.
У чарніцах заблудзіця,
У Цярэшцы ня будзіця.

### 36. Цярэшка, Цярэшухна

Цярэшка, Цярэшухна,
Мой мілы пацешухна!
Як мяне татка аддаваў,
Чатыры йскрыпкі наймаў,
Пятая жалеечка,
Я ў таткі паненачка,
Шостая дуда раўла,
Мяне з памяці звяла.

### 37. Як я замуж хацела

Як я замуж хацела,
Сем разоў з печы зляцела.
Як мяне замуж аддавалі,
Чатыры скрыпачкі йгралі,
Пятая дуда раўла,
Мяне з розаму з(ы)вяла,
Шостыя цынбалы білі,
На розум навадзілі.

### 38. Цярэшка, Цярэжынька

Цярэшка, Цярэжынька,
Цiраз бор дарожынька,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.

### 39. Цярэшка, Цярэжынька

Цярэшка, Цярэжынька,
Цiраз бор дарожынька.
Ой, люлі, люлі і люлі,
Цiраз бор дарожынька.

### 40. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Ціраз борку сцежачка,

Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.

### 41. Цярэшка, Цярэжачка

Цярэшка, Цярэжачка,
Цiраз бор дарожачка,
Дарожка таптаная,
Я ў мамкі каханая.

### 42. Цярэшка, Цярэшухна

Цярэшка, Цярэшухна,
Цiраз бор дарожухна,
Бітая, ўтаптаная
Да майго куханага.

### 43. Цярэшка, Цярэшухна

Цярэшка, Цярэшухна,
Цераз бор дарожанька,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Я ў мамкі каханая,
Ў татулькі прыбраная.

### 44. Цярэшка, Цярэжачка

Цярэшка, Цярэжачка,
Цiраз бор дарожачка,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая,
Я ў мамкі расту, расту,
Выйду я за старасту.
Стараста — багаты пан,
Купіць мне зялёны каптан,
Боцікі казловыя,
Панчошкі бялёвыя.

## 45. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожачка,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Я ў мамкі расту, расту,
Выйду я за старасту.
Стараста вялік, багат,
Купіць мне шубу, халат.
У халаце — жыта жаць,
А у шубе — панаваць.

## 46. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожачка,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Я ў мамкі расту, расту,
Выйду я за старасту.
Стараста вельмі багат,
Купіць мне сукенку, кабат.
У сукенцы — жыта жаці,
У кабаце — панаваці.

## 47. Цярэшка, Цярэжынька

Цярэшка, Цярэжынька,
Ціраз бор дарожынька,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Пападдзя пшаніцу жала,
А папа трасца дзіржала.

## 48. Мой жа ж татулечка

Мой жа ты тутулічка,
Прадай ты каровачку,
Купі мне шнуровачку!
А з мяне мальцы смяюцца,

Што ў мяне сіські трасуцца.
А з мяне мальчыкі бурчаць,
Што ў мяне сісячкі тарчаць!

## 49. Мой жа ты татулічка

Мой жа ж ты татулечка,
Прадай ты каровачку,
Прадай ты каровачку,
Купі мне шнуровачку.

## 50. Дайця ж мне харошага

Дайця ж мне харошага,
Дайця ж мне прыгожага,
Дайця ж мне такога, як я,
Буду я гуляць да дня.

## 51. Пайду ■ й у Цярэшку

Пайду я й у Цярэшку,
Дадуць мне качарэжку.
Буду ж я кісель мяшаць,
Дам жа я міламу лізаць.

## 52. Паехаў Цярэшка ў дровы

Паехаў Цярэшка ў дровы,
Пакінуў Тарэсу ў дому.
Цярэшка дровы сячэць,
Тарэска бліны пячэць.
А дровы яловыя,
А бліны паловыя.

## 53. Хто гэту гару капаў

Хто гэту гару капаў,
Чорну сцежачку таптаў,
Да Манечкі ходзячы,

Падарачкі носячы:
Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі,
Садовыя яблычкі —
Гэта не на жартачкі.
Лясновыя арэшачкі —
Яны не на смешачкі.

### 54. На двары сняжок, сняжочак

На двары сняжок, сняжочак,
А каля хаты слядочак.
А хто яго наслядзіў?
Там Іванька хадзіў.
Іванька гару капаў,
Чорную сцежку таптаў,
Да Манечкі ходзячы,
Гасцінчыкі носячы.
Стук, стук у вакеначка:
«Ці дома паненачка?
Адчыні, дзяўчыначка,
На табе гасцінчыка:
Шпілечак, іголачак,
Залаты пярсцёначак».

### 55. Цярэжка, Цярэжачка

Цярэжка, Цярэжачка,
Ціраз бор дарожачка,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Цярэшка валочыцца,
Мне жаніцца хочыцца.
Хто й тую гару капаў,
Чорную сцежку таптаў?
Васячка гару таптаў,
Чорную сцежку таптаў,
Да Танечкі ходзючы,
Дробны слёзкі ронючы.

### 56. На печы каток: курняў!

На печы каток: курняў!
Дзядулька бабульку абняў.
I дай божа з катком спаці,
Ні нада пасцелькі слаці,
Дай божа з катком жыці,
Не нада кашулькі шыці.

### 57. Божа мой, галоўка баліць

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзетак пажаніць.
А якую раду браць,
Дзетачкам парадак даць?
Будзім мы піва варыць,
Будзім мы сыноў жаніць,
Будзім мы пшанічку жаць,
Будзім мы гарэлачку гнаць,
Будзім мы дачок аддаваць.
Шурачка — сынулічка,
Надзічка — дачушачка,
Ай, роўная парачка,
Ім гарэлкі чарачка.

### 58. Ай, будзем мы піва варыць

Ай, будзем мы піва варыць,
Будзем мы сыноў жаніць,
Будзем мы гарэлачку ґнаць,
Будзем мы дачок аддаваць.
Сяргейка — сынулечка,
Танечка — дачушачка,
Ай, роўная парачка,
Нам гарэлкі чарачка.

### 59. Цярэшка жанючая

Цярэшка жанючая,
Галоўка балючая.

Цярэшку жаніць(і), жаніць,
Галоўка баліць(і), баліць.

### 60. Казалі мой дзед нічога

Казалі мой дзед нічога,
Насеіў пшанічкі многа.
Буду я пшанічку жаць,
Таўстыя снапы вязаць,
Буду я піва варыць,
Буду я сыноў жаніць.

### 61. Пайду я у той куток

Пайду я у той куток,
Найду я курэй гурток,
Пітушка ніводнага —
Курачкі галодныя.

### 62. Як пайду на ток, на ток

Як пайду на ток, на ток,
Там знайду курэй куток,
Курачкі лагодныя,
Пітушка ніводнага.
Курачкі чубатыя,
Каго вам засватаю?
Дайце ж мне рэшата пер'я,
Знайду вам пекнага пеўня,
Што сядзіць на паркане
У шаўковым каптане.

### 63. Пайду я й у ток, у ток

Пайду я й у ток, у ток,
Знайду я курэй куток,
Усе куры чорныя —
Пітушка ніводнага.

### 64. Пайду я ў ток, у ток

Пайду я ў ток, у ток,
Найду я курэй куток.
Курачкі заводныя,
Пітушка ніводнага,
Курачкі кудак-кудак,
Яечкі з кулак, з кулак.

### 65. Пайшлі мы у ток, у ток

Пайшлі мы у ток, у ток,
Знайшлі мы курэй куток,
Пятушка ніводнага.
Пятушок ідзець, ідзець,
Ён стада курэй вядзець
І для маладой падаркі нясець.

### 66. Пайду я у новы ток

Пайду я ў новы ток,
Найду я курэй куток,
Пітушка ніводнага.
Вы куркі ні сакачыці,
Галовак ні клапачыці,
Ёсць у мяне рэшата пер'я,
Куплю я пітушка-пеўня,
Ёсць у мяне і другоя,
Куплю я і рабога.

### 67. Пайду я каля саду

Пайду я каля саду,
Найду я курэй стаду,
Найду я курэй стаду,
Пеўніка ніводнага.
Вы, куркі, не скачыце,
Галовак не клапачыце,
Маю я рэшата пер'я,
Куплю вам пеўніка-пеўня.

## 68. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожачка,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Як пайду я ў ток, у ток,
Знайду я курэй куток,
Усе куркі чорныя,
А петушка ніводнага.
Прадам я рэшата пер'я,
Куплю петуха, пеўня.

## 69. Пайду я ў ток, у ток

Пайду я ў ток, у ток,
Найду я курэй куток.
Курачкі заводныя,
Пітушка ніводнага.
Цішаце, не сакачыце,
Мне галоўкі не клапачыце,
Ёсць у мяне рэшата пер'я,
Куплю вам пітушка-пеўня.

## 70. Як пайду на ток, на ток

Як пайду на ток, на ток,
Там знайду курэй куток,
Пітушка ніводнага,
Дзядульку асобнага.
А мой ты дзядулячка,
Я ж твая бабулячка.

## 71. Пайду я у ток, у ток

Пайду я у ток, у ток,
Найду я й курэй куток,
Курачкі завод(ы)наі,
Пітушка нівод(ы)нага.
Цішыце, не сакачыці,

Мне галоўку не клапачыці,
У мяне рэшата пер'я,
Куплю вам пітушка-пеўня.

### 72. Пайду я каля саду

Пайду я каля саду,
Найду я курэй стаду,
Курачкі заводныя,
Пітушка ніводнага.
Вы, куркі, ні сакачыця,
Галовак ні клапачыця,
Прадам я рэшата пер'я,
Куплю вам пітушка-пеўня.

### 73. Пайду ж я у ток, у ток

Пайду ж я у ток, у ток,
Найду ж я курэй(і) куток.
Вы, куркі, ні сакачыця,
Галоўку ні хлапачыця,
Есць у мне рэшата пер'я,
Куплю ж я пітушка пэўна!

### 74. Пайду я ў ток, у ток

Пайду я ў ток, у ток,
Знайду я курэй куток,
Курачкі заводныя,
Пятушка ніводнага.
А вы, куркі, ні сакачыця,
Свае галоўкі ні клапачыця,
Дайце мне рэшата пер'я,
Куплю вам пятушка, вам пеўня,
Знясіце рэшата яец,
Куплю пятушка, што пяець.

### 75. Пайду я у новы ток

Пайду я у новы ток,
Знайду я курэй куток,

Курачкі заводныя,
Пітушка ніводнага.
Вы, куркі, ні сакачыця,
Галоўкі ні клапачыця,
Ёсь у мяне рэшата пер'я,
Куплю вам пітушка-пеўня.
Пітушка ні купіла,
Пер'ечка пагубіла.

### 76. Пайду ■ у ток, у ток

Пайду я у ток, у ток
Знайду я курэй куток.
Вы, куркі, не сакачыце,
Галоўкі не клапачыце,
Ёсць у мяне рэшата пер'я,
Куплю вам петушка-пеўня.
Петушок рабусенькі,
Ён пяець ранюсенька.

### 77. Пайду я на ток, на ток

Пайду я на ток, на ток,
Найду там курэй куток,
Усе курачкі чорненькія,
Петушка ніводнага.
Цішэй, курачкі, не сакачыце
Мне галовачкі не клапаціце,
Прадам я рэшата пер'я,
Куплю вам петушка-пеўня.
Прадам я рэшата яец,
Куплю такого, што пяець.
Бадай той пятух прапаў,
Як ён мой агарод скапаў,
Бадай той пятух зблудзіў,
Што мяне раненька будзіў.

### 78. Цярэшка чаху, чаху

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?

— Іголачкі, шпілечкі,
Залаты пярсцёначкі.
Цярэшку біда стала:
З кім яго жана спала?
Пад дубам зялёненькім,
З казачком малодзенькім.
Як пайду [redacted] ў новы ток,
Знайду я курэй куток,
Курачкі заводныя,
Петушка ніводнага.
Дайце мне рэшата пер'я,
Куплю я петушка-пеўня.

### 79. Цярэшка валачыўся

Цярэшка валачыўся,
Да ўжэ ж ён ажаніўся,
А ўзяў дзевачку прыгожую,
Хоць куды, так гожую.

### 80. А мая ж ты мамачка

А мая ж ты мамачка,
Ці не твая праўдачка?
Далі мне дзеда на 5 гадзін,
Пойдзіць ён дамоў адзін.

### 81. Цярэшка, Цярэжыла

Цярэшка, Цярэжыла,
На печы ня ўлежала,
А з печы звалілася,
На крошкі разбілася.

### 82. Цярэшка, Цярэжыла

Цярэшка, Цярэжыла
На печы ня ўлежыла,
А з печы звалілася,
Галава разбілася.

**83. Цярэшка, Цярэжыла**

Цярэшка, Цярэжыла
На печы ня ўлежыла,
А з печы звалілася,
У поўнач ажанілася.

**84. Цярэшка, Цярэжыла**

Цярэшка, Цярэжыла,
На печы ня ўлежыла,
А з печы звалілася,
На дзеда забылася.

**85. Цярэшка, Цярэжыла**

Цярэшка, Цярэжыла,
На печы ня ўлежыла,
Ай-лю, ай люлюшанькі,
На печы ня ўлежыла.

**86. Цярэшка, Цярэжыла**

Цярэшка, Цярэжыла,
На печы ня ўлежыла,
А з печы саскочыла,
На дзеда заглянула.

**87. Цярэшка, Цярэшыла**

Цярэшка, Цярэшыла,
На печы не ўлежыла,
Кажушком накрылася,
Ды з печы звалілася.
Цярэшка каху-каху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі.

## 88. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Дзядулька — пацешачка,
Я — закускі, а ён віна,
Будзем гуляць цяпер да дня.
А як будзіць відны дзень,
Пойдзіць ён дамоў адзін.

## 89. Цярэшка, Цярэжухна

Цярэшка, Цярэжухна,
Я твая пацешухна!
Цярэшку бяда стала;
З кім яго жана́ спала?

## 90. Цярэшка жанілася

Цярэшка жанілася,
Пад(ы) лаўку звалілася,
Цярэшку біда стала:
З кім(ы) яго жана спала?
Ці ў полі пад ліпкаю
З маладым Піліпкаю,
Ці ў полі пад рэшкаю
З маладым Цярэшкаю?

## 91. Цярэшка, Цярэшанька

Цярэшка, Цярэшанька,
Мая ты пацешанька!
Цярэшку бяда стала:
З кім яго жана спала?
Ці спала, ці не спала,
Цярэшку бяда стала.
— Я спала пад ліпкаю
З маладым Піліпкаю,
Я спала пад горкаю
З маладым Ягоркаю.

## 92. Цярэшка, Цярэжухна

Цярэшка, Цярэжухна,
Я твая пацежухна!
Цярэшку бяда стала:
З кім яго жана спала?
Яна спала пад ліпенькам
З маладым Піліпенькам,
Яна спала пад яворам
З маладым Ягорам.

## 93. Цярэшка, Цярэшухна

Цярэшка, Цярэшухна,
Уся мая пацешухна.
Цярэшцы бяда стала:
З кім яго жана спала?
У полі пад ліпачкай
З маладым Піліпачкам,
У полі пад яворам
А з маладым Ягорам.

## 94. Цярэшку жаніць, жаніць

Цярэшку жаніць, жаніць,
Галоўка баліць, баліць.
Цераз цябе да стала,
Забылася, з кім спала.
Пад ліпкай, пад ліпкаю
З маладым Піліпкаю.

## 95. Цярэшка жанілася

Цярэшка жанілася,
Пад лаўку звалілася.
Цярэшцы бяда стала:
З кім яго жана спала?
У полі пад ліпкаю
З маладым Піліпкаю.

## 96. Цярэшку жаніць, жаніць

Цярэшку жаніць(і), жаніць,
Галоўка баліць(і), баліць.
Цярэшку біда с(ы)тала:
З кім яго жана спала?
У полі пад ліпачкам
З маладым Піліпачкам.

## 97. Цярэшка жанілася

Цярэшка жанілася,
Пад лаўку звалілася,
Цярэшку біда стала:
З кім яго жана спала?
Я спала пад ліпкаю
З маладым Піліпкаю,
Я спала пад ёлкаю
З маладым Рыгоркаю.

## 98. Цярэшкі біда стала

Цярэшкі біда стала:
З кім яго жонка спала?
Пад дубам зіляненькім
З казачком маладзенькім.

## 99. Цярэшка валочыцца

Цярэшка валочыцца,
Жаніцца не хочацца.
Цярэшцы бяда стала:
З кім яго жонка спала?
Ці ў полі пад ліпкай
З маладым Піліпкай?
Ці ў полі пад яворам
З маладзенькім Ягорам?
Ці пад гаем зеляненькім
З казаком маладзенькім?

## 100. Цярэшку бяда стала

Цярэшку бяда стала:
З кім яго жана спала?
У полі пад ліпкаю
З маладым Піліпкаю,
У полі пад яворам
Із маладым Ягорам,
А пад гаем зеляненькім
З казачком маладзенькім.

## 101. Цярэшцы бяда стала

Цярэшцы бяда стала:
З кім яго жана спала.
Ці ў полі пад ёлкаю
З маладым Міколкаю,
Ці ў полі пад дубам
Із маладым Якубам?

## 102. Цярэшцы біда стала

Цярэшцы біда стала:
З кім яго жана спала?
Пад гаім зіляненькім
З казачком маладзенькім.
Ці спала, ці ні спала,
На яго біда стала.

## 103. Цярэшца біда стала

Цярэшца біда стала:
З кім яго жана спала?
У полі пад елкаю
З маладой паненкаю,
У полі пад ліпаю
З маладым Піліпаю.

### 104. Цярэшку бяда стала

Цярэшку бяда стала:
З кім яго жана спала?
На полі пад копачкай
З маладым Пракопачкам.

### 105. Цярэшку бяда стала

Цярэшку бяда стала:
Дзе ж яго жана спала?
Ці ў хаце пад лаўкаю —
Зарасла мураўкаю?
Ці ў сянёх пад загнетам —
Зарасла жоўтым цветам?

### 106. Цярэшка, Цярэжало

Цярэшка, Цярэжало
На печы ня ўлежала.
Цярэшку біда стала:
З кім яго жана спала?
У полі пад ядленцам
З маладым маладзенцам,
У полі пад ёлкаю
З маладым Міколкаю.

### 107. Цярэшку й жаніць, жаніць

Цярэшку й жаніць, жаніць,
Галоўка баліць, баліць.
Цярэшцы біда стала:
З кім яго жана спала?
Пад дубам зялёніцькім
З казаком малодзінькім.

### 108. Цярэшку жаніць, жаніць

Цярэшку жаніць, жаніць,
Цярэшку жывот баліць.
Цярэшку бяда стала:
З кім яго жана спала?

### 109. Цярэшка каху, каху

Цярэшка каху, каху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі.
Цярэшку бяда стала:
З кім яго жана спала?
Пад гаем зялёненькім
З казачком маладзенькім.

### 110. Ці спала, ці ня спала

Ці спала, ці ня спала,
Толькі тая слава стала.
Яна з казаком гукала,
Пра дарожаньку пытала,
Пра дарожаньку, пра сцежку,
Каб знайсці свайго Цярэшку.

### 111. Цярэшку жаніць, жаніць

Цярэшку жаніць, жаніць,
Цярэшку галоўка баліць,
Цярэшку біда стала:
З кім яго жана спала?
Ці спала, ці ні спала,
Толькі славачка пала.

### 112. Сядзела котка на кухні

Сядзела котка на кухні,
Ды ў яе вочкі падпухлі.
— Чаго ж ты, котачка, плачыш,
Ці піці-есці ні хочаш?
— Я й піць-есці не хачу,
Па сваёй крыўданьцы плачу:
Сам кухар пячэню злізаў,
На міне, котачку, сказаў!

Меліся лапачкі пабіць —
Чым буду шчырычак лавіць?

### 113. Чаго ты, кошачка, плачыш

— Чаго ты, кошачка, плачыш,
Ці піці, ці есці хочыш?
— Я піці, есці не хачу,
Па сваёй долі плачу.
Сам кухар пячэнню злізаў,
На мяне, кошачку, сказаў:
«Я табе лапачкі паб'ю,
Я табе вочкі выкалю».
Як жа мне ў лясок хадзіць,
Як жа мне звярушак лавіць,
Чым жа мне душачку жывіць!

### 114. Хадзіла кошачка ў жыта

Хадзіла кошачка ў жыта,
Чорная сцежачка ўбіта,
— Чаго ты, котачка, плачыш,
Ці піцькі, ці есцікі хочыш?
— Ні піцькі, ні есцікі ні хачу,
Па сваёй жаласці плачу:
Сам кухар пячэню злізаў,
На мяне, кошачку, сказаў.

### 115. Цярэшка валочыцца

Цярэшка валочыцца,
Жаніцца не хочацца.
Жаніся, мой міленькі,
Жаніся, удаленькі.
Бяры тую ключніцу,
Што нашу разлучніцу,
Што ключы расключала,
Нас з табою разлучала.

### 116. Цераз мора сіняя

Цераз мора сіняя
Я дзядульку відзіла,
Я слоўца прамовіла,

Жаніцца дазволіла.
Жаніся, дзядулечка,
Бяры сабе дзевачку,
Каралёву ключніцу
І нашу разлучніцу.
У караля ключы крала,
Нас з табой разлучала.

### 117. Цiраз мора сінія

Цiраз мора сінія
Я дзядульку відзіла,
Я слоўца прамовіла,
Жаніцца дазволіла,
Жаніся, мой дзедзічка,
Жаніся мой родніенькі,
Бяры сабе ключніцу,
А маю разлучніцу.

### 118. А я свайго мілага

А я свайго мілага
Цераз Дунай відзела,
Цераз мора молвіла,
Жаніцца дазволіла.
А жаніся, міленькі,
Жаніся з красівенькай,
Жаніся з маёй ключніцай,
З маёю разлучніцай.

### 119. А я свайго мілага

А я свайго мілага
Цераз Дунай відзіла,
Відзіла, гаварыла,
Жаніцца пазволіла.
Жаніся, мой міленькі,
Жаніся, удаленькі.
Бяры тую ключніцу,
І нашу разлучніцу,
Што ключы расключала,

Нас з табой разлучала,
Што ключы расключыла,
Нас з табой разлучыла.

### 120. А я свайго мілага

А я свайго мілага
Чыраз Дунай відзіла,
Пара слоў прамовіла,
Жаніцца пазволіла.
Жаніся, мілы, жаніся,
Жаніся, вісяліся,
Бяры сабе ключніцу,
Для мяне разлучніцу,
Бяры сабе паннaчку,
Пляменніцу Жанначку.

### 121. Цярэшка валочыцца

Цярэшка валочыцца,
Жаніцца ня хочыцца.
Жаніся, мой міленькі,
Жаніся, удаленькі!
Бяры тую ключніцу,
Нам з табой разлучніцу,
Што ключы расключала,
Нас з табой разлучала,
Што ключы расключыла,
Нас з табой разлучыла.

### 122. Ах, Цярох-Цярэшачка

Ах, Цярох-Цярэшачка,
Цераз мой двор сцежачка.
А я свайго мілага
З-за рэчанькі відзела,
Словечка прамовіла
Жаніцца дазволіла.
Жаніся, мой міленькі,
Бяры сабе каго хочаш,
Бяры сабе ключніцу,

А са мной разлучніцу.
Пайду я па гароду,
Дзявоцкім карагоду,
Арэшкі шчулкаючы,
Дзядульку шукаючы.

### 123. Цярэшка, Цярэжанька

Цярэшка, Цярэжанька,
Цераз бор дарожанька.
А я свайго мілага
Цераз поле віддзіла,
А я яму мовіла,
Жаніцца дазволіла.
Бяры сабе жоначку,
Каралёву ключніцу,
А маю разлучніцу.

### 124. На вуліцы скрыпка йграіць

На вуліцы скрыпка йграіць,
Мяне стары дзед ні пускаіць.
Пайду я памалюсіньку,
Каля яго паціхусіньку.
А за мной стары дзед ідзець,
У руках вяроўку нясець.
— Ня біся, дзедзя, ніколі,
Не пайду без тваей волі.

### 125. Чую, скрыпачка іграіць

Чую, скрыпачка іграіць,
А дзядулька ні пускаіць.
— Пусці, пайду я па сена!
Выйшла на вуліцу і села.
Віджу: дзядулька ідзець,
А ззаду бізун(ы) нясець.
— Ня біся, дзядулька, болей,
Не пайду без тваей волі.

### 126. На двары йскрыпка йграіць

На двары йскрыпка йграіць,
А стары дзед ні пускаіць.
Я паціху ўкрадуся
Ды там нагуляюся.
А ззаду за мной дзед ідзець
І ў руках палку нясець.
Лепі ж мне з катком жыці,
Не нада штаноў шыці.
Каточак на 'кне пасядзіць,
А хвасток за 'кном падзяржыць.

### 127. Дзед бабу тапіць вядзець

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець.
Дзед бабу чабох! на дно.
— Дзедзічка, мне й тут ладно!

### 128. Дзед бабу тапіць вядзець

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба сапіць — не йдзець.
Дзед бабу чабох! на дно.
— А мне і тут, дзедзька, ладно!

### 129. Дзед бабу тапіць вядзець

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець,
А баба ўпіраецца,
Дзеду наругаецца.
Дзед бабу лапатай б'ець,
А баба лажыцца, ня йдзець.

### 130. Дзед бабу тапіць вядзець

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець.

— Чаму, баба, ў печы ні паліш,
Чаму, баба, кашы ні варыш?
Чаму, баба, ў ступе ні таўчэш,
Чаму, баба, бліноў ні пячэш?
— Дзядулька, ня хочыцца,
Каля печы варочацца
Ў беленькай сарочацца,
Ў шаўковай намётачца.

### 131. Дзед бабу тапіць вядзець

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець.
— А мой ты дзядулячка,
Я ж твая бабулячка!
Пастаўлю красёнцы ў кутку,
Я ж табе штонікі вытку,
Тонкія-таненькія,
Белыя-бяленькія.

### 132. Дзед бабу тапіць вядзець

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець.
— Мой жа ты дзядулічка,
Я ж твая бабулічка.
Пасядзі на печы ў кутку,
Пакуль я красенцы вытку.
А вытку красеначкі,
Пашыю кашулічку
З чырвоным каўнерачкам,
Каб ты быў жаўнерачкам.

### 133. Дзед бабу тапіць вядзець

Дзед бабу тапіць вядзець,
Бабулька крычыць, ня йдзець.
— А мой ты дзядулечка,
Я ж твая бабулечка.
Будзем мы Цярэшку жаніць,
Будзем мы дзядоў лавіць.

### 134. Цярэшка, Цярэшанька

Цярэшка, Цярэшанька,
Мой мілы — пацешанька.
Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець.
— А мой ты дзядулячка,
Я твая бабулячка!
Пастаўлю кросны ў кутку,
Я табе штаны вытку,
Ценькія, бяленькія
Для свайго міленькага.
Пашыю кашулячку
Белую-бяленькую,
Белую-бяленькую
Я свайму міленькаму,
З чырвоным каўнерычкам,
Каб ты быў жаўнерычкам.

### 135. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Чараз бор дарожачка.
Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець.
— Хай цябе кадук бярэць,
Як ты мне хвартух дзярэш!

### 136. Дзед бабу тапіць вядзець

Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець.
— Не тапі, дзядулька, жыўцом,
Напяку гарачых блінцоў.

### 137. (І) дзед бабі кажух шыць

(І) дзед бабі кажух шыць,
А ў бабы душа ныць.
Дзед бабу тапіць вядзець,
А баба крычыць, ня йдзець.

— Дзядулька, дзядулічка,
Я ж твая бабулічка!
Садзіся на печы ў кутку,
Я табе кашульку вытку
З чырвоным каўнерыкам,
Каб ты быў жаўнерыкам.

### 138. Баба п'яная

Баба п'яная,
Разудалая,
Пачаў дзед лавіць,
Хацеў яе біць.

Й а ня бі ж ты ўдзень,
Не смяшы ты людзей,
А бі ты ўначы,
Каб ня ўспела ўцячы.

### 139. Дзед бабе кажух шыіць

Дзед бабе кажух шыіць,
Бабіна душа ныіць.
Дзед бабе кажух пашыў,
Сем раз на начы прасіў.

### 140. Бітая дарога, як ток

Бітая дарога, як ток,
Лепшая пападдзя, як поп —
Пападдзя кашулю шыла,
А трасца папа біла!

### 141. Пападдзя пшаніцу жала

Пападдзя пшаніцу жала,
На папа трасца напала.
— Вот табе, попя, за тоя,
Ні хадзі ў жыта чужоя.

## 142. Дарога, як ток, як ток

Дарога, як ток, як ток,
Лепшая пападдзя, як поп.
Пападдзя пшанічку жала,
На папа трасца напала.
Вось табе, попе, за тое,
Не гані пападдзю у поле.

## 143. Лепшая дарожка, як ток

Лепшая дарожка, як ток,
Лепшая пападдзя, як поп.
Пападдзя пшаніцу жала,
На палі заначавала.
Пайшоў поп снапы насіць,
Пападдзю дамоў прасіць.
Поп пападдзю дамоў вядзець,
Пападдзя дамоў ня йдзець.

## 144. Папання пшаніцу жала

Папання пшаніцу жала,
У полі заначавала.
Пайшоў поп снапы насіць,
Папанню дамоў прасіць.
Вось табе, попе, за тое,
Не пускай папанню у поле.

## 145. Цярэшка, Цярэжухна

Цярэшка, Цярэжухна
Цірaз бор дорожухна,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі куханая.
Лепшая дарожка, як ток,
Лепшая пападдзя, як поп.
Пападдзя пшаніцу жала,
На полі заначавала.
Пашоў поп снапы насіць.
Пападдзю дамоў прасіць.

### 146. Бітая дарожка, як ток

Бітая дарожка, як ток,
Лепшая пападдзя, як поп.
Пападдзя пшанічку жала,
У полі заначавала.
У полі пад ёлкаю
З маладым Міколкаю.

### 147. Біласяшаўчыха з шаўцом

Біласяшаўчыха з шаўцом,
Выбіла зубы чапцом.
— Вот табе, шавец, за тое,
Не сучы дратвы ўтрое,
У мяне лён ня родзіць,
На дратву многа уходзіць.

### 148. Біласяшаўчыха з шаўцом

Біласяшаўчыха з шаўцом,
Выбіла зубачкі чапцом.
— Во табе, шэўчык, за тое,
Ні сучы дратвы ўтрое,
У мяне лянок ня родзіць,
На дратву многа выходзіць.

### 149. Біласяшаўчыха з шаўцом

Біласяшаўчыха з шаўцом,
Выбіла тры зубы чапцом.
— Вот табе, шавец, за тое,
Не сучы дратвачкі ўтрое,
У мяне лён і ня родзіць,
На дратву многа выходзіць.

### 150. Біласяшаўчыха з шаўцом

Біласяшаўчыха з шаўцом,
Выбіла зубы чапцом.

— Гэта табе, шэўчык, за тое,
Каб ня віў дратву ўтрое.

### 151. На печы каток мурчыць

На печы каток мурчыць,
У Мані жыватсок баліць.
На печы катуська курняў,
Іванечка Маню абняў.
Іванечка, ратуй, ратуй,
Люлечку гатуй, гатуй.
Люлечка дубовая,
Дзіцяці гатовая.

## 1.2. ПРЫПЕЎКІ ДА «ЛЯВОНІХІ», ЯКІЯ СПЯВАЮЦЬ ПАД ЧАС «ПЕРАКРУЧВАННЯ» ПАР

### 152. Kaцілася калясо з клеці

Kaцілася калясо з клеці,
Ой, жывіце харашо, дзеці.

### 153. Божа мой, галоўка баліць

*Цярэшка:* Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзетак пажаніць,
Якую раду прасіць,
Як там парадак зрабіць.
(І) Валічка — дачушачка,
Колічка — сынулічка,
Ай, роўная парачка й,
Нам гарэлкі чарачка.
*Лявоніха:* Kaцілася калясо з клеці,
Любіцеся харашо, дзеці,
Ня біцеся, не сварыцеся,
У загрудкі не вадзіцеся!

### 154. А як я дзеда не мела

*Цярэшка:* А як я дзеда не мела,
Тады я без хлеба ела,

Цяпер я дзеда маю,
Із хлебам паядаю.

*Лявоніха:* Досыць, досыць да Каляд хлеба,
Па Калядах пазычаць трэба!

### 155. Цярэшка, Цярэшачка

*Цярэшка:* Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожачка,
Бітая, таптаная,
А я ў мамкі каханая.

*Лявоніха:* Хто Цярэшку жаніць будзе,
Той ў золаце хадзіць будзе.
Я Цярэшку жаніць буду,
Я ў золаце хадзіць буду.

### 156. Цярэшко, Цярэшанько

*Цярэшка:* Цярэшко, Цярэшанько,
Мой дзедзька пацешухно.
Я свайму дзядуленьку
Пашыю кашуленьку.
Тонкую, бялень(і)кую,
З паперам раўнень(і)кую.

*Лявоніха:* А я свайму мужыку на бяду
Поўну хату ды дзяцей навяду.

### 157. Стаіць бярозка нецярэбленая

Стаіць бярозка нецярэбленая,
На ёй лісцейка сярэбраная.
Хто бярозку церабіць будзіць,
Той у золаце хадзіць будзіць.
Я бярозку церабіць буду,
Я й у золаце хадзіць буду!

### 158. Туды-сюды дубіну нахіну

Туды-сюды дубіну нахіну,
Каля дуба жалудоў набяру,

Каля дуба ўсё атростачкі,
Пагуляйце, мае сёстрачкі.
Пагуляйце вы цяпер, вы цяпер,
Як ні маіця малюсінькіх дзяцей,
А як будзіця малых дзетак мець,
Тады будзіця ў запечку сядзець.

### 159. А выйду я на вуліцу, гукну

А выйду я на вуліцу, гукну,
Праляцела зязюлічка к акну.
А шэрая зязюлічка, скажы мне,
У каторай мой дзядулька старане.

### 160. У калодцы ваду чэрпала

У калодцы ваду чэрпала,
Упусціла туды зеркала,
Упусціла, скалыхнулася,
Палюбіла, не ашыбнулася.

### 161. А ці мой, ці ня мой будзеш

А ці мой, ці ня мой будзеш,
Нашто маё сэрца нудзіш?
Не будзеш ты — будзе другі,
Не надавай сэрцу нуды.

### 162. А ці мой, ці ня мой будзіш

А ці мой, ці ня мой будзіш,
Нашто мяне, маладу, гудзіш?
А ці мой, ці ня мой станіш,
Нашто мяне, маладу, ганіш?

### 163. Ці мой, ці ня мой будзіш

Ці мой, ці ня мой будзіш,
Нашто мяне, маладую, гудзіш?

Ці мой , ці ня мой станіш,
Нашто мяне, маладую, ганіш?
Ці мой, ці ня мой станіш,
А нашто ж ад мяне уцякаіш?

## 164. Ці ты мой, ці ня мой будзіш

Ці ты мой, ці ня мой будзіш,
Нашто мяне, маладу, гудзіш?
Ці ты мой, ці ня мой станіш,
Нашто мяне, маладу, ганіш?
А каб табе пад бакі колька,
Як я мела дзяцюкоў столька,
А каб табе пад бакі раны,
Як ты мяне, маладу, зганіў.

## 165. А пайду [redacted] каля 'лешнічку

А пайду [redacted] каля 'лешнічку,
Каля белага бярэзнічку,
А й баюся, каб і воўк ня з'еў,
І харошы кавалер ня звёў!

## 166. Як пайду [redacted] каля ельнічку

Як пайду я каля ельнічку,
Каля белага бярэзнічку,
А й баюся, каб і воўк ня з'еў,
Харошанькі кавалер ня звёў!

## 167. А пашла я кала ельнічку

А пашла я кала ельнічку,
Кала белага бярэзнічку,
Ах, чуць мяне воўк ня з'еў,
Ў тую пору маладзец паспеў:
Ухваціў мяне ў ахапачкі
Да панёс мяне дахатачкі...

## 168. Ой ты мілы мой, мілюсінькі

Ой ты мілы мой, мілюсінькі,
Вядзі ж мяне памалюсіньку,
Ні вядзі мяне ні ў лес і ні ў бор,
Вядзі ж мяне да татулькі у двор,
Ні вядзі мяне ні ў лес і ні ў сад,
Завядзі мяне к татульку назад.

## 169. Ой ты дзевір-дзевярусенька

Ой ты дзевір-дзевярусенька,
Вядзі мяне паціхусіньку.
Ні вядзі мяне па пожаньца,
Вядзі мяне па дарожаньца.
Па пожаньца мае ножкі ня йдуць,
Па дарожца яны самі бягуць.

## 170. Ці я табе ні варыла гароху

Ці я табе ні варыла гароху,
Ці я цябе ні любіла ні троху?
А я ж табе гарашок варыла,
А я ж цябе харашо любіла!

## 171. А Лявон Лявоніху палюбіў

А Лявон Лявоніху палюбіў,
Лявонісі чаравічкі купіў.
Лявоніха, душа ласкавая,
Чаравічкамі палярсківала.

## 172. А Лявоніха ня жонка была

А Лявоніха ня жонка была,
Нямытаю рубашонку дала,
Нямытаю, нікачанаю,
У суседа пазычанаю.

## 173. Лявоніха ліха мачыха была

Лявоніха ліха мачыха была,
Нісалёнаю капусту дала,
А пасынка дык і чорт ні бярэць,
Нісалёнаю капусту жарэць.

## 174. З добрым мужам мне вячок векаваць

З добрым мужам мне вячок векаваць,
Дробных дзетак калыхаць, гадаваць.
А чорт жа іх накалышыцца —
Па сямёра у калысачца,
А чорт жа іх налюляіцца —
Штогадочык прыбаўляіцца!

## 175. Упілася на мяду саладу

Упілася на мяду саладу,
А божа ж мой, я й дамоў ні зайду.
А божа ж мой, а мілюсенькі,
А мой мілы жа п'янюсенькі.
І дамоў весці — ён паваліцца,
Тут пакінуць — ён збадзяіцца.
Пайду дамоў па намётачку,
Найму ж яму я падводачку,
Павязу яго дахатачкі,
Да цісовенькай крыватачкі.

## 176. А казалі, што тут свадзьба была

А казалі, што тут свадзьба была,
Засталіся толькі хмель да дуда.
Дуда кажыць: ду-ду-ду, ду-ду-ду,
А хмель кажыць: тут буду, тут буду.

## 177. Ты мой дзед, ты мой дзед

— Ты мой дзед, ты мой дзед,
А я твая бабка,

Шануй мяне, гадуй мяне,
Каб я была гладка!

— Шанаваць буду,
Гадаваць буду,
А прыдзіць ноч —
Цалаваць буду!

## II. ПЕСНІ-ЦЯРЭШКІ, КАЛІ «ПАЖЭНЕНЫЯ» ЛОВЯЦЬ АДЗІН АДНАГО

### *1. ПЕСНІ ХЛОПЦА-«ДЗЯДУЛЬКІ», КАЛІ ЁН ЛОВІЦЬ СВАЮ «БАБУЛЬКУ»*

#### 1.1. ЗАХОПЛЕНАСЦЬ «БАБУЛЬКАЙ», ВЫКАЗВАННЕ РАШУЧАСЦІ ЗЛАВІЦЬ ЯЕ, НАМАЎЛЕННЕ НЕ ЎЦЯКАЦЬ

**178. Высака арол ляцеў**

Высака арол ляцеў,
Далі мне, каго я хацеў,
Тонкую, высокую,
Крэпка недалёкую.

**179. А мая бабулечка**

А мая бабулечка,
Вішанька й налітая,
З гэтай жа Цярэшачкі
Будзеш незабытая!

**180. Цярэшка, Цярэжынька**

Цярэшка, Цярэжынька,
Ціраз бор дарожынька,
Ой, люлі, люлі і люлі,
Ціраз бор дарожынька.

Цераз бор дарожынька
Бітая, таптаная,
Ой, люлі, люлі, люлі,
Бітая, таптаная.

А на тый дарожачца
Ішла мая дзевачка,
Ой, люлі, люлі, люлі,
Ішла мая дзевачка.

Ішла мая дзевачка
Ой, мне да каханая,
Ой, люлі, люлі, люлі,
Ой мне да каханая.

## 181. Паіў я коніка ў вядрэ

Паіў я коніка ў вядрэ,
Відзеў я рыбачку на дне.
Смачная рыбачка язёк,
Пацалуй, бабулька, разок.
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, бабулька, хоць раз.

## 182. Смачная й рыбачка шчучка

Смачная й рыбачка шчучка,
Белая ў бабулькі ручка,
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, бабулька, хоць раз.

## 183. І паіў я коніка ў вядрэ

І паіў я коніка ў вядрэ,
Відзіў я рыбачку на дне.
І добрая рыбачка карась,
Пацалуй, бабулька, хоць раз.

## 184. Пайду я на рэчку, на стаў

Пайду я на рэчку, на стаў,
Сам сабе рыбінку дастаў.
Смачная рыбінка шчучка,
Мяккая ў дзяўчыны ручка.
Смачная й рыбка карась,
Пацалуй, дзяўчынка, хоць раз.

### 185. Хуць жа я павалюся

Хуць жа я павалюся,
За бабай паганюся,
Хуць жа я ножачку зламлю,
А я сваю бабачку злаўлю.

### 186. Хоць жа ■ павалюся

Хоць жа я павалюся,
За бабкай паганюся,
Хоць жа я ножачку зламлю,
Так я бабулечку злаўлю.

### 187. Паіў я коніка ў вядрэ

Паіў я коніка ў вядрэ,
Відзіў я мілую на дне.
Ходзь бы я з коніка састаў,
Каб я мілую дастаў.

### 188. Галоўка баліць, баліць

Галоўка баліць, баліць,
Як жа мне бабульку злавіць?
Хоць жа я й павалюся,
За табой паганюся,
Хоць жа я ножку зламлю,
Я ж сабе бабульку злаўлю.

### 189. На небі зорачка ды ясна

На небі зорачка ды ясна,
У суседа дзеўка прэкрасна.
Хоць жа я ў бяду ўпаду,
У суседа дзеўку ўкраду,
Хоць жа коніка п(а)радам,
Суседу дзеўку ня 'ддам.

### 190. На небе зорачка ясна

На небе зорачка ясна,
У суседа дзевачка красна.
Хоць жа я ў бяду ўпаду,
Ў суседа дачку ўкраду,
Хоць жа [redacted] й у другую,
Суседу не дарую.

### 191. На небі зара ясна

На небі зара ясна,
У суседа дачка красна.
Хуць я й у бяду ўпаду,
У суседа дачку ўкраду,
Хуць я коніка прадам,
Суседу дачку ні іддам.
Да хуць я павалюся,
За дачкой паганюся,
Хуць я ножачку зламлю,
Суседа дачку злаўлю.

### 192. На небі зорачка ясна

На небі зорачка ясна,
У суседа дзевачка красна.
Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзеўку злавіць.

### 193. На небі зорачка ясна

На небі зорачка ясна,
У суседа дзеўчына красна.
Хуць жа я ў бяду паду,
Суседа дзяўчыну ўкраду,
Хуць жа я коніка прадам,
Суседу дзяўчыны ні дам.

### 194. Паіў я каня ў ярку

Паіў я каня ў ярку,
Відзіў я дзеўку ў вянку.

Хоць жа я ў бяду ўпаду,
У суседа дзеўку ўкраду,
Хоць я коніка прадам,
Суседу дзяўчыну не 'ддам.

### 195. Паю ■ коніка ў вядрэ

Паю я коніка ў вядрэ,
Віджу ■ дзевачку на дне,
І белую, румяную,
І тонкую, высокую.
А хоць я ў бяду ўпаду,
У суседа дачку ўкраду,
Хоць жа коніка прадам,
Суседу дачку не 'ддам.

### 196. Паіў ■ коніка ў вірку

Паіў я коніка ў вірку,
Відзеў я дзяўчыну ў вянку,
Паіў я коніка ў вядрэ,
Відзеў я дзяўчыну на дне.
Хоць жа я з коніка ўпаду,
У суседа дзяўчыну ўкраду,
Хоць жа я коніка прадам,
Нікому дзяўчыны ня 'ддам,
Хоць жа я коніка збуду,
Я з гэтай дзяўчынай буду.

### 197. Вячэрняя зара ясна

Вячэрняя зара ясна,
А ў суседа жана красна.
— Давай, сусед, мяняць будзем,
Давай, сусед, мяняць будзем,
А я табе каня з сядлом,
А дай жа мне жану з сярпом.
— Не нада мне твой конь з сядлом,
Ні дам табе жану з сярпом.
— А хоць жа я ў бяду ўпаду,
А я ў цябе жану ўкраду,

А хоць жа я павалюся,
А за жаной паганюся.

## 198. Дзевачкі-пралесачкі

Дзевачкі-пралесачкі,
Ня йдзіця па арэшачкі,
Ой, ня йдзіця вы самі,
Спаткаіціся з ваўкамі.

На ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!

Або вы заблудзіця
І арэшкі пагубіця,
Або вас што спужаіць —
Ня куждая да й сэрца маіць.

Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!

Дзевачкі шаху, шаху,
Што ў вашым мяху, мяху?
Шпілечкі, іголачкі
Залатыя пярсцёначкі.

Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!

Іголачкі на хустачкі,
Шпілечкі на ўстужачкі,
А пярсцёначкі к вяселійку,
У тую, што будзіць, нядзелíньку.

Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!

А паждзіця, не ўцякайце,
Сваю ручку да й нам дайце,
Сваю ручку да й нам дайце,
Добрым слоўкам прывітайце.

Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!

### 199. Ні ўцікай, бабулька, бягом

Ні ўцікай, бабулька, бягом,
Запала сцежачка снягом.
Ні ўцікай, бабулька, дужа,
На дварэ бальшая сцюжа.

### 200. Ні ўцікай, бабулічка

Ні ўцікай, бабулічка,
Ні ўцікай, зязюлічка.
Ці цябе наўчыла маці
Ад мяне ўцікаці?

### 201. Не ўцякай, бабулька, бяжком

Не ўцякай, бабулька, бяжком,
Запала сцежачка сняжком.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Падмяціце сцежачку мне.

### 202. Здайся, бабулька, здайся

Здайся, бабулька, здайся,
На другіх не заглідайся.
Другія з ума звядуць,
Нам з табой разлуку дадуць.

### 203. Бабулька, здайся, здайся

Бабулька, здайся, здайся,
На другіх не спадзявайся,
Другія ня лепшыя,
Горшыя, пушчэйшыя,
Другія цябе спадмануць
І боцікі з ножак здзяруць.

## 204. А дайся, бабулька, дайся

А дайся, бабулька, дайся,
На другіх ні заглідайся,
На другіх загледзішся,
На мяне забудзішся.

## 205. Ой, бабка, здайся, здайся

Ой, бабка, здайся, здайся,
На другіх ні заглядайся,
Другія ня лепшыя,
Горшыя, пушчэйшыя.
На другіх толькі глядзець можна,
А жыць з імі ня можна.

## 206. А мая ж бабулячка

А мая ж бабулячка,
А я твой дзядулячка.
Ці ж я табе лапцей не сплёў,
Ці ж я табе абор не звіў?
Лапцікі ліповыя,
Аборкі пяньковыя,
Анучкі бяленькія
А для сваей міленькай.

## 207. Ня ўцякай, бабулячка

Ня ўцякай, бабулячка,
А я ж твой дзядулячка.
Ня ўцякай, каток шэры,
Пашыю кажух белы,
А другі із мядзвядзей,
Каб з табой жылі мілей.

## 208. Не ўцякай, бабулечка

Не ўцякай, бабулечка,
Я ж твой дзядулечка.

Не ўцякай, бабка-заранка,
Каб табе ў бакі разанка.

### 209. Выйду я на вулку, гукну

Выйду я на вулку, гукну,
Прыляці, зязюлька, к акну,
А шэрая зязюлька, скажы мне,
У каторай бабулька старане?

## 1.2. ПАДСМЕЙВАННЕ «БАБУЛЬКІ»

### 210. За сто злотых

За сто злотых
Стаптаў боты
За табою ходзячы,
За трыццатку
Згнаіў шапку
Пад страхою стоячы.

### 211. Дам я бабцы дуката

Дам я бабцы дуката,
Каб наняла адваката.
Адвакат набрэшацца,
А мая бабка нацешыцца.

### 212. Дзядулька бабульку любіў

Дзядулька бабульку любіў,
Пад плотам лазеньку зрубіў.
Бабулька, царыца мая,
Халодна лазенька твая.

### 213. Бабулька, царыца мая

Бабулька, царыца мыя,
Каротка спадніца твыя,

Ці ў цябе трубачак німа,
Каротка ж спадніца твыя.

### 214. Цярэшка, Цярэжыла

Цярэшка, Цярэжыла,
На печы ня ўляжала,
А з печы звалілася,
За дзеда ўчапілася.

Бабулька, царыца мая,
Каротка спадніца твая,
На печы ўсё ляжала,
На спадніцу не наткала.

### 215. Бабулька, царыца мая

Бабулька, царыца мая,
Каротка спадніца твая.
Ці ты ўсе ночачкі спала,
Што ў цябе трубачак мала?
Прала тонелька-танюсенька —
З пальчыкам раўнюсенька.

### 216. Пайду ■ праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
Ой, прадзець, прадзець і мігціць,
Паложыць ручачкі ды й спіць.

### 217. Пайду я праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
Тоненька-танюсенька,
З пальчыкам раўнюсенька.
Калаўрот мігціць, мігціць,
Бабулька на прасніцы спіць.

### 218. Пайду я праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як мая міла прадзець.
Тонeнька-танюсенька,
З пальчыкам раўнюсенька.

### 219. Пайду праз аконца глядзець

Пайду праз аконца глядзець,
А як мая бабка прадзець.
Прадзець жа танюсенька,
З пальчыкам раўнюсенька.

### 220. Пайду я праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
Прадзець яна танюсінька,
З пальчыкам раўнюсінька.

### 221. Пайду ■ праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець,
Калаўроцік яе аж мігціць —
Злажыла ручачкі ды й спіць.

### 222. Пайду я праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець
Дзе мая мілая прадзець,
Прадзець і мігціць, мігціць,
Выведзець нітачку і спіць,
Тонкую-таненькую,
З пальчыкам раўненькую.

### 223. Пайду я праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
А прадзець, прадзець, мігціць,
Палажыла ручкі і спіць.
Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
А выводзіць нітачку,
Як кабылля лытачку.

### 224. Пайду ■ глядзець, глядзець

Пайду я глядзець, глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
Прадзець жа танюсенька,
З пальчыкам раўнюсенька.

### 225. Пайду чэраз бор глядзець

Пайду чэраз бор глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
Тоненька-танёшанька,
З пальчыкам раўнёшанька.

### 226. Пайду ■ ў камору глядзець

Пайду я ў камору клядзець,
Як мая бабулька прадзець.
Цягніць іна нітачку,
Як кабылля лытачку.

### 227. Пайду я праз сад глядзець

Пайду я праз сад глядзець,
Як мая бабулька ідзець.
А яна ідзець сагнуўшысі,
Ідзець паштургнуўшысі.

## 228. Мая ж баба — бяз(і)леп'я

Мая ж баба — бяз(і)леп'я,
На галаве — пат(ы)рэп'я.
Ня ўмеець скоранька хадзіць,
Ня ўмеець дзядулькі лавіць.
Сядзіць прасці — мігціць, мігціць,
Вывідзіць нітачку ды й спіць,
Нітачка танюсінька,
З пальчыкам раўнюсінька,
А красёнцы стоючы
Зараслі бярэзнічкам,
Чоўнічак пад лаў(вы)каю
Ды зарос мураўкаю.

## 229. З-пад ганку, з-пад ганачку

З-пад ганку, з-пад ганачку
Далі мне цыганачку.
Я ні знаю, што рабіць,
Ці пакінуць, ці любіць.

## 230. І з-пад куту, з-пад кутнічку

І з-пад куту, з-пад кутнічку
Далі мне паскуднічку.
Я ні знаю, што мне рабіць,
Ці пакінуць, ці любіць.

# 1.3. ДЫЯЛОГІ СПРЭЧКІ «ДЗЯДУЛЬКІ» З «БАБУЛЬКАЙ»

## 231. Бабулька, царыца мая

— Бабулька, царыца мая,
Каротка спадніца твая.
— Дзядулька, карольчык ты мой,
Надтачы падольчык ты мой!
— А хоць я штаны ўкарачу,
Бабульцы падол надтачу.

### 232. Бабулька, царыца мая

— Бабулька, царыца мая,
Каротка спадніца твая!
— Дзядулька, саколік мой,
Надтачы падолік мой!

### 233. Бабулька, царыца мая

— Бабулька, царыца мая,
Каротка спадніца твая.
— Дзядулька, карольчык ты мой,
Надтачы падольчык ты мой.
— А хоць я штаны ўкарачу,
— Бабульцы спадніцу надтачу.

### 234. Царыца бабка, царыца

— Царыца бабка, царыца,
Каротка твая спадніца.
— Харош, мой дзедка, харош,
Парваны ў цябе калош.

### 235. Пайду ■ праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабачка прадзець.
Тоненька, танюсенька,
З пальчыкам раўнюсенька.

### 236. Пайду ■ з-за тыну глядзець

Пайду я з-за тыну глядзець,
Як жа мой дзядулька арэць.
А ён арэць ажны мігціць —
Лёг пад узвалкам ды й спіць.

## 237. Пайду я ў камору глядзець

Пайду я ў камору глядзець,
Як бабулька кросны тчэць.
Ой, тчэць яна, патыкаіць,
З рук чоўнічка ні пускаіць.

## 238. Пайду ў поле я глядзець

Пайду ў поле я глядзець,
Як мой дзядулька арэць:
Кабыла бясхвостая,
Баразна няпростая.

## 239. Пайду ■ на ніўку глядзець

Пайду я на ніўку глядзець,
Як мая бабулька жнець.
Сярпком махаіць, мігціць,
Пад·межачку ляжыць ды й спіць.

## 240. Пайду я ў балота глядзець

Пайду ў балота глядзець,
Як дзедзька сена грабець:
Улез на корч і крычыць,
Баіцца ногі замачыць.

## 241. Пайду ■ праз тын глядзець

*«Дзядулька»:* Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець,
Прадзець яна танюсінька,
З пальчыкам раўнюсінька.
*«Бабулька»:* Пайду я праз тын глядзець,
Як жа ж мой дзядулька арэць.
Арэць, паганяючы,
Кабылку падымаючы.
Кабылка бясхвостая,
Баразна няпростая.

### 242. Пайду я праз тын глядзець

*«Бабулька»:* — Пайду я праз тын глядзець,
Як мой дзядулька лапці пляцець:
Стуліць строчачкі, мігціць,
Паложыць галоўку ды спіць.
*«Дзядулька»:* — Пайду я праз тын глядзець,
Як мая бабулька прадзець:
Адцягне нітачку, мігціць,
Паложыць ручачкі ды спіць.

### 243. Пайду я праз тын глядзець

*«Бабулька»:* — Пайду я праз тын глядзець,
Як мой дзядулька арэць:
Сошачка яловая,
Упражка шаўковая,
Конік варанюсенькі,
Дзедзька маладзюсенькі.
Сошачка зламалася,
А ўпражка парвалася.
*«Дзядулька»:* — Пайду на вулку глядзець,
Як мая бабулька прадзець.
Тоненька-танюсенька,
З пальчыкам раўнюсенька.
А прадзець, прадзець — мігціць,
Пад лаўку праснічку — і спіць.

### 244. А на печы мыша рудая

*«Дзядулька»:* А на печы мыша рудая,
Мая бабулька маладая,
Як яна уберацца ў пух,
Прыедзем у сваты ўдвух.
*«Бабулька»:* Як я убяруся ў пух,
Не пайду замуж за тых двух.

### 245. Бабулька харошая

Бабулька харошая,
Ні хадзі ты босая,

Босая прастудзішся,
На мяне забудзішся,
Я ж цябе лавіць буду,
Злавіўшы, любіць буду,
Пойдзеш ты на ніўку жаць,
Я прыду снапкі вязаць.

## 2. *ПЕСНІ ДЗЯЎЧЫНЫ-«БАБУЛЬКІ», КАЛІ ЯНА ЎЦЯКАЕ АД «ДЗЕДА»*

### 246. Белая бярозачка

Белая бярозачка,
Ой, да нізу клоніцца.
Пусціце мяне, дзевачкі,
За мной мілы гоніцца.

### 247. Мой мілы бяжком бяжыць

Мой мілы бяжком бяжыць,
Аж пад ім зямелька дрыжыць.
А я памалюсеньку —
Я ж яму мілюсенька.

### 248. І з-пад маста й рэчачка цікла

І з-пад маста й рэчачка цікла,
Я 'д свайго дзядулькі ўцікла,
Уцікла, (а)глянулася,
Яму наругнулася.

### 249. З-пад аконца рэчачка цікла

З-пад аконца рэчачка цікла,
Я 'д свайго дзядулькі ўцікла,
Уцікла, 'глянулася,
Яму наругнулася.

### 250. З-пад акна рэчачка цякла

З-пад акна рэчачка цякла,
Я 'д свайго дзядулькі ўцякла,

Уцякла, аглянулася,
Яму наругнулася.

## 251. З-пад акна рэчачка цікла

З-пад акна рэчачка цікла,
Я 'д свайго дзядулькі ўцікла,
Бігучы 'глянулася,
Дзеду наругнулася.
Ні бяжы, дзядулька, бягом,
Мы з табой памалу пайдзём,
Пройдзем, палюбуемся,
Станем, пацалуемся.

## 252. Казалі мой дзед нічога

Казалі мой дзед нічога,
Насеяў пшанічкі многа.
Пшанічка ні ўдалася,
Я ўдавой засталася.

## 253. Казалі, мой дзедка нічога

Казалі, мой дзедка нічога,
Насеіў пшанічкі многа.
Пшанічка калосіцца,
За мной дзедка носіцца.

## 254. На вакне рутачка цвіла

На вакне рутачка цвіла,
Я ад дзядулькі ўцякла.
Цяпер я й пабегаю,
Як рыбка па берагу,
Цяпер я й пагуляю,
Як рыбка на Дунаю.

### 255. Дзядулька, прашу цябе

Дзядулька, прашу цябе,
Ні лаві скора мяне.
Я ж табе відаць буду,
А й дзе [redacted] гуляць буду.
Хоць жа я пагуляю,
Як рыбка па Дунаю,
Хоць жа я пабегаю,
Як рыбка й па берагу.

### 256. Ні лаві, дзядулічка

Ні лаві, дзядулічка,
Ні лаві, зязюлічка,
Хоць жа [redacted] пабегаю,
Як рыбка па берагу,
Хоць жа я пагуляю,
Як рыбка на Дунаю.

### 257. Пайду я, пабегаю

Пайду я, пабегаю,
Як рыбка па берагу,
Пайду ж я, пагуляю,
Як рыбка па Дунаю,
Пайду ж, устрапянуся,
Нікога ж я не баюся.

### 258. Ні бяжы, дзядулька, бяжком

Ні бяжы, дзядулька, бяжком,
Запала дарожка сняжком.
Дайце ж мне скарэй мятлу,
Я ж дзедзьку сцежку змяту.

### 259. Раскажы, дзядулька, ты мне

Раскажы, дзядулька, ты мне,
Ці з ахотай ходзіш, ці не?

Калі ты з ахотаю,
За табой палётаю,
А калі біз ахоты —
Не тапчы напрасна боты.

## 260. Ой, скажы, дзядулька, ты мне

Ой, скажы, дзядулька, ты мне,
Ці з ахвотаю ловіш мяне?
Калі ты з ахвотаю,
За табой палётаю,
А калі без ахвоты —
Не буду таптаць боты.

## 261. Чаго ж ты за мною ходзіш

Чаго ж ты за мною ходзіш,
Нашто ж ты боцікі топчыш?
Боцікі шаўровыя,
Падвязкі шаўковыя.

## 262. Мой дзедзька папуць, папуць

Мой дзедзька папуць, папуць,
Вялікі пархуць, пархуць:
Ня ўмеіць скарынька хадзіць,
Ня ўмеіць бабачкі лавіць!

## 263. Дзядулька папуць, папуць

Дзядулька, папуць, папуць,
Не ўмееш бабульку хапнуць,
Не ўмееш скоранька хадзіць,
Не можаш бабульку злавіць.
— Дзевачкі, сястрыцы мае,
Злавіце бабульку вы мне.

## 264. Дзядулька камкуць(і), камкуць

Дзядулька камкуць(і), камкуць,
Ня ўмеіць ножачкай тапнуць,

Ня ўмеіць скоранька хадзіць,
Ня ўмеіць бабульку лавіць,
Ня ўмеіць араць касіць,
Ня ўмеіць бабульку прасіць.

### 265. Мой мілы камкуць, камкуць

Мой мілы камкуць, камкуць,
Ня умеіць ножачкай тапнуць,
Ня умеіць ціханька хадзіць,
Ня ўмеіць хараша любіць.

### 266. Мой мілы камкуць, камкуць

Мой мілы камкуць, камкуць,
Ня ўмеіць ножычкай тапнуць,
Ня ўмеіць Цярэшкі жаніць,
Ня ўмеіць мілаю лавіць.

### 267. Мой дзедзька камкуць, камкуць

Мой дзедзька камкуць, камкуць,
Ня ўмеіць ножачкай тапнуць,
Ня ўмеіць хараша хадзіць,
Ня ўмеіць дзевачак лавіць.

### 268. Мой мілы камкуць(і), камкуць

Мой мілы камкуць(і), камкуць,
Ня ўмеець лапцей абуць,
Ня ўмеець араць(І), касіць,
Прыдзецца суседаў прасіць.

### 269. Цярэшка хахуць, хахуць

Цярэшка хахуць, хахуць,
Мой дзедзька паркуць, паркуць —
Маленькі, нядужанькі,
Стары, недасужанькі.

### 270. Казалі, мой дзед хіцёр

Казалі, мой дзед хіцёр,
Чаму ж ён носа не абцёр?
А ён ходзіць, топаіць,
З носа у рот хопаіць.

### 271. За гарой сабакі брэшуць

За гарой сабакі брэшуць,
Мой мілы дарогай чэшыць,
Чэшучы прызастаўся:
На ножца боцік стаптаўся,
А ў штанах матуз парваўся.

### 272. За ракой сучачка брэшыць

За ракой сучачка брэшыць,
Мой дзедзька пяхотай чэшыць,
У пяхоці празастаўся:
У штанёх матуз парваўся.
— Дзевачкі, сястрыцы мае,
Падвяжыце штонікі мне.

### 273. За ракой сабачка брэшыць

За ракой сабачка брэшыць,
Мой дзедзька пяхотай чэшыць,
Чэшучы, ён прызастаўся:
На ножца боцік стаптаўся,
На ножца боцік стаптаўся,
У штанёх матуз парваўся.
— Бабулька, скарэй бяжы,
У штанёх матуз звяжы.

### 274. Пайду ■ Цярэшку жаніць

Пайду я Цярэшку жаніць,
А за мной дзядулька бяжыць.
Божа мой, багата хата,
Далі мне дзеда-салдата.

### 275. Пайду я кароўку даіць

Пайду ■ кароўку даіць,
Аж за мной дзядулька бяжыць,
Дзядулячка, дзядулячка,
Я ж твая бабулячка.

### 276. Шэрая зязюлечка

Шэрая зязюлечка
У садочку кукавала,
Усю гэту нядзелячку
Дзядульку выбірала.
Ах, ты мой дзядулячка,
Я ж твая бабулячка,
Каб цябе каршун задраў,
Як ты мне хвартух падраў,
Каб цябе пятух забіў,
Як жа ты мяне любіў!

### 277. Бадай ця кадук стаптаў

Бадай ця кадук стаптаў,
Як ты мне хвартух падраў!
Гэта мне татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў,
Мне мамка саян пашыла,
Каб мяне шляхта любіла!

### 278. Пашла ж я кароў даіць

Пашла ж я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
Кінула даёначку
Давыду ў галёначку.

### 279. І Давыдзька, Давыдзіла

І Давыдзька, Давыдзіла,
Я цябе ня відзіла,

Кінула даёначку
Давыдзьку ў галёначку.

### 280. Пайду я кароў даіць

Пайду я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
А мой ты Давыдзіла,
Я цябе ня відзіла.
Каб цябе кадук стаптаў,
Як ты мне хвартух падраў!
Гэта мне татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў.

### 281. Каб цябе кадук задраў

Каб цябе кадук задраў,
Як ты мой хвартух падраў!
Гэта ж мне татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў.
А мамуся пашыла,
Каб сто год я насіла.

### 282. Ішла [redacted] кароўку даіць

Ішла я кароўку даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
Каб яго, Давыдзіла,
Як яго ня відзіла!
Як кіну даёначку
Давыду ў галёначку,
Каб яго кадук узяў,
Як ён мой хвартух падраў,
Што ж(а) мне татусь (і) купіў,
Каб мяне Пятрусь (і) любіў.

### 283. Пайду я кароў даіць

Пайду я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.

Каб цябе, Давыдзіла,
Я ж цябе ня відзіла,
Каб цябе кадук стаптаў,
Як ты мне хвартух падраў!
Гэта мне татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў,
Гэта мне матуся дала,
Каб за Пятрусём была.

## 284. Пайду ж я каровак даіць

Пайду ж я каровак даіць,
А за мной Давыдка бяжыць.
Кіну ж я й даёначку
Давыду ў галёначку.
Каб цябе й кадук растаптаў,
Як ты мой хвартух тут падраў!
Мне хвартух татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў.

## 285. Пайду я кароў даіць

Пайду я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
Каб цябе, Давыдзіла,
Я ж цябе ня відзіла.
Я яго даёначкай,
А ён мяне вяровачкай.
Каб цябе кадук разадраў,
Як ты мой хвартух падраў!
Гэта ж мне татусь купіў,
Каб мяне Габрусь любіў.

## 286. Пайду я кароў даіць

Пайду я кароў даіць,
Ай за мной Давыд бяжыць,
Як кіну даёначку
Давыду ў галёначку.
Каб цябе, Давыдзіла,
Я ж цябе ня відзіла.

Каб цябе кадук забраў,
Як ты мне хвартух падраў!

### 287. Як пайду кароў даіць

Як пайду кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
Ой, Давыд-Давыдзіла,
Даўна цябе відзіла!
Як кіну даёначку
Давыдзьку ў галёначку.
Ой, Давыд-Давыдзіла,
Чым цябе абідзіла?

### 288. Пайду я кароў даіць

Пайду я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
Пушчу я даёначку
Давыду ў галёначку.
А мой ты Давыдзіла,
Я ж цябе ня відзіла!

### 289. Пашла баба кароў даіць

Пашла баба кароў даіць,
А за ей Лівон бягіць.
Брошу я даёначку
Ў Лявонаву галёначку.

### 290. Пайду я кароў даіць

Пайду я кароў даіць,
А ў хлеві Давыд стаіць.
Я яго даёначкай,
Ен мяне валёначкам.
Каб цябе кадук узяў,
Як ты мне хвартух падраў.
Пайду я дарожанькай,
Пайду я шырокаю,

Найду стада курэй, курэй,
Пеўніка ніводнага.
Вы, куркі, ні сакачыце,
Галоўкі ні клапачыце,
Есць у мяне рэшата пер'я,
Куплю вам пітушка-пеўня.

### 291. Ахці мне, вяліка бяда

Ахці мне, вяліка бяда,
Далі мне старога дзяда.
Стары дзед на печы ляжыць,
У руках вяроўку дзяржыць.
А мой ты Давыдзіла,
Я ж цябе ня відзела.
Як пашла карову даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
Я да яго з даёначкай,
Ен жа мне — з вяровачкай.

### 292. Цярэшку цярэжала

Цярэшку цярэжала,
На печы не ўлежала.
Пайду я каровы даіць,
А за мной жа бык бяжыць.
Каб цябе каршун задраў,
Як жа ты мне хвартух парваў!

### 293. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожачка,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Як пайду кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць,
Я пушчу даёначку
Давыду ў галёначку.
А мой ты Давыдзіла,
Я ж цябе не відзіла!

### 294. На вуліцы гуслі граюць

На вуліцы гуслі граюць,
Мяне стары не пускаець.
Пайду гусенькі глядзець —
За мной стары дзед ідзець,
У руках бізун нясець.
Стаў ён па плечыках мне сеч.
Я ў яго прасілася,
Я ў яго малілася:
«Ой, не бі, дзядулька, болей,
Не пайду без тваёй волі».

### 295. А божа мой, божа, бяда

А божа мой, божа, бяда:
Далі мне старога дзяда,
Старога-старлівага
І таго журлівага.
На вуліцы скрыпка йграіць —
Стары гуляць не пускаіць.
За мной, маладой, ідзець,
У руках бізун нясець.
Я ў яго прасілася,
Я ў яго малілася;
«Не бі, дзядулька, болей,
Не пайду без тваёй волі».

### 296. Пайду я гусей глядзець

Пайду я гусей глядзець,
А за мной дзядулька йдзець,
А за мной дзядулька йдзець,
Пад палой бізун нясець.
— Ня бі мяне, дзедзічка,
Ой, ня бі, лябедзічка,
Ні пайду без цябе болі,
Ні пайду без тваёй волі.

### 297. На дварэ явор зялён

На дварэ явор зялён
Карэннім абярнуўся,

Хоць бы мой дзядулячка
З дарожкі не вярнуўся
Пайду я ў вакно глядзець,
Ажно й мой дзядулька ідзець,
Ажно мой міленькі ідзець,
А ў руках бізун нясець.
Я, млода, пакаруся,
Нізенька пакланюся,
Дзядульку і жаль станіць,
Біць мяне пірастаніць.

### 298. Стары дзед на печы сядзіць

Стары дзед на печы сядзіць
І ў руках бізун дзяржыць.
Мой жа ты дзедзечка,
Мой жа ты лябедзечка,
Пасядзі на печы ў кутку,
Пакуль [redacted] штонікі вытку.
І вытку, і пашыю,
І дам табе тройчы ў шыю.
А тады ўжо ты, дзедзечка,
А тады ўжо ты, лябедзечка,
А тады ўжо, дзедзя-лябедзя,
Нап'емся піва па абедзе.

### 299. Мой дзядулька языка ні маіць

Мой дзядулька языка не маіць,
Адвыката наймаць,
Адвыкат набрэшыцца,
Дзядулька нацешыцца.

### 300. Ня топай, дзядулька, нагой

Ня топай, дзядулька, нагой,
Ні лягу я спаць з табой,
Бо я нівянчоная —
На вечар злучоная.

## *3. ПЕСНІ ДЗЯЎЧЫНЫ-«БАБУЛЬКІ», КАЛІ ЯНА ЛОВІЦЬ СВАЙГО «ДЗЯДУЛЬКУ»*

### 3.1. ЗАКЛАПОЧАНАСЦЬ «БАБУЛЬКІ» ЎДЗЕЛАМ У «ЦЯРЭШЦЫ», ВЫКАЗВАННЕ РАШУЧАСЦІ ЗЛАВІЦЬ «ДЗЕДА»

**301. І выйду на вулку, гукну**

І выйду на вулку, гукну,
Ляціць зязюлька к акну,
Памажы песенькі піяць,
У раду дзядульку спаймаць.

**302. Ах ты мой дзядулічка**

Ах ты мой дзядулічка,
Я ж твая бабулічка!
Дай божа пагнаціся,
З дзядулькам пазнаціся.

**303. І пайду я Цярэшку жаніць**

І пайду я Цярэшку жаніць,
Аж(ы) мая галоўка баліць,
Ні магу на дзеда глянуць,
І ні магу я дзеда злавіць,
Аж мае ручачкі млеюць,
Аж(ы) мае ножачкі ня йдуць.

**304. Пайду я Цярэшку жаніць**

Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка баліць,
Аж мае ножачкі млеюць —
Не магу за дзедам бегаць.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Злавіце дзядульку вы мне.

**305. І пайду я Цярэшку жаніць**

І пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка баліць,

Аж мае ножачкі млеюць —
Не магу за дзедкам бегаць.
Дзевачкі, расхініціся,
Каб жа не паваліціся.
Хлопчыкі, з дарожачкі,
Каб не паламаць ножачкі.

### 306. Пайду ■ Цярэшку жаніць

Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка баліць,
Аж мае ножачкі млеюць —
Ні магу за дзедам бегаць.
Дзевачкі, з дарожачкі,
Каб не стаптаць ножачкі,
Мальчыкі, схініцеся,
Каб не паваліціся.

### 307. Пайду я Цярэшку жаніць

Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка баліць,
Аж мае ножачкі млеюць —
Не магу за дзедам бегаць.

### 308. Божа ж мой, галоўка баліць

Божа ж мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзядульку злавіць?
Божа мой, ножачкі вянуць —
Не магу на дзеда глянуць.

### 309. Пайду я Цэрэшку жаніць

Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка баліць,
Аж мае ножачкі млеюць —
Ні магу за дзедам бегаць,
Аж мае ручачкі баляць —
Ні магу дзядульку спаймаць.

**310. Пайду я у ток, у ток**

Пайду я у ток, у ток,
Найду я курэй куток.
А вы, куркі, ні сакачыця,
Мне галоўкі ні клапачыця,
Мне галоўка стах баліць,
Ні магу дзеда злавіць.

**311. Божа мой, галоўка баліць**

Божа мой, галоўка баліць —
Не магу дзядулькі злавіць,
Аж мае ножачкі млеюць —
Ні магу за дзедам бегаць,
Аж мае ручачкі баляць —
Ні магу дзядулькі спаймаць.

**312. Божа мой, галоўка баліць**

Божа мой, галоўка баліць —
Як жа мне дзедзечку злавіць.
Божа мой, ножачкі баляць —
Як жа мне дзедзечку спаймаць.
Хоць жа я павалюся,
За дзедзькам паганюся.
Хоць жа я ўдаруся,
Ад дзеда не астануся.
Хоць жа я ножачку зламлю,
А дзядульку злаўлю.

**313. Пайду я пяшком, пяшком**

Пайду я пяшком, пяшком,
Злаўлю я дзядульку мяшком.

**314. Выскачыў зайчык з-пад гаю**

Выскачыў зайчык з-пад гаю,
Я свайго дзеда здалёк пазнаю,
Выскачыў зайчык з-пад ляску,
Чужога дзеда не пазнаю зблізку.

### 315. Пайду я ў чыста поле

Пайду ■ ў чыста поле,
Часценька ступаючы,
Часценька ступаючы,
Мілага шукаючы.

### 316. Пайду ■ ў ток, у ток

Пайду я ў ток, у ток,
Знайду я курэй куток,
Пятушка чубатага,
Дзядульку вусатага.

### 317. І пайду ■ у лавачку

І пайду я у лавачку,
Набяру паркалічку.
Я свайму дзядулеч(ы)ку
Пашыю кашулеч(ы)ку.
Шыючы, укараціла,
Золатам надтачыла.
Аж мяне думачкі бяруць,
Як гэту кашульку пяруць?
Буду ж я у баб(ы) пытаць,
Як гэту кашуль(і)ку праць.
Жоначкі, цётач(ы)кі мае,
Наўчыцяя, маладу, мяне.

### 318. І паіла коніка ў вядрэ

І паіла коніка ў вядрэ,
Ні відзіла дзядульку на дне.
Ці мне коніка паіць,
Ці мне дзядульку лавіць?

### 319. Пайду я у Цярэшку

Пайду я у Цярэшку,
Дадуць мне качарэжку.
Буду жа я кісель мяшаць,
Дам жа міламу лізаць.

### 320. І пайду я й у Цярэшку

І пайду я й у Цярэшку,
Вазьму ж я качарэжку,
Паганю дзеда на піва,
Нараблю дзевачкам дзіва.

### 321. Пайду я на Цярэшку

Пайду я на Цярэшку,
Вазьму я качарэжку.
Як будуць хлопчыкі біцца,
Я буду бараніцца.

### 322. Пайду я дзядульку лавіць

Пайду я дзядульку лавіць,
Каб жа мне ножку ні зламіць.
Ні ўцікай, дзедзька, з раду,
Улаўлю цябе ззаду.

### 323. Пайду я, пабегаю

Пайду я, пабегаю,
Як рыбка па берагу,
Пайду я й пагуляю,
Як рыбка па Дунаю.
Рыбачка й з акунцамі,
Я, млада, з малайцамі.
Як рыбка па Дунаю,
Рыбачка з акупцамі,
Я й, млода, з малайцамі.

### 324. Пайду я й пагуляю

Пайду я й, пагуляю,
Як рыбачка па Дунаю,
На моры страпянуся,
Я й, дзеда ні баюся.
Пайду я, пагуляю.

### 325. Пайду я па гародзе

Пайду я па гародзе
У дзявоцкім карагодзе,

Хустачкай махаючы,
Дзядульку шукаючы.
— Дзядулька, як маешся?
Чаму не вітаешся?
— Дай божа, пазнаціся,
З табой павітаціся.

### 326. Пайду я па гародзе

Пайду я па гародзе
У дзявоцкім карагодзе,
Арэшкі кусаючы,
Дзядульку шукаючы.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Скажыце праўдачку вы мне,
Дзе мой дзядулька ходзіць,
Каго ён сабе ловіць?
За кім ён ганяецца,
Ад мяне хаваецца?
А ці ён у піру спіўся,
А ці ён ад мяне скрыўся?

### 327. Выйду, выйду ў агарод

Выйду, выйду ў агарод,
У дзявоцкі карагод,
Арэшкі шчыпаючы,
Дзядульку шукаючы,
Арэшкі цатуючы,
Дзядульку цалуючы.

### 328. Пайду я па гародзе

Пайду я па гародзе,
Па дзявоцкім карагодзе,
Арэшкі лускаючы,
Дзядульку шукаючы.
Ах, ты мой дзядулечка,
Я ж твая бабулечка,
Я ж цябе люблю, люблю,
Я ж цябе злаўлю, злаўлю.

### 329. Як пайду я па гародзі

Як пайду я па гародзі,
Па дзявоцкім карагодзі,
Хустачкай махаючы,
Дзедзечку шукаючы.
Здаецца ж і гром ня быў,
Майго дзеда пярун забіў,
Малання запаліла,
Мне бяды нарабіла.

### 330. Пайду я па гароду

Пайду я па гароду,
Па дзявоцкім карагоду,
Арэшкі лушчаючы,
Дзядульку пытаючы.
А я свайго мілога
З-за рэчанькі відзела,
Словечка прамовіла,
Жаніцца дазволіла.

### 331. Пайду я па гароду

Пайду я па гароду,
Па дзявоцкім карагоду,
Рыбачку лапаючы,
Мілага шукаючы.
Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла рыбачку на дне.
Смашная рыбачка язёк,
Пацалуй, дзядулька, разок.
Смашная рыбачка шчучка,
Цёплая мілага ручка.

### 332. Пайду я каля елі

Пайду я каля елі —
Там мілага ваўкі з'елі.
Пайду я каля тросці —
Цягаць мілага косці.

### 333. Пайду [redacted] каля елі

Пайду я каля елі,
Майго дзеда ваўкі з'елі,
Пайду я гукаючы,
Дзядульку шукаючы.
Пайду я каля йгрушы,
Збіраючы дзедавы вушы,
Пайду я каля тросці,
Збіраючы дзедавы косці.

### 334. Пайду я каля елі

Пайду я каля елі,
Мілага ваўкі з'елі,
Пайду я каля тросьці,
Знайду мілага косці,
Пайду я каля тыну,
Знайду [redacted] дзедаву спіну,
Пайду я каля саду,
Знайду я дзедаву скабу.

### 335. Пайду я каля тыну

Пайду я каля тыну,
Знайду дзедаву спіну,
Пайду я каля хаты,
Знайду дзедавы пяты,
Пайду я каля тросці,
Знайду дзедавы косці.

### 336. А пайду каля саду

А пайду каля саду
А знайду курэй стаду.
Пітушка ніводнага,
Галоўка халодная.
А пайду каля елі,
Мілага ваўкі з'елі,
А пайду каля тросці,
Пабіраючы косці.

## 337. Мой жа ты дзядулечка

Мой жа ты дзядулечка,
А я твая бабулечка.
Дзядулька пяшком, пяшком,
Запала сцежка сняжком.
А я сняжку не баюся,
У чаравічкі абуюся.
Чаравічкі казловыя,
К Цярэшачцы гатовыя.

## 338. Божа мой, галоўка баліць

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзядульку злавіць?
Галоўку платком звяжу,
Дзядульку бяжком злаўлю.

## 339. Цярэшку жаніць, жаніць

Цярэшку жаніць, жаніць,
Галоўка баліць, баліць.
Цярэшку ажаніла,
Дзядульку не ўлавіла.
Хоць жа я ножку зламлю,
Свайго дзядульку злаўлю.

## 340. Пайду ■ Цярэшку жаніць

Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка баліць,
Аж мае ножачкі млеюць —
Не магу за дзедам бегаць.
Хоць жа я ў бяду ўпаду,
Я ж цябе, дзядулька, ўлаўлю.
Хоць жа я павалюся,
За дзедам паганюся.

## 341. Будзім мы Цярэшку й жаніць

Будзім мы Цярэшку й жаніць,
Будзім мы дзядов(ы) лавіць.

Ні ўцікай, дзядулька, бяжком,
Запала дарожка сняжком.
Хоць жа я павалюся,
За табой паганюся.
Хоць жа ножачку зламлю,
Я свайго дзядульку злаўлю.

### 342. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз двор дарожачка.
Тая дарожачка, як ток,
Куды мой дзядулька ўцёк?
А я тут жа ўхаплюся,
Ды за дзедзькам паганюся.

### 343. Бягу я бяжком, бяжком

Бягу я бяжком, бяжком,
Запала сцежачка сняжком,
Хоць жа й павалюся,
За дзедам паганюся,
Хоць жа я ножачку зламлю,
А лі ж я дзядульку злаўлю.
Ай-яй-яй-яй-яй, я-я-я-я!

### 344. Хоць жа [redacted] павалюся

Хоць жа я павалюся,
За дзядулькам паганюся.
Хоць жа я ножачку зламлю,
Я свайго дзядульку ўлаўлю.
Не ўцякай, дзядулька-шарсцень,
Не турбуй маіх ты касцей.

### 345. Пайду я Цярэшку жаніць

Пайду я Цярэшку жаніць,
Як жа мне дзядульку ўлавіць?
Не ўцякай, дзядулька, дужа,

На дварэ бальшая сцюжа,
Не ўцякай, дзядулька, пяшком,
Запала дарожка сняжком.
А хоць жа я павалюся,
За табою паганюся,
А хоць жа ты ў палонку,
А цябе я — за галоўку,
А хоць жа ты ў мяккіну,
Я цябе не пакіну.

### 346. Пайду ж ■ па гароду

Пайду ж я па гароду,
Па дзявоцкім карагоду.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Злавіце дзядульку вы мне.
Мой дзедзька сагнуўшысі,
Ў лапцікі абуўшысі.
Лапцікі лутовыя,
Аборкі пяньковыя.
Хоць жа я пувалюся,
За дзедзькам паганюся,
Хоць жа я ножачку зламлю,
Я свайго дзядульку злаўлю.

### 347. Божа мой, вяліка бяда

Божа мой, вяліка бяда:
Далі мне крутога дзяда,
А што ж я рабіць буду,
Як яго лавіць буду?
Не бяжы, дзядулька, бягом,
Запала дарожка сняжком,
Каб я не змарылася,
Каб не павалілася.
Хоць жа я й павалюся,
Я за дзедам паганюся.

### 348. Аж мая галоўка баліць

Аж мая галоўка баліць,
Як жа мне дзядульку злавіць?

Аж мае ножанькі баляць,
Пасобце, дзевачкі, спаймаць.
Паіла коніка ў вядрэ,
Відзела дзядульку на дне.
Хоць жа я ўтаплюся,
Я за ім паганюся,
Хоць жа ты ў мяккіну,
Я цябе не пакіну,
Хоць жа ты ў палоўку,
Я цябе за галоўку.

### 349. Божа мой, галоўка баліць

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзядульку злавіць?
Ні ўцікай, дзядулічка,
Я твая бабулічка.
Хоць жа я павалюся,
За дзедзькам паганюся,
Хоць жа я у мяккіну,
Я цябе не пакіну.

### 350. Паіла коніка ў вядрэ

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла дзядульку на дне.
Хоць жа я й утаплюся,
А за дзядулькам паганюся,
Хоць жа я руку зламлю,
Алі ж дзядульку злаўлю,
Хоць жа я і другую,
Злаўлю я, пацалую.

### 351. Паіла коніка ў вядрэ

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла дзядульку на дне.
Хоць жа ж я й утаплюся,
Я за ім паганюся,
Хоць жа ж я ножачку ўламлю,
Я свайго дзядульку злаўлю!

## 352. Пайду я каля саду

Пайду я каля саду
К суседу на перасаду.
Хоць жа я ў бяду ўпаду,
Суседа сына ўкраду.
Тонкага, высокага,
Белага, румянага,
Дзядульку удалага!

## 353. На небе месячык ясён

На небе месячык ясён,
А ў суседа малойчык красён.
Хоць жа я ў бяду ўпаду,
У суседа малойца ўкраду.
Хоць жа я й у другую,
Суседу не дарую.

## 354. На небі месічык ясен

На небі месічык ясен,
Ў суседа сыночык красен.
Хоць жа я ў бяду ўпаду,
Ў суседа сынка ўкраду.
Ні ўцікай дзядулька бягом,
Запала й дарожка снягом,
Бітая й капаная,
Я ў дзедзьку ўкаханая.

## 355. Ні бяжы, дзядулька, бяжком

Ні бяжы, дзядулька, бяжком,
Запала сцежачка сняжком,
Хоць жа я павалюся,
За табой паганюся.

## 356. А ў полі калінка расла

А ў полі калінка расла,
Беленькім цвяточкам цвіла.

Я гэту калінку зламлю,
Я свайго дзядульку злаўлю.

### 357. Каліна-маліна мая

Каліна-маліна мая
Розавым цвіточкам цвіла.
Я ету калінку сламлю,
Я свайго дзядульку слаўлю.

### 358. Божа мой, нядоля мая

Божа мой, нядоля мая,
Далі мне старыва дзіда,
Хуць ручку, ножку зламлю,
Дык дзядусеньку ўлаўлю.

### 359. Пайду [redacted] з лагчыны ў барок

Пайду [redacted] з лагчыны ў барок,
Адламаю альховы кіёк,
Як дам дзеду пад нагу,
Дык я яго скора ўлаўлю.

### 360. Пайду я ў зялёны лясок

Пайду я ў зялёны лясок,
Выламлю дубовы кіёк,
Як дам дзеду пад нагу,
Я яго скоранька злаўлю.

### 361. Хоць я у бяду ўпаду

Хоць я у бяду ўпаду,
Сібе дзядульку злаўлю
З красным каўнерчыкам,
Каб звалі жаўнерчыкам.

### 362. Хоць жа я павалюся

Хоць жа я павалюся,
За дзедам паганюся,
Хоць жа ножку з(ы)ламлю,
Я свайго дзядульку злаўлю.

### 363. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Чараз гару сцежачка
Бітая, ўтаптаная,
Я ў мамкі каханая.
Ні бяжы, дзядулька, бяжком,
Запала сцежачка сняжком,
Як жа я паганюся,
Дык жа я павалюся.
Пайду я ў лагчыну, ў барок,
Адламлю альховы кіёк.
Як дам дзеду пад нагу,
Я ж яго быстра злаўлю.

### 364. Дзевачкі, у полі дымна

Дзевачкі, у полі дымна,
Не стала дзядулькі відна,
Хоць жа я ў дым пайду,
Усё роўна дзядульку знайду.

### 365. Дзевачкі, падружкі мае

Дзевачкі, падружкі мае,
Гляньце ж вы хоць раз на мяне,
За пекным дзядом хаджу,
Я ж яго злавіць хачу.
Хоць жа я ножаньку зламлю,
Усіроўна я яго злаўлю,
Хоць жа я павалюся,
За дзядулькам паганюся.

## 366. Пайду я, пабегаю

Пайду я, пабегаю,
Як рыбка па берагу,
Пайду я, пагуляю,
Як рыбка па Дунаю.
Хоць жа ж сабе ножку зламаю,
Я сабе дзядульку злаўлю.

## 367. Не ўцякай, дзядулька-прахвост

Не ўцякай, дзядулька-прахвост,
Улаўлю я цябе за хвост,
Не ўцякай дзядулька-шарсцень,
Не турбуй маіх касцей.
Хоць жа я й павалюся,
За дзедам паганюся,
Хоць жа я ножачку зламлю,
Усіроўна дзядульку злаўлю.

## 368. Ой, пайду я каля саду

Ой, пайду я каля саду,
Наламлю вінаграду.
Вінаград ня ломіцца,
Дзядулька ня ловіцца.

## 369. Пайду я каля саду

Пайду я каля саду,
Выламлю вінаграду.
Вінаград ня ломіцца,
Мой дружок ня ловіцца,
Вінаград згібаецца,
Мой дружок хаваецца.

## 370. Пайду я кругом саду

Пайду я кругом саду,
Найду я куст вінаграду.



7. Зак. 1

Вінаград салодзенькі,
Дзядулька малодзенькі,
Вінаград ня ломіцца,
Дзядулька ня ловіцца.

### 371. Дзевачкі, сястрыцы мае

Дзевачкі, сястрыцы мае,
Тапчыце вы сцежачку мне,
Каб я ні валялася,
Людзі ні смяяліся.

### 372. Бабачкі, не смяіціся

Бабачкі, не смяіціся,
Дзевачкі прыхініціся.
Хлопчыкі, з дарожачкі,
Каб не стаптаць ножачкі.
Можа я павалюся,
За мілым паганюся,
Хоць жа я каленькі паб'ю,
Алі ж я мілага злаўлю.

### 373. Пабягу за дзедам бягом

Пабягу за дзедам бягом,
Запала сцяжачка снягом.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Тапчыце ж вы сцежачку мне,
Каб было лёганька хадзіць,
Скоранька дзядульку лавіць.

### 374. Й дзевачкі, сястрыцы мае

Й дзевачкі, сястрыцы мае,
Тапчыця сцежачку вы мне,
Каб добра было хадзіць,
Каб добра дзядульку лавіць.
І ні ўцікай, дзядулька, бягом,
Запала сцежачка снягом.

Дзевачкі, сястрыцы мае,
Лавіце ж дзядульку вы мне.

### 375. Дзевачкі, з дарожачкі

Дзевачкі, з дарожачкі,
Пап(ы)рымайце ножачкі,
Дзевачкі, схініціся,
Каб(ы) ні паваліціся.
Часам дзед паваліцца,
Мацяры пажаліцца,
А маці будзіць лаіць —
Ня умела дзеда лавіць!

### 376. Дзевачкі, схініцеся

Дзевачкі, схініцеся,
Каб ні паваліціся.
Дзевачкі, з дарожачкі,
Каб не стаптаць ножачкі.
Можа ж я павалюся,
За дзедам паганюся.

### 377. Дзевачкі-красотачкі

Дзевачкі-красотачкі,
Тапчыце мне сцежачкі,
Каб было лёганька хадзіць,
Каб было як дзядульку лавіць.

### 378. А бітая дарожка, як ток

А бітая дарожка, як ток,
Ад мяне дзядулька уцёк.
Дзевачкі схініціся,
Каб ні пуваліціся.
Дзевачкі схінуліся,
Хлопчыкі ўсміхнуліся.

## 379. Лезце, цётачкі, з печы

Лезьце, цётачкі, з печы,
Паліце фунар, свечы,
Каб было відненька хадзіць,
Каб скарэй дзядульку злавіць.

## 380. І дзевачкі, вяліка хата

І дзевачкі, вяліка хата,
Далі ж мне дзеда-салдата.
Што ж я буду й рабіці,
Як [redacted] буду й лавіці?

## 381. Божа мой, вяліка хата

Божа мой, вяліка хата,
Далі мне дзеда-салдата.
Што ж я з ім рабіць буду?
Я яго лавіць буду!

## 382. Пайду я Цярэшку жаніць

Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка баліць.
Ой, божа, вяліка хата,
Далі мне дзеда-салдата.
Як яго лавіць буду,
Што я з ім рабіць буду?

## 383. Дзевачкі, вяліка хата

Дзевачкі, вяліка хата,
Далі мне дзеда-салдата,
Бронь божа паваліцца,
Старшаму пажаліцца.

## 384. Дзевачкі, багата хата

Дзевачкі, багата хата
Далі мне дзеда-салдата.

Што я з ім рабіць буду,
Як яго лавіць буду?

### 385. Божа мой, багата хата

Божа мой, багата хата,
Далі мне дзеда-салдата.
Што ж я з ім рабіць буду,
Як яго я лавіць буду?
Ён ідзе, аж полы гнуцца,
За яго дзевачкі б'юцца.
Біцеся не біцеся,
Я буду любіцеся.

### 386. І божа мой, вяліка хата

І божа мой, вяліка хата,
Далі дзеда-салдата.
Што ж я з ім рабіць буду,
Як яго лавіць буду?

Як за ім паганюся,
Бронь божа, павалюся,
Будуць людзі гаварыць:
Ня ўмела салдата злавіць!

### 387. Божа мой, вяліка хата

Божа мой, вяліка хата,
Далі мне дзеда-салдата,
Што я з ім рабіць буду,
Як яго лавіць буду?
Я ж за ім паганюся,
Бронь божа, павалюся!
Дзевачкі, з дарожанькі,
Каб ні стаптаць ножанькі,
Мальчыкі, схініцеся,
Каб ні паваліцися.

### 388. Вяліка, вяліка хата

Вяліка, вяліка хата,
Далі мне дзеда-салдата.
Што я буду рабіці,
Што ня хочыць любіці.
Ці мне яму вочачкі драць,
Што ня хочыць мяне браць?

## 3.2. НАМАЎЛЯННЕ «ДЗЯДУЛЬКІ» ЗДАЦЦА, НЕ ЎЦЯКАЦЬ

### 389. Паціху, скрыпачка, іграй

Паціху, скрыпачка, іграй,
Памалу, дзядулька, ступай,
Каб я не ўмарылася,
Каб не паваліласяю

### 390. Мой жа ты дзядулячка

Мой жа ты дзядулячка,
Я ж твая бабулячка,
Я ж цябе лавіць буду,
Злавіўшы, любіць буду.

### 391. Паціху, музыка, іграй

Паціху, музыка, іграй,
Паціху, дзядулька, ўцякай.
Я ўжо захадзілася,
Я ўжо замарылася.
Хадзіла па садочку,
Ступала па слядочку,
Слядочак абступіла,
Дзядульку улавіла.

### 392. І ні ўцікай, дзядулька, бягом

І ні ўцікай, дзядулька, бягом,
Запала сцежачка снягом.

Дзевачкі, сястрыцы мае,
Лавіце ж дзядульку вы мне.

### 393. Ні бяжы, мой дзядулька, бягом, бягом

Ні бяжы, мой дзядулька, бягом, бягом,
Запала сцежачка снягом, снягом.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Тапчыце вы сцежачку мне,
Каб было лёганька хадзіць,
Каб скора дзядульку злавіць.

### 394. Паслухай, дзядулька, мяне

Паслухай, дзядулька, мяне,
А што я скажу табе.
Ты пойдзеш трэсачкі сячы,
А я пайду хрушчэй пячы.

### 395. Мой жа ты дзядулечка

Мой жа ты дзядулечка,
Я твая бабулечка.
Ты ідзі трэсачкі сячы,
Я пайду закуску пячы.

### 396. Ах ты мой дзядулічка

Ах ты мой дзядулічка,
Я твая бабулічка.
Пастаі, дзядуль(і)ка, ў кутку,
Пакуль я красенцы вытку.

### 397. Пастаі, дзядулячка

Пастаі, дзядулячка,
Я ж твая бабулячка,
Пастаі, я ж табе нешта скажу,
Я ж табе лапцік падвяжу.

### 398. Пастаі, дзядулька, ў кутку

Пастаі, дзядулька, ў кутку,
Пакуль я красёначкі датку.
Вытку я кашулечку
З красненькім каўнерыкам,
Каб ты быў жаўнерыкам.

### 399. Паю я коніка ў вядрэ

Паю я коніка ў вядрэ,
Віджу я рыбачку на дне.
Добрая рыбачка карась,
Пацалуй, мілінькі, хуць раз.
Ня бі мяне за ігрышча січас:
Я пастаўлю кросянцы ў кутку,
Я табе кашулічку вытку,
З чырвоным каўнерыкам,
Каб ты быў жаўнерыкам!

### 400. Паіла я коніка ў вядрэ

Паіла я коніка ў вядрэ,
Відзіла рыбачку на дне.
Добрая рыбачка карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз,
Добрая рыбачка акунь,
А скажы, дзядулька, адкуль?

### 401. Пайду ■ у лавачку

Пайду я у лавачку,
Набяру паркалечку.
Пашыю кашулечку
Я свайму дзядулечку
З чырвоным каўнерыкам,
Каб звалі жаўнерыкам.

### 402. І пайду я ў лавачку

І пайду я ў лавачку,
Набяру паркалеч(ы)ку.

Я свайму дзядулеч(ы)ку
Пашыю кашулеч(ы)ку.
Шыючы, укарацiла,
Залатам надтачыла.
Аж мяне думач(ы)кi бяруць(i),
Як гэту кашуль(i)ку пяруць?
Буду ж я у баб(ы) пытаць,
Як жа ту кашуль(i)ку праць?
Жоначкi, цётачкi мае,
Навучыця маладу мяне.

## 403. Пад вакном ручэй пацёк

Пад вакном ручэй пацёк,
Ад мяне мой дзедзька ўцёк.
Не ўцякай, дзедзя-лябедзя,
Пашыю шубу я з мядзведзя.

## 404. Нi ўцiкай, мой воўк шэры

Нi ўцiкай, мой воўк шэры,
Пашыю кажух белы,
Не ўцiкай, старусенькi,
Пашыю бялюсенькi!
Нi ўцiкай, дзедзька-Сiлiвон,
Даганю, хуць з цябе дух вон!

## 405. А здайся, дзедзя-лябедзя

А здайся, дзедзя-лябедзя,
Пашыю шубу з мядзведзя.
Каўнярок шатковенькi,
Мой дзедзька рысковенькi.

## 406. I чаго ты, дзядулька, ходзiш

I чаго ты, дзядулька, ходзiш,
Нашто ты боцiкi топчыш,
Чаго ты туляiшся,
Ты са мной нi знаiшся?

І на тое забыліся,
Як змалку любіліся,
Давай, дзедзька, пазнавацца,
Цяпер будзім улюбляцца.

### 407. Ні ўцікай, дзядулічка

Ні ўцікай, дзядулічка,
Я ж твая бабулічка!
Чаго ж ты туляішся,
Ці са мной не знаішся,
Ці цябе вучыла маці,
Як ад мяне ўцікаці?

### 408. А мой жа ты дзядочык

А мой жа ты дзядочык,
Чаго ты туляешся,
Чаго ты туляешся,
Ад мяне хаваешся?
Ці я не татулькава,
Ці я не матулькава?
Я ў татулькі вырасла,
Я ў матулькі кахалася,
А ў гэтай Цярэшачцы
Дзядульку папалася.

### 409. А мой жа дзядулічка

А мой жа дзядулічка,
Я ж твая бабулечка!
Чаго ж ты туляешся,
Ад мяне хаваешся?
Ці я у бару расла,
Ці я у лесе цвіла?
Я й расла ў матулечкі,
Я й цвіла ў татулечкі.

### 410. А мой ты дзядулечка

А мой ты дзядулечка,
Я ж твая бабулечка!

А што ж ты ўсё шляешся,
Ці не мной цураешся?
А ці я не ладная —
Хустачка прывабная,
Фартушок фартылёвы,
Ў мяне чорныя бровы.

### 411. Пастаі, дзядулечка

Пастаі, дзядулечка,
Я ж твая бабулечка.
Чаго ж ты хаваешся?
Ці ты мной стыдаешся?
Пастаі, дзядулечка,
Болей не стыдайся,
Ад мяне, малодзенькай,
Болей не хавайся.

### 412. Ой, здайся, дзядулька, здайся

Ой, здайся, дзядулька, здайся,
На другіх ні заглідайся,
Нам з табой ні век вікаваць,
Сягоння 'дзін вечар згуляць.

### 413. Што табе, дзядулька, стала?

Што табе, дзядулька, стала?
Не такая я ўжо старая.
Нам з табой не век векаваць,
Нам з табой вечарок пагуляць.

### 414. Цярэшка, Цярэшухна

Цярэшка, Цярэшухна,
Я твая пацешухна.
Не ўцякай, каток шэры,
Пашыю кажух белы.
Не ўцякай, шарусенькі,
Пашыю бялюсенькі.

## 415. І серая зязюлічка

І серая зязюлічка
У садочку кукувала,
Усю гэту нядзелічку
Дзядульку выбірала.
Ой, ні ўцікай, дзядуля, дужа,
На дварэ бальшая сцюжа,
Ні ўцікай, дзядуля, бягом,
Запала сцежачка снягом.

## 416. Ах ты ж мой дзядулічка

Ах ты ж мой дзядулічка,
Я ж твая бабулечка.
Не ўцікай дзядзька дужа,
На дварэ бальшая сцюжа.
Хоць жа я павалюся,
За табой паганюся,
Хоць жа я й ножку зламлю,
Я й сабе дзядульку злаўлю.

## 417. І пайду я й у сад, у сад

І пайду я й у сад, у сад,
Пайду я ў зялёнінькі,
Выламлю калінаньку,
Выламлю чырвонаю,
Размяту дарожачку,
Размяту шырокаю.
Паціху, Дунай, шугай,
Памалу, дзядулька, уцікай!
Па полі ручэй пацёк,
Ад мяне мой дзед уцёк,
Не ўцікай, дзядулька, бягом,
Запала сцежачка снягом.
Не віджу тваіх слядоў!

## 418. Пайду я па гародзе

Пайду я па гародзе,
Па дзявоцкім карагодзе,

Хустачкай махаючы,
Дзядулькі шукаючы.
Не ўцікай, дзядулька, дужа,
На дварэ бальшая сцюжа;
А ўцікай, дзядулька, шагом,
Засыпіць сцежачку снягом.

### 419. Ні ўцякай, дзядулька, дужа

Ні ўцякай, дзядулька, дужа,
На дварэ бальшая сцюжа.
Я снегу не баюся,
Я за дзеда ўчаплюся,
Хоць я ножачку зламаю,
Але дзедку я злаўлю.

### 420. Хоць жа я пабегаю

Хоць жа я пабегаю,
Як рыбка па берагу,
Хоць жа я пагуляю,
Як рыбка па Дунаю.
Хоць жа я ножачку зламлю,
Я свайго дзядульку злаўлю.
Не бяжы, дзядулька, дужа,
На дварэ бальшая сцюжа,
Не бяжы, дзядулька, бяжком,
Запала сцежка сняжком.
А дайся, дзядулька, дайся,
На другіх ні заглядайся.

### 421. А я пайду Цярэшку даганяць

А я пайду Цярэшку даганяць,
А ён ад міне уцікаць,
Ах, божа мой, божанька,
Баліць мая ножанька.
Цярэшка, пастой, пастой,
Пабуду з табой, з табой,
А я цябе ні люблю,
А я з табой ня буду!

## 422. Ні ўцікай, дзедзя-лябедзя

Ні ўцікай, дзедзя-лябедзя,
Нап'ёмся піва па 'бедзя!
Ні ўцікай, дзядулічка,
Я ж твая бабулічка.

## 423. Пастаі, дзедзя-лябедзя

Пастаі, дзедзя-лябедзя,
Будзем піць віно ў абедзе.
А ці дзедзька мой баіцца,
Што мы будзем з ім жаніцца?

## 424. Ой, здайся, дзядулька-любка

Ой, здайся, дзядулька-любка,
Нап'ёмся віна з кубка,
Ой, здайся, дзедзя-лябедзя,
Нап'емся віна па 'бедзя.

## 425. А здайся, дзедзічка, здайся

А здайся, дзедзічка, здайся,
На другіх не заглідайся!
Да ў кутку дзевачкі стаяць,
Памогуць дзедзічку спаймаць.

## 426. Ня думай, дзядулька, сабе

Ня думай, дзедулька, сабе,
Што ты красівей за мяне,
Як буду ж я у цябе,
Буду харашэй за цябе,
Ўчашуся і ўмыюся,
Хораша прыбяруся,
Блізенька прыхінуся,
Да цябе прымілюся.

### 427. Не ўцякай, дзядулечка

Не ўцякай, дзядулечка,
Я твая зязюлечка,
Хоць жа [redacted] маленькая,
Ды з табой раўнюсенькая,
Хоць жа расточкам мала.
Ды з табой у раду стала.

### 428. Не ўцякай, дзядулечка

Не ўцякай, дзядулечка,
Я твая зазюлечка.
Хоць жа я маленькая,
Ды з табой раўненькая,
Хоць жа я расточкам мала,
Ды з табой у раду стала.

### 429. Ня ўцякай, дзядулячка

Ня ўцякай, дзядулячка,
Я твая бабулячка.
Чым жа цябе угнявіла,
Чаму ж табе я няміла?
Да ці я ні ткалліка,
Да ці я ні пралліка?
Сем месяцаў пачынак прала,
Тры гады красёнцы ткала!
Панажы пад лаўкаю
Зараслі мураўкаю,
Чаўночык пад прыпечкам
Зарос ужо трысцічкам.

### 430. Ні бяжы, дзядулька, бягом

Ні бяжы, дзядулька, бягом,
Мы з табой памалу пайдзём.
Пройдзем, палюбуемся,
Станем, пацалуемся.

## 431. Ні бяжы, дзядулька, бягом

Ні бяжы, дзядулька, бягом
Мы с табой памалу пайдзём,
Пайдзем, палюбуемся,
А пасля пацалуемся.
Ой, здайся, дзядулька, здайся,
На другіх ні заглядайся,
Другія ня лепшыя,
Можа, йшчэ й пушчэйшыя.

## 432. Дзядулька, ступай часцей

Дзядулька, ступай часцей,
Не трасі бабіных касцей,
Бабіны косці трасуцца,
За дзедам лёгка нясуцца.

## 433. Пастаі, мой дзед, у кутку

Пастаі, мой дзед, у кутку,
Пакуль я кашульку вытку
Тонкую, таненькую,
Белаю, бяленькую.
Шыючы, пакараціла,
Золатам надтачыла.

## 434. І не ўцікай, дзядулічка

І не ўцікай, дзядулічка,
Я твая бабулічка.
Хоць жа я ножачку зламлю,
Я свайго дзядульку ўлаўлю.
Не ўцякай, дзядулічка,
Я твая бабулічка.
І пастаўлю красенцы ў кутку,
Я ж табе палатна натку.
Пашыю кашулячку
З чырвоным каўнерычкам,
Каб ты быў жаўнерычкам.

### 435. Цярэшка, Цярэжачка

Цярэшка, Цярэжачка,
Ціраз бор дарожачка
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Мой жа ты дзядулічка,
Я твая бабулічка.
Сядзь жа ты на печы ў кутку,
Я табе штэнікі вытку
Тонкія-таненькія,
Белыя-бяленькія,
Тонкія-танюсінькі,
Па пальцу раўнюсінькі,
Мой жа ты дзядулічка,
Я ж твая бабулічка,
Чаго ж ты й уцікаеш,
Ці ты мяне не знаеш?

### 436. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Ціраз двор дарожачка
Дарожка таптаная,
Цярэшка каханая!
А мой ты дзядулічка,
Я ж твая бабулічка,
Я ж цябе люблю, люблю,
Кашульку куплю, куплю.
Кашульку куплю, куплю
З чырвоным каўнерычкам,
З чырвоным каўнерычкам,
Каб ты быў жаўнерычкам.

### 437. Паіла коніка ў вядрэ

Паіла коніка ў вядрэ,
Увідзіла дзядульку на дне.
Кінула коніка паіць,
Пабегла дзядульку лавіць.
Ні ўцякай, дзядулечка,
Ні ўцякай, зязюлечка,

А ці ж я не праллейка,
А ці ж я не ткаллейка?
Устану ранюсенька,
Напраду танюсенька,
Пастаўлю красенца ў кутку,
Я табе штонікі адатку
Тонкія, таненькія,
Белыя, бяленькія.
Ушыю гузік залаты,
Каб быў дзядулька малады.

### 438. Ой, пайду ■ па гародзе

Ой, пайду я па гародзе
Па дзявоцкім карагодзе,
Рыбачку лапаючы,
Мілага шукаючы.

Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

Я вымаю кашулічку
Й а свайму дзядулічку,
Тонкую, таненькую,
Белінку бяленькую!

Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

Ой, з рубковым рукаўком,
Назавуць цябе панком,
Ой, з чырвоным каўнерчыкам,
Назавуць цябе жаўнерчыкам.

Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

Пайду ж я ў жоначак пытаці,
Як гэту кашульку да й праці,
Як гэту кашульку да й праці,
Як яе да й ў валічках качаці?

Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

### 439. Не ўцікай, дзядулічка

Не ўцікай, дзядулічка
Не ўцікай, зязюлічка!

Пасядзі, дзедзька, на печы ў кутку,
Пакуль я палатно вытку.

Не ўцікай, дзедулічка,
Не ўцікай, зязюлічка!

Хоць палатно і ня тонка,
Й а ўсё ж я твая жонка.

Не ўцікай, дзядулічка,
Не ўцікай, зязюлічка!

Пасядзі, дзедзька, на палацях,
Пакуль пашыю табе плацця.

Не ўцікай, дзядулічка,
Не ўцікай, зязюлічка!

Хоць пашыта плацце і ні ў памер,
Ня рымзай, дзедька, ты ж ні кавалер.

Не ўцікай, дзядулічка,
Не ўцікай, зязюлічка!

Не глядзі, дзедзька, больш на дзяўчат,
Бо жонка будзе бурчаць.

Не ўцікай, дзядулічка,
Не ўцікай, зязюлічка!

### 440. А мой дзедзька ту-ку, ту-ку

А мой дзедзька ту-ку, ту-ку,
Пастаўлю красёнцы ў кутку,
Я яму штонікі вытку,
Я яму кашульку выш'ю.

### 441. Пасядзі, мой мілы, ў кутку

Пасядзі, мой мілы, ў кутку,
Пакуль я штонікі вытку.
Выткаўшы, ды пашыю
На тваю белу шыю.

### 442. Пастаі, мой мілы, ў кутку

Пастаі, мой мілы, ў кутку,
Пакуль я кашульку вытку,
Белую-беленькую,
Тонкую-таненькую.
Шыючы, пакарацiла,
Золатам падтачыла.

### 443. Пасядзі, дзідзька, ў кутку

Пасядзі, дзідзька, ў кутку,
Пакуль я кросенца вытку,
Выткаўшы, бяліць буду,
Выбяліўшы, шыць буду,
Прышыю белы каўнер,
Каб мой дзідзька быў жаўнер.

### 444. А мой ты дзядулячка

А мой ты дзядулячка,
Я ж твая бабулячка.
А сядзь ты на печы ў кутку,
Я ж табе штонікі вытку.
Адрэжу наметачку,
Пашыю сарочачку,
Абшыю чырвоным каўнер,
Каб ты быў вайсковы жаўнер.

### 445. А мой ты дзядулячка

А мой ты дзядулячка,
Я твая бабулячка.

Пасядзі на печы ў кутку,
Пакуль я штаны вытку
Тонкія-танюсенькі,
З пальчыкам раўнюсенькі.

### 446. Пастаі, дзядулька, ў кутку

Пастаі, дзядулька, ў кутку,
Я табе штонікі вытку,
Тонкія, таненькія,
Белыя, бяленькія,
З красненькім каўнерчыкам,
Каб быў піянерчыкам.

### 447. Пастаі, дзядулька, ў кутку

Пастаі, дзядулька, ў кутку
Пакуль я красёнцы вытку,
Выткаўшы, бяліць буду,
Пабяліўшы, шыць буду.
Пашыю кашулечку
Я свайму дзядулечку,
Тонкую, бяленькую
Дзядулька міленькаму.

### 448. Пасядзі, мой дзедзька, ў кутку

Пасядзі, мой дзедзька, ў кутку,
Пакуль я штонікі вытку,
Выткаўшы, бяліць буду,
Пабяліўшы, шыць буду.
Ой, лепей мне з катом жыці —
Не нада штаноў шыці.

### 449. Цярэшка каху, каху,

Цярэшка каху, каху,
Што ў тваім мяху, мяху?
Шпілечкі, іголачкі,
Залаты пярсцёначкі.
Пастаі, дзядулька, ў кутку,
Пакуль я красенцы вытку,
Выткаўшы, бяліць буду,
Пабяліўшы, шыць буду.

### 450. А мой жа дзядулічка

А мой жа дзядулічка,
Я ж твая бабулічка,
Пасядзі на печы ў кутку,
Пакуль я штонікі вытку.
Ткала, ткала, пакарацiла,
Шоўкам троху надтачыла.
А мой жа ты дзядулічка,
Насі, насі, ні марай,
Па празнічку адзівай!

### 451. Здайся, дзядулька, здайся

Здайся, дзядулька, здайся,
На другіх не спадзявайся.
Было дзе мяне падзець,
Тады на другіх глядзець.

### 452. А здайся, мой дзедзька, здайся

А здайся, мой дзедзька, здайся,
На чужых не заглядайся,
На чужых не заглядайся,
На мяне не забывайся.

### 453. Дзядулька, дайся, дайся

Дзядулька, дайся, дайся,
На другіх ні заглідайся,
Другая ня лепшая,
Горшая, пушчэйшая.

### 454. Дайся, мой дзядулька, дайся

Дайся, мой дзядулька, дайся,
На другіх ні заглідайся,
На другіх глядзецькі можна,
З другімі жыцькі ня можна.

### 455. Паддайся, дзедзька, паддайся

Паддайся, дзедзька, паддайся,
На другіх ні заглідайся.
Чужая з ума звядзець,
А свая бліноў напячэць.

### 456. А дзедзічка, здайся, здайся

А дзедзічка, здайся, здайся,
На другіх ні заглідайся.
Хуць жа я ні ладная —
Хустачка ядвабная.

### 457. Падайся, дзядулька, падайся

Падайся, дзядулька, падайся,
На другіх не заглядайся.
Хоць жа я не ладная —
Хустачка ядвабная,
Хвартушок карытыновы,
Падайся, дзядулька, чарнабровы.

### Дзядулька, дайся, дайся

Дзядулька, дайся, дайся,
На другіх ні заглідайся,
Другія ня лепшыя,
А нашы ня горшыя.

### 459. А здайся, дзядулька, здайся

А здайся, дзядулька, здайся,
На другіх не заглядайся,
Другія ня лепшыя,
Горшыя, пушчэйшыя.

### 460. Паддайся, дзядулька, паддайся,

Паддайся, дзядулька, паддайся,
На другіх не заглядайся,

Другія ня лепшыя,
Горшыя, пушчэйшыя.

### 461. Паддайся, дзедзька, паддайся

Паддайся, дзедзька, паддайся,
На другіх ні заглідайся,
Другія ня лепшыя,
Горшыя, пушчэйшыя.
Другія з пуці звядуць,
Таўстыя штаны дадуць.

### 462. От здайся, здайся, дзядулька

От здайся, здайся, дзядулька,
На другіх ні заглідайся,
Другіі ня лучшыі,
За мяне ёсць худшыі,
Другіі с ума свядут,
Нам з табой разлуку дадут.

### 463. А здайся, дзядунька, здайся

А здайся, дзядунька, здайся,
На другіх не заглядайся,
Другія з ума звядуць,
Нам з табой разлуку дадуць.
А здайся, дзядулечка,
Я ж твае бабулечка.

### 464. А здайся, дзедзька, здайся

А здайся, дзедзька, здайся,
На лепшых не заглядайся.
Лепшыя з ума звядуць,
Боцікі з ножак здзяруць.

### 465. І Цярэшку жаніць, (і) жаніць

І Цярэшку жаніць, (і) жаніць,
Галоўка баліць, баліць,

Галоўка баліць, (і) баліць,
Як жа мне дзядульку ўлавіць?
А здайся, дзядулька, здайся,
На другіх ні заглідайся.
Другія з ума звядуць,
Шапачку й боцікі здзяруць.

### 466. Пайду я Цярэшку жаніць

Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка баліць,
Аж мае ножачкі млеюць —
Ні магу за дзедам бегаць.
А здайся, дзедзька, здайся,
На другіх ні заглідайся.

### 467. Цярэшка чаху, чаху

Цярэшка чаху, чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?
— Іголачкі й шпілечкі,
Залаты пярсцёначкі.
Цярэшка цярэх, цярэх
Далі мне дзеда з арэх,
Пу палу валяіцца,
Ад мяне хаваіцца.
А здайся, дзядулька, здайся,
На другіх ні заглідайся,
Другія з ума звядуць,
Нам з табой разлуку дадуць.

### 468. Цярэшка, Цярэжынька

Цярэшка, Цярэжынька,
Ціраз бор дарожынька
Камушкам пабітая,
Дарожка закрытая.
А дайся, дзядулька, дайся,
На другіх ні заглідайся.

## 469. Гарошак касой кашу

Гарошак касой кашу,
Дзедзічку слаўцом прашу:
«А здайся, дзедзічка, здайся,
На чужых ні заглядайся.
Чужыя з ума звядуць,
Нам з табой разлуку дадуць.
Чужыя з ума звядуць,
Нам з табой разлуку дадуць».

## 470. Як пайду я каля саду

Як пайду я каля саду
Дзядульку на дасаду.
Я ж яму наперад зайду,
Красны цвет у рукі даю:
«А здайся, дзедзька, здайся,
На другіх ні заглядайся,
А ці я не хатніца,
Ці я не работніца»?

## 471. Я хадзіла па гароду

Я хадзіла па гароду,
Па дзявочаму карагоду,
Часценька ступаючы,
Дзядульку шукаючы.
А здайся, дзядулька, здайся,
На другіх ні заглідайся.
Як будзіш на другіх глядзець,
Ня будзіш і гэткаю мець.

## 472. Пайду я па гародзе

Пайду я па гародзе,
Па дзявоцкім карагодзе,
Хустачкай махаючы,
Мілага шукаючы.
Ой, здайся, дзедзічка, здайся,
Да й на другіх не заглідайся!

Я росту вышэйшага,
Гонару пышнейшага.

### 473. Пайду я па гароду

Пайду я па гароду,
Па дзявоцкім карагоду,
Хустачкай махаючы,
Дзядулькі шукаючы.
Дзядулька, дайся, дайся,
На чужых ні заглядайся.
На сваю паглядзі болі,
Над чужой не маеш волі.
Чужая не лепшая,
Горшая, пушчэйшая.

### 474. Пайду я па гароду

Пайду я па гароду,
Па дзявоччаму карагоду,
Арэшкі шчыпаючы,
Дзедзечку шукаючы.
А дайся, дзедзечка, дайся.
На чужых не заглядайся,
Чужыя з ума с(ы)вядуць,
Нам з табой разлуку дадуць.

### 475. Мой дзедзька малодзінькі

Мой дзедзька малодзінькі,
Як мядок, салодзінькі,
На ножках боцікі блішчаць,
На яго дзевачкі глідзяць.
Дзевачкі, ні глядзіця,
Дзядулькі ні звадзіця!
А здайся, дзядулька, здайся,
На другіх ні заглідайся:
Другія ня лепшыя,
Горшыя, пушчэйшыя.

## 476. Па полі, як дым, туман

Па полі, як дым(ы), туман,
Ходзіць і мой дзядулька, як пан.
На ім жа боцікі бліщчаць,
На яго дзевачкі глядзяць.
Дзевач(ы)кі, не глядзіця,
Дзядулькі ні звадзіця!
Дайся, дзядулька, дайся,
На другіх ні заглідайся:
Другія ня леп(ы)шыя,
Горшыя, путчэйшыя!

## 477. Як пайду ■ каля саду

Як пайду я каля саду
Дзядульку на дасаду
Я ж яму наперад зайду,
Красны цвет у рукі даю.
А здайся, дзедзька, здайся,
На другіх не заглядайся.
А ці ■ не хатніца,
Ці я не работніца?

## 478. А дайся, дзядулька, дайся

А дайся, дзядулька, дайся,
На другіх не заглядайся!
А ці я не пралліка,
А ці я ткалліка?
Устану ранюсенька,
Напраду танюсенька,
Пастаўлю красёнцы ў кутку,
Табе кашульку адатку.

## 479. Здайся, дзядулька, здайся

Здайся, дзядулька, здайся,
На лепшых не заглядайся.
А ці я не пральнічка,
А ці я не ткальнічка?

Сем нядзель пачынак прала,
Тры гады красенцы ткала.
Пастаўлю кросны на печы,
Адатку кашулю на плечы,
З чырвоным каўнерыкам,
Каб звалі жаўнерыкам.

## 480. А здайся, дзядулька, здайся

А здайся, дзядулька, здайся,
На лепшых не заглядайся.
А ці я не праллейка,
А ці я не ткаллейка?
Устану ранюсенька,
Напраду танюсенька,
Асную красёнцы ў таку,
Пастаўлю на печы ў кутку,
Табе штонікі адатку
Тоненькі-танюсенькі,
Беленькі-бялюсенькі.
На моры бяліліся,
У лесе сушыліся,
У маглях качаліся,
Дзядульку дасталіся.

## 481. Паддайся, дзедка, паддайся

Паддайся, дзедка, паддайся,
На другіх не заглядайся.
Другія з ума звядуць,
З ножак боцікі здзяруць.
У садзі чырвоныя вішні —
Дзядулька па маей мыслі.
Паддайся, дзедка, паддайся,
На лепшых не спадзявайся.
Хоць жа я не ладная —
Хустачка ядвабная.
Хоць жа я не пральнічка,
Хоць жа я не ткальнічка,
Пастаўлю красенцы ў кутку,
Дзядульку штонікі вытку
Тонкія-таненькія,
Белыя-бяленькія.

### 482. А дайся, дзядулька, дайся

А дайся, дзядулька, дайся,
На другіх ні заглідайся,
А ці я не праллейка,
А ці я не ткаллейка?
Пастаўлю красенцы ў кутку
За цэлы гадочак вытку,
А свайму дзядулічку
Пашыю кашулічку.
Хоць жа я ножачку зламлю,
Я свайго дзядульку злаўлю.
Хоць жа я павалюся,
За дзядзькам паганюся.

### 483. Паддайся, дзядулька, паддайся

Паддайся, дзядулька, паддайся,
На другіх не заглядайся,
Другія не лепшыя,
Горшыя, дурнейшыя.
Другія цябе звядуць
Таўстую кашульку дадуць,
А я дам таненькую,
Белую-бяленькую.

## 3.3. ЗАДАВОЛЕНАСЦЬ «ШЛЮБАМ», УЗВЕЛІЧЭННЕ «ДЗЯДУЛЬКІ», ПАХВАЛЫ ЯМУ

### 484. Дзякуй табе, мамачка

Дзякуй табе, мамачка,
Дзякуй табе, татачка,
За вашыя добрыя дары,
Што добрага дзеда далі.
Дзякуй, мамка, за тое,
Што дала шчасце такое,
Шчасцейка шчаслівага —
Дзядульку красівага.

### 485. Дзякуй табе, татачка

Дзякуй табе, татачка,
Дзякуй табе, мамачка,

За вашы добрыя дары,
Што добрага дзеда далі.
Я нікога не баюся,
За дзядулькам паганюся,
Я нікому не сказала —
Усіх дзевак ашукала.

### 486. Пайду я ў сад па вішні

Пайду я у сад па вішні,
Далі дзеда мне пад мыслі.
Я яго сама ні брала,
Ад бацькоў парады ждала,
Дзякуй табе, татачка,
Дзякуй табе, мамачка,
За вашы добрыя дары,
Што добрага дзеда далі,
Дзядульку лагоднага,
Як летца, пагоднага.

### 487. На небе звёздачкі йгралі

На небе звёздачкі йгралі,
Любага мне дзеда далі,
Іграйце, звёздачкі, да дня,
Над майго лепшага німа!

### 488. На небе зоркі пасталі

На небе зоркі пасталі,
Дзяцюкі дзевак пабралі.
Свяціце, зорачкі, да дня,
Над майго лепшага няма,
Свяціце, зорачкі, да свету,
Над майго лепшага нету!

### 489. Я думала — сонца ўсходзіць

Я думала — сонца ўсходзіць,
Аж там мой дзядулька ходзіць.

Я ж думала — ліпа цвіціць,
Аж там мой дзядулька сядзіць.

### 490. Цярэшка, Цярэшачка

Цярэшка, Цярэшачка,
Убітая сцежачка.
Бягу я сцежачкай трушком,
Засыпала сцежачку сняжком.
Я думала — сонца ўсходзіць,
Аж там мой дзядулька ходзіць,
Я думала — зара гарыць,
Аж там мой дзядулька сядзіць.
Пойдзем мы на лавачку,
Сядзем мы у парачку,
Ня будзім другіх любіць,
Будзім да сябе хадзіць.
Другія ня лепшыя,
За мяне пушчэйшыя.

### 491. Цярэшка — добрае дзела

Цярэшка — добрае дзела,
Далі мне добрага дзеда.
Можна з ім у пір(ы)ісці,
Можна з ім дома жыці:
Ў пір ійсці — нацешыцца,
Дома жыць — нагледзіцца.

### 492. А божа мой міленькі

А божа мой міленькі,
Сасніўся сон дзіўненькі:
Відзела каня варанога,
Што павёз майго мілога.

### 493. Пастаўлю рутачку на акне

Пастаўлю рутачку на акне,
Дайце дзядулечку па мне.

Зняла я рутачку з акна —
Далі дзядулечку, як я.

## 494. Серая зязюлічка

Серая зязюлічка
Па саду кукавала,
Ўсю гэту нядзелічку
Дзядульку выбірала.
І ні кукуй, кукушачка,
Ні кукуй, шарэнькая,
Прыслалі мне новасці
Пра майго міленькага.

## 495. У зялёным садзіку

У зялёным садзіку
Зязюля вярцелася,
Далі мне дзядулічку,
Якога хацелася.
Белая рубашачка,
Чорная фуражачка,
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглідаюцца.

## 496. І ў гародзе роза цвіцела

І ў гародзе роза цвіцела,
Выбрала, каго захацела,
Ня думала й ні гукала,
Усіх дзевачак ашукала.

## 497. Дзевачкі, сястрыцы мае

Дзевачкі, сястрыцы мае,
Рабілі вы хітра мне.
Я за вас хітрэйшая,
Выбрала вумнейшага,
За вашых красівейшага.

### 498. Цвіцела ружа, цвіцела

Цвіцела ружа, цвіцела,
Далі мне, каго хацела:
Белага, румянага,
Русага, кудравага.
У яго курчыкі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.

### 499. Цвіцела ружа, цвіцела

Цвіцела ружа, цвіцела,
Далі мне, каго хацела.
Цяпер жа пагуляю,
Як рыбка па Дунаю,
Выйшаўшы, страхануся,
Дзядульку наругнуся.

### 500. А ў саду зялёненькім

А ў саду зялёненькім
Зязюля вярцелася,
Далі мне дзядулечку,
Каго мне хацелася:
А ў беленькай рубашачцы,
А ў чорненькай фуражачцы,
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглядаюцца.

### 501. Брава, дзевачкі, брава

Брава, дзевачкі, брава,
Далі дзеда кучарава,
Як ідзець па вулачцы,
У яго кудзеркі ўюцца,
У яго кудзеркі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.
Дзевачкі, ня біцеся,
Я ж буду любіціся.

## 502. Пайду я ў зялёны садок

Пайду я ў зялёны садок,
Сарву я півоні цвяток,
Сарву я дзве парачкі,
Дзеду на падарачкі.

## 503. Пайду я ў зялёны садок

Пайду я ў зялёны садок,
Сарву я яблычкаў пяток,
Аддам я дзядульку з'есці,
Каб із ім умесці сесці.

## 504. Пайду я ў зялёны садок

Пайду я ў зялёны садок,
Сарву я ружовы цвяток.
Нада мне ў хустачку ўвязаць,
Ня буду нікому казаць,
А скажу, дзядулька, табе:
«Ці будзеш любіць мяне?»

## 505. Пайду я па ельнічку

Пайду я па ельнічку,
Пайду па бярэзнічку,
Арэшкі кусаючы,
Дзядульку шукаючы.
А вунь мой дзядулька ідзець,
У руках цвяточак нясець,
З цвяточка любуецца,
Із другой цалуецца.

## 506. Пайду я па гародзе

Пайду я па гародзе
У дзявочым карагодзе,
Арэшкі лускаючы,
Дзядульку шукаючы.

Дзевачкі, сястрыцы мае,
Нарайце дзядульку мне!
Мой дзядзька далёка відаць,
На руках пярсцёнкі блішчаць,
На грудзях цэпачка з часоў —
Мой дзядзька гуляць пайшоў.

## 507. Як пайду я ж і вечарком

Як пайду я ж і вечарком,
Ляжыць дзядулька пад тынком.
Тыночак навюсенькі,
Дзядулька п'янюсенькі.
Калі выпіў, дык нічога,
Цяпер жа такіх многа,
Калі выпіў — ну дык што?
Ня піў бы, каб ня меў за што.
Я ж яму ручку падала
І ў Цярэшку прывяла.

## 508. Цярэшка, Цярэжачка

Цярэшка, Цярэжачка,
Цiраз двор дарожачка,
Дарожка таптаная,
Цярэшка каханая!
А мой ты дзядулечка,
Я ж твая бабулечка,
Я цябе люблю, люблю,
Кашульку куплю, куплю.
Кашульку куплю, куплю
З чырвоным каўнерычкам,
З чырвоным каўнерычкам,
Каб ты быў жаўнерычкам!

## 509. Мой дзядулька далёкі

Мой дзядулька далёкі
Маіць землі тры валокі,
І дзесяціну лесу,
І пуд золата весу.

Я золата пераважу,
Дзядульку не зняважу.
Я золата пералічу,
Дзядульку падвялічу.

### 510. Дзевачкі, ў Цярэшцы слава

Дзевачкі, ў Цярэшцы слава,
З харошым у радзе стала.
У яго кудзіркі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.

### 511. Божа мой, вяліка слава

Божа мой, вяліка слава,
З красівым дзядулькам стала.
Беленькі, румяненькі,
Ён мне панараўненькі.

### 512. Божа мой, вяліка слава

Божа мой, вяліка слава,
З багатым ў Цярэшку стала:
На нагах боцікі блішчаць,
У карманах дзенюжкі звіняць.
У яго кудзеркі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.
Дзевачкі, ня біціся —
Мы будзем любіціся.

### 513. Божа мой, вяліка слава

Божа мой, вяліка слава,
З багатым у пары стала:
У клеці аруды поўны,
Конікі з страхою роўны,
Конікі каштанікі,
Сам белы-румяненькі,
На плячах кашулькі шашчаць,
На нагах боцікі блішчаць.
У яго валоскі ўюцца,

За яго дзяўчаты б'юцца.
Дзевачкі, ні нада біцца —
Багаты і мне згадзіцца.
Да каго ж ён прыхінецца,
Таму ж ён і дастанецца.

### 514. Божа мой, вяліка слава

Божа мой, вяліка слава,
З багатым я дзедам стала:
У клеці гаруды трашчаць,
На стайні конікі стаяць,
У клеці гаруды поўны,
Конікі з страхою роўны.

### 515. Не ўважайце, дзевачкі

Не ўважайце, дзевачкі,
Што мой дзед маленечкі.
Да хоць жа ён маленькі,
Але ён багаценькі:
На нагах боты блішчаць,
У карманах чырвонцы брашчаць,
А ў свірнах аруды поўны,
Конікі з страхою роўны.

### 516. Пайду я каля хаты

Пайду я каля хаты,
Сарву кусточак мяты.
Кусточак бухмаценькі,
Дзядуля багаценькі.

### 517. Божа мой, багата хата

Божа мой, багата хата,
Далі мне дзеда-салдата.
Ен ідзець — аж полы гнуцца,
За яго дзевачкі б'юцца.
Дзевачкі, не нада біцца,
Ня буду із ім любіцца.

### 518. Божа мой, багата хата

Божа мой, багата хата,
Далі мне дзеда-салдата.
Ён жа ёсць вучоненькі,
Як рэмень, кручоненькі.

### 519. А мой дзедзька на 'хоту пайшоў

А мой дзедзька на'хоту пайшоў,
Ён сабе арэшак найшоў,
Арэшак нілушчоны,
Дзядулька нівянчоны.
Дадуць мне на сем гадзін,
Пойдзіць ён дамоў адзін,
Дадуць мне гуляць аж да дня,
Пайду я дамоў адна!

### 520. Мой дзедзька на 'хоту пайшоў

Мой дзедзька на 'хоту пайшоў,
Ён сабе арэшак найшоў,
Арэшак нілушчоны,
Мой дзедзька нівянчоны,
Арэшак лушчыць будзім.
Дзядульку жаніць будзім.

### 521. Раскажу вам, дзеўкі, расказ

Раскажу вам, дзеўкі, расказ:
Ездзіў мой татка на кірмаш.
Ён жа мне сукенку купіў,
Каб мяне дзідзька любіў;
Купіў мне белы варатнік,
Каб ад мяне дзедка не адвык,
А хустачку цветную,
Каб была заметнаю,
Каб мяне дзядулька пазнаў,
Каб мяне бабулькаю зваў.

### 522. Ой, дзевачкі ў радзі стаяць

Ой, дзевачкі ў радзі стаяць,
На майго дзядульку глядзяць.

Дзевачкі, ні глядзіце,
Дзядулькі ні ўрачыце.

### 523. Мой дзедзічка харош, харош

Мой дзедзічка харош, харош,
На пана пахож, пахож,
Кудры завіваюцца,
Дзевачкі ганяюцца.

### 524. Мой дзедзька харош, харош

Мой дзедзька харош, харош,
На пана пахож, пахож.
Мой дзедзька у шапачцы,
У чырвонай рубашачцы,
Кудры завіваюцца,
І дзевачкі чапляюцца.

### 525. Мой дзядзька харош, харош

Мой дзядзька харош, харош,
На пана пахож, пахож:
Ходзіць у камашыках,
Залатых пры часіках.
Яго кудзёркі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца,
Кудры развіваюцца,
Дзевачкі чапляюцца.

### 526. Мой дзядзька харош, харош

Мой дзядзька харош, харош,
На пана пахож, пахож.
Мядочык салодзенькі,
Дзядулька малодзінькі.
І на ім жа боцікі скрыпяць,
На яго дзевачкі глядзяць.
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглідаюцца.

### 527. Мой дзедзька харош, харош

Мой дзедзька харош, харош,
Хоць за пазуху залож.
Залажыла б я за душу,
Дык баюся, што задушу.

### 528. Мой мілінькі харошы

Мой мілінькі харошы,
Надзеў на ножкі галошы,
На ручкі надзеў пыльчаткі,
Каб любілі яго дзіўчаткі.

### 529. Мой дзедзька харошанькі

Мой дзедзька харошанькі,
На нагах галошанькі,
На руках пальчатачкі,
Люблю яго, дзяўчатачкі.

### 530. Мой мілы у шапачца

Мой мілы у шапачца,
Ў беленькай рубашачца,
Кудры завіваюцца,
Дзевачкі ганяюцца.

### 531. Пайду ў зялёны садок

Пайду у зялёны садок,
Наламаю ветачак,
Мой дзядок харошанькі
Купіць мне канфетачак.
Пад акном цвяток сіні,
Пад другім сінейшанькі,
Усе й дзяды красівыя,
А мой красівейшанькі.

### 532. Пайду я ў зялёны садок

Пайду [redacted] ў зялёны садок,
Сарву вінаграду сучок,
Вінаград салодзенькі,
Мой дзядок малодзенькі.

### 533. Пайду я каля саду

Пайду я каля саду,
Зламлю я вінаграду,
Вінаградзік сіненькі,
Дзядулька красівенькі.

### 534. Шумліва сасонка ў бары

Шумліва сасонка ў бары,
Казалі, мой дзед стары,
А мой дзедзька малодзенькі,
Як яблычак, салодзенькі.

### 535. Хаджу кругом саду

Хаджу кругом саду,
Знайду куст вінаграду,
Вінаград салодзенькі,
Дзядулька малодзенькі,
Вінаград ня ломіцца,
Дзядулька ня ловіцца.
Пайду я каля хаты,
Знайду я кусток мяты,
Кусток мяты бухматы,
Мой дзядулька багаты.
Пайду я у садочык,
Знайду я васілёчык,
Васілёчык сіненькі,
Мой дзедзька красівенькі.

### 536. Ельнічак зялёненькі

Ельнічак зялёненькі,
Мой дзядок малодзенькі,

Ельнічак кудравенькі,
Мой дзядулька бравенькі.

### 537. Цярэшка цярэх, цярэх

Цярэшка цярэх, цярэх,
Мой мілы з арэх, з арэх.
Арэшак салодзенькі,
Мой мілы малодзенькі.

### 538. Дзевачкі, зманлівыя вы

Дзевачкі, зманлівыя вы,
Казалі, мой дзед стары,
Аж ён і малодзенькі,
Як мядок, салодзенькі.

### 539. Мой дзедзька малодзенькі

Мой дзедзька малодзенькі,
Як мядок, салодзенькі,
На галоўца валоскі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.
Дзевачкі, ня біціся,
Мы ж будзім любіціся,
Дзевачкі, не нада біцца,
Мы ж будзім з ім жаніцца.

### 540. Мой дзедзька малодзенькі

Мой дзедька малодзенькі,
Як мядок, салодзенькі,
На ножках боцікі блішчаць,
На яго дзевачкі глідзяць.
Дзевачкі, ні глядзіця,
Дзядулькі ні звадзіця!

### 541. Пайду я ў садочак

Пайду я ў садочак,
Сарву я васілёчак.

Васілёчак сіненькі,
Мой дзядулька міленькі,
Васілёчак найсінейшы,
Мой дзядулька наймілейшы.

### 542. Васілёчык сіненькі

Васілёчык сіненькі,
Мой дзедзька красівенькі,
Васілёк за ўсіх сіней,
Мой дзедзька ад усім красівей.

### 543. Пайду я у садочык

Пайду я у садочык,
Знайду я васілёчык.
Васілёчык сіненькі,
Мой дзедзька красівенькі,
Васілёк бухмаценькі,
Мой дзедзька багаценькі,
Васілёчык крэпка пахніць,
Мой дзедзька па мне чахніць.

### 544. Васілёчык сініനькі

Васілёчык сінінькі,
Дзядулька красівінькі,
Васілёк за ўсіх сіней,
Мой дзядулька за ўсіх красівей.
Да каб жа я ведала,
Схадзіла б пераведала,
У хатачцы б пасядзела,
На яго жыццё паглядзела б.

### 545. Мой дзядулька слаўненькі

Мой дзядулька слаўненькі,
І з лічка ён беленькі,
У яго валоскі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.

## 546. Мой дзедзька удаленькі

Мой дзедзька удаленькі,
Беленькі, румяненькі,
У яго кудрачкі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.
Дзевачкі, ня біцеся,
Дайце палюбіціся.

## 547. І мой дзедзька харошынькі

І мой дзедзька харошынькі,
Як мядок, салодзенькі,
Беленькі, румяненькі,
Дзядулька удаленькі.

## 548. У каморы на ложы

У каморы на ложы
Сядзіць дзядулька прыгожы,
Яго вочкі, як у павы,
Добрай чэсці, добрай славы,
І броўцы чарненькія,
І слоўцы міленькія.

## 549. Мой дзядулька пекненькі

Мой дзядулька пекненькі,
Як сняжочык, белінькі,
Сінінькая шапачка,
Белая рубашачка,
На грудзях часікі вісяць,
На нагах боцікі блішчаць.

## 550. Выскачыў зайка з гаю

Выскачыў зайка з гаю,
Я свайго дзядульку знаю:
Тонінькі, высоканькі,
Паясок шаўковенькі.

У яго боцікі блішчаць,
На яго дзевачкі глідзяць.

## 551. Сыпала пшаніцу з мяшка

Сыпала пшаніцу з мяшка,
Відзіла дзядульку-дружка.
Дзядулька — багаты панок,
Купіць мне у Вільні вянок.
Вяночак пазлачаны,
Дзядулька нівянчаны,
Вянок пазлачаць будзім,
Дзядульку вінчаць будзім.

## 552. Мой дзедзька прыгожы, як пан

Мой дзедзька прыгожы, як пан,
У яго цукерак карман,
У яго кудзеркі ўюцца,
За яго дзяўчаткі б'юцца.
Дзевачкі, ня біцеся,
Дайце нам злавіцеся.

## 553. Пайду я у сад глядзець

Пайду я у сад глядзець,
Дзе мая ружа расцець.
Расцець ружа і каліна,
Мой дзядулька, як маліна:
На нагах боцікі блішчаць,
У кішэні грошыкі бражджаць,
У яго кудрачкі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.

## 554. Пайду я каля саду

Пайду я каля саду,
Выламлю вінаграду,
Вінаград ня ломіцца,
Дзядулька ня ловіцца.

Пайду я у сад глядзець,
Дзе мая рожа расцець.
Расцець рожа і каліна,
Мой дзядулька, як маліна:
На нагах боцікі блішчаць,
У кішэні грошыкі бразджаць,
У яго кудрачкі ўюцца,
За яго дзевачкі б'юцца.
Цвіцела рожа, цвіцела,
Далі мне, каго хацела.
Цяпер жа я пагуляю,
Як рыба на Дунаю.
Вышаўшы, страхануся,
Дзядулечку наругнуся.

### 555. Мой мілы пайшоў гуляць

Мой мілы пайшоў гуляць,
Ён здалёк усім відаць:
У чорнай тужурачкі,
У белай рубашачкі,
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглядаюцца,
Відаць чэпачка з часоў —
Ён жа пагуляць гатоў.

### 556. Пайду [redacted] па гароду

Пайду я па гароду
У дзявоцкім карагоду,
Арэшкі лускаючы,
Дзядульку шукаючы.
Дзевачкі, сястрыцы мае,
Нарайце дзядульку вы мне.
Мой дзедзька далёка відаць:
На руках пярсцёнкі блішчаць,
На грудзях цэпачка з часоў —
Мой дзедзька гуляці пайшоў.

### 557. А ў майго дзядулінькі

А ў майго дзядулінькі
Бацінкі шаўровыі,

Чулочкі шалковыі.
Бацінкі скрыпяць, скрыпяць,
Чулочкі шумяць, шумяць.

## 558. Ехаў мой мілы ў сваты

Ехаў мой мілы ў сваты
Каля самай маёй хаты:
Конікі каштанікі,
Грывачкі курчавенькі,
Падкоўкі блішчаць, блішчаць,
Званочкі звіняць, звіняць.

## 559. Пайду я праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як мой дзядулька арэць:
Конік вараненечкі,
Сам ён маладзенечкі,
Пужанька пяньковая,
Шапачка шаўковая,
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглядаюцца.
Я тыя кудры разаўю,
Я тых дзевак адаб'ю.

## 560. Пайду ■ праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як там мой дзядулька арэць:
Сошачка дубовая,
Пужачка шаўковая,
Конік вараненечкі,
Сам ён маладзенечкі.

## 561. Пайду я праз тын глядзець

Пайду я праз тын глядзець,
Як жа мой дзядулька арэць:
Сошачка дубовая,
Упражка шаўковая,

Конік вараненечкі,
Сам ён маладзенечкі,
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглідаюцца.

### 562. Пайду [redacted] за ток глядзець

Пайду [redacted] за ток глядзець,
Як там мой дзядулька арэць.
А конік мушаціенькі,
Дзядулька багаціенькі,
А конік вараненькі,
Дзядулька маладзенькі,
А конік пляснівіенькі,
Дзядулька красівіенькі,
А конік буланенькі,
Дзядулька ўдаленькі.

### 563. Пайду ў зелен сад глядзець

Пайду ў зелен сад глядзець,
Як мой міленькі арэць:
Сошачка ліповая,
Пужачка шаўковая,
Конік вараненькі,
А сам маладзенькі.

### 564. Пайду [redacted] у поле глядзець

Пайду я у поле глядзець,
Як жа мой дзядулька арэць:
Сошачка дубовая,
Пужачка пяньковая,
А конік вараненькі,
Дзядулька маладзенькі.

### 565. Пайду я на вулку глядзець

Пайду я на вулку глядзець,
Як жа мой дзядулька арэць.

Арэць мой дзядулька, арэць,
Сошачку з сабою бярэць.
Сошачка дубовая,
Пужачка пяньковая,
А конік вараненькі,
Мой дзедзька маладзенькі.

### 566. Пайду я у сад, у сад

Пайду ■ у сад, у сад,
Мой дзедзька вусат, вусат.
Вусікі сівенькія,
Яны ж мне міленькія.
Хоць галоўка лысая,
Яна ж мне памыслая.

### 567. Казалі, мой дзед нічога

Казалі, мой дзед нічога,
Насеіў пшаніцы многа.
Я гэту пшаніцу сажну,
Дзядульку пірог спяку.

### 568. Казалі, мой дзед нічога

Казалі, мой дзед нічога,
Насеяў пшанічкі многа.
Пайду я бога прасіць,
Каб памог снапкі насіць.
А я бога ні ўпрасіла,
Сама снапочкі панасіла.

### 569. Казалі, мой дзед нічога

Казалі, мой дзед нічога,
Насеіў пшаніцы многа.
Вырасла пшанічка дабра,
Над майго лепшага німа.

### 570. Казалі, мой дзед нічога

Казалі, мой дзед нічога,
Насеяў пшаніцы многа.
Пайду я пшанічку жаць,
Дзядулька — снапкі вязаць.

### 571. Казалі, мой дзед нічога

Казалі, мой дзед нічога,
Пасеіў пшаніцы многа.
Пшаніца ні ўдалася,
Я ўдавой засталася.

### 572. Казалі, мой дзед нічога

Казалі, мой дзед нічога,
Пасеіў пшаніцы многа.
Пшаніца удалася,
Я й з дзедзькам абнялася.

### 573. І далі мне дзеда нічога

І далі мне дзеда нічога,
Насеіў пшаніцы многа.
Пшанічка ўрадзілася,
Што я нахадзілася,
Курэй наганялася,
З людцаміругалася.
Будзім і жаць, малаціць,
Будзім мы і піва варыць,
Будзім мы і піва варыць,
Будзім мы дзяцей жаніць.

### 574. Казалі, мой дзед нічога

Казалі, мой дзед нічога,
Насеіў пшанічкі многа.
А будзім мы піва варыць,
Будзім мы дзядоў паіць.

## 575. Казалі, мой дзед нічога

Казалі, мой дзед нічога,
Насеіў пшанічкі многа.
Ўдалася пшанічка з ядра,
Нап'ёмся гарэлкі з вядра.

## 576. Мой дзядок з чужога сяла

Мой дзядок з чужога сяла,
Яго сюды Цярэшка прывяла,
Ён прыйшоў сюды Цярэшку жаніць,
Каб мяне за бабку злавіць.

## 577. Маю я ад бога надзею

Маю я ад бога надзею,
Прыйдзе мой мілы ў нядзелю,
Не ў гэту, у другую,
Для яго абед згатую.
На стаўпе каплун пячоны,
А ў ступе перац таўчоны,
На стале пляшка гарэлкі,
За сталом паніч з паненкай.

## 578. Маю я у бога надзею

Маю я у бога надзею,
Прыдзіць мой дзедзька ў нядзелю,
Ня ў гэту, дык у тую,
Я яму абед згатую.
Перац у ступе таўчэцца,
Кабан у печы пячэцца.
Перац на прыправачку,
А кабан у стравачку.

## 579. Маю я 'д бога надзею

Маю я 'д бога надзею,
Прыедзіць мілы ў нядзелю,

Ня ў гэту, дык у тую,
Я яму абед згатую:
У печы пятух пячэцца,
У ступі маслюк таўчэцца.

### 583. Паіла коніка ў вядрэ

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла рыбачку на дне.
Смачная рыбачка язёк,
Пацалуй, дзядулька, разок,
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз!

### 580. Смачная рыбачка акунь

Смачная рыбачка акунь,
Ты скажы, дзядулька, адкуль?
Ды каб жа я ведала,
Я б цябе адведала.

### 581. Смачная рыбачка акунь

Смачная рыбачка акунь,
Ты скажы, дзядулька, адкуль?
Ды каб жа я ведала,
Схадзіла б, адведала,
Я б сядзела, сядзела,
На цябе ўсё глядзела.

### 582. Смачная рыбачка акунь

Смачная рыбачка акунь,
Скажы мне, дзядулька, адкуль?
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз!

### 584. Смачная рыбачка шчучка

Смачная рыбачка шчучка,
Лёгкая ў мілага ручка.

Смачная рыбачка акунь,
Скажы, мой міленькі, адкуль?
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, мой міленькі, хоць раз.

**585. Паіла коніка ў вядрэ**

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла рыбку на дне,
Рыбка пекная, як язь,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз!

**586. І паіў дзед каня ў вядрэ**

І паіў дзед каня ў вядрэ,
Улавіў рыбачку на дне.
Ах ты, рыбачка язёк,
Пацалуй, дзядулька, разок!

**587. Смачная рыбачка акунь**

Смачная рыбачка акунь,
Ды скажы, мой мілы, адкуль?
Смачная рыбачка шчучка,
Мяккая мілага ручка,
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, мой мілы, хоць раз.

**588. Паю я коніка ў вядрэ**

Паю я коніка ў вядрэ,
Віджу я рыбіну на дне,
А рыбінка не карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз.

**589. На 'концы рыбачка шчучка**

На 'концы рыбачка шчучка,
Мяккая ў дзядулькі ручка,

На 'концы рыбачка карась,
Пацалуй, дзедзечка, сто раз.

**590. Паіла каня ў вядрэ**

Паіла каня ў вядрэ,
Відзіла рыбку на дне.
Добрая рыбка акунь,
Скажы, дзядулька, адкуль?
Добрая рыбка шчучка,
Цёплая ў дзядулькі ручка.

**591. Паіла коніка ў вядрэ**

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзела рыбачку на дне.
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзедзечка, хоць раз,
Смачная рыбачка язёк,
Пацалуй, дзедзечка, разок.

**592. Паіла коніка ў вядрэ**

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла рыбінку на дне.
Ой, ня рыбка, ды карась,
Паддайся, дзядулька, хоць раз.

**593. Паіла коніка ў вядрэ**

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла я рыбку на дне.
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз.

**594. Паіла коніка ў вядрэ**

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла рыбачку на дне.

Смачная рыбачка акунь,
Скажы, мой дзядулька, адкуль?
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз.

### 595. Паіла коніка ў вядрэ

Паіла коніка ў вядрэ,
Відзіла рыбку на дне.
Рыбка добрая карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз,
Рыбка добрая язёк,
Пацалуй, дзядулька, разок.

### 596. Смачная рыбачка шчучка

Смачная рыбачка шчучка,
Мяккая мілага ручка.
Смачная рыбачка акунь,
Да скажы мне, мілы, адкуль?
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, мой мілы, хоць раз.

### 597. Ішла [redacted] на рэчку, на стаў

Ішла я на рэчку, на стаў,
Мой дзедзька рыбачку дастаў.
Смачная рыбачка шчучка,
Мяккая дзедзькава ручка.
Смачная рыбачка акунь,
Скажы, мой дзедзька, адкуль?
Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзедзька, хоць раз.

### 598. Пайду я каля мора

Пайду я каля мора,
Налаўлю рыбкі скора.
Смачная рыбачка акунь,
Ты скажы, дзядулька, адкуль?

Смачная рыбачка карась,
Пацалуй, дзядулька, хоць раз.

### 599. А пайду я туды глядзець

А пайду я туды глядзець,
Дзе мой мілы з вайны ідзець. (2)

Як мой мілы з вайны ідзець,
Ён коніка ў руках вядзець. (2).

Я коніка за 'бротачку,
А мілага за ручачку. (2)

Я коніку — вады, сянца,
А міламу — мёду, вінца. (2)

### 600. Ты дзядулька мой родненькі

Ты дзядулька мой родненькі,
Купі платок модненькі.
Цяпер мода на платкі —
Ўся галовачка ў квяткі,
Цяпер мода новая —
Платкі дасіновыя.

### 601. Дзевачкі, сястрыцы мае

Дзевачкі, сястрыцы мае,
Памажыце гору майму,
Дам жа вам гасцінца з'есці,
Пасобце дзядульку весці.
Мой дзедзька мілюсінькі,
Дужа ён п'янюсінькі,
Учора бабра злавіў,
Сягоння за ноч прапіў.

### 602. А у нашай вулачцы

А у нашай вулачцы
Стаіць конь вараненькі.

А на гэтым коніку
Прыехаў мой міленькі.
Я свайго дзідзька не знала,
Я яго тады не ждала.
Як буду цяпер яго знаць,
Буду я яго праважаць.
Дам яму букецік цвятоў,
Каб ка мне ў нядзельку прыйшоў,
Дам яму руцяны вянок,
Каб ён помніў, дзе мой дамок.
Скажу яму некалькі слоў:
— Гуляй, мой дзядулька, здароў!
Я свайго дзядульку люблю,
Я яму падарак куплю,
Куплю залатое кальцо,
Каб сказаў адно слаўцо.
Скажы слаўцо слаўнае,
Ці буду нараўная,
Скажы слаўцо смелае,
Ці буду я мілая.
Паддайся, дзядулька, паддайся,
На другіх не заглядайся.
Хоць жа я няладная —
Хустачка ядвабная,
Хвартушок картуновы,
Паддайся, дзядулька чарнабровы.

### 603. Не ўсхадзі, зоранька, рана

Не ўсхадзі, зоранька, рана,
Можа, каму ночанька мала.
Мне, маладзе, ночка надаела,
Што з мілым усю ночку сядзела.

## 3.4. НЕЗАДАВОЛЕНАСЦЬ «ШЛЮБАМ», ПАДСМЕЙВАННЕ «ДЗЯДУЛЬКІ», НАРУГАННЕ ЯМУ

### 604. Стаяла рутачка на ’кне

Стаяла рутачка на ’кне,
Стоючы, ды зацвіцела.
Далі дзядулічку мне,
Каго я ні хацела.

### 605. Цярэшка — святое дзела

Цярэшка — святое дзела,
Далі мне сляпога дзеда,
Сляпога, нядужага,
Да дзевак дасужага.

### 606. Цярэшка, Цярэжачка

Цярэшка, Цярэжачка,
Ціраз двор дарожачка,
Бітая, таптаная,
Я ў мамкі каханая.
Я ў мамкі кахалася,
Замуж ні манілася,
Людзі прыгаварылі,
Узялі — ажанілі.

### 607. Я сягоння мылася

Я сягоння мылася,
Замуж не манілася,
Суседзі прыгаварылі,
Нас з табой ажанілі.

### 608. Сягоння ня мылася

Сягоння ня мылася,
Замуж ні манілася,
Суседзі прыгаварылі,
Ня з мілым ажанілі.
Умелі ж прыгаварыці,
Парайце ж, што з ім рабіці?
Каб далі хоць тры грошы,
Быў бы мне другі, харошы.

### 609. У гародзя чырвона рожа

У гародзя чырвона рожа,
Ня буду хваліцца дужа,

Што бог даў добрага мужа:
Як стану работку рабіць,
Тады ён весіл глядзіць,
Як стану, малада, стагнаць —
Каб цябе гэткую ні знаць.

### 610. Шэрая зязюлечка

Шэрая зязюлечка
Па саду паляцела,
Далі мне дзядулечку,
Якога я не хацела.

### 611. Шэрая зязюлечка

Шэрая зязюлечка
У саду кукавала,
Ўсю гэту нядзелечку
Дзядульку выбірала.
Шэрая зязюлечка
Па саду паляцела,
Далі мне дзядулечку,
Якога не хацела.

### 612. Каточак на 'кне сядзіць

Каточак на 'кне сядзіць,
Хвасточак за 'кном дзяржыць.
Лепей мне з катком быці,
Чым жа мне з дзядком жыці —
Ні нада штаноў шыці!

### 613. Ахці мне, вялікая бяда

Ахці мне, вялікая бяда,
Далі мне старога дзяда.
Валей мне з катком быці,
Ня чым з старым дзядом жыці —
Ня ўмею штаноў шыці.

## 614. Зялёна рутачка на акне

Зялёна рутачка на акне,
Не ровен мой мілы ка мне:
Ен росту вышэйшага,
Гонару ніжэйшага.
Прыміце рутачку вы з акна,
Дайце мне мілага, як я:
Хоць росту ніжэйшага,
Гонару вышэйшага.

## 615. На вакне рута зялёна

На вакне рута зялёна,
Я з сваім дзедзькам няроўна:
Ён росту вышэйшага,
Гонару быстрэйшага,
Я росту ніжэйшага,
Гонару цішэйшага.

## 616. Дзевачкі, сястрыцы мае

Дзевачкі, сястрыцы мае,
Прыміце руту з акна,
Прыміце руту з акна,
Дайце дзядульку, як я:
Хоць росту ніжэйшага,
Гонару храбрэйшага.

## 617. Паставілі рутачку на 'кне

Паставілі рутачку на 'кне,
Далі дзядуньку не па мне.
Прыміце рутачку з акна,
Дайце мне дзеда, як я:
Трошачкі вышэйшага,
За мяне ладнейшага.

## 618. Пастаўлю я й кубак на 'кне

Пастаўлю я й кубак на 'кне,
Няровін дзядулька ка мне:

